

# З'ЕЗД КОМСАМОЛА БЕЛАРУСІ

**Да свайго XIX з'езду камсамол Беларусі прышоў узмужнелым, цесна згуртаваным вакол сваёй роднай маці — Комуністычнай партыі. Дружная камсамольская сям'я яшчэ больш павялічыла свае рады. Дарагую сэрцу кніжачку з воблікам вялікага Леніна ў гэтыя дні атрымалі многія маладыя рабочыя, калгаснікі, якія праславіліся стараннай працай. У рады Ленінскага камсамола ўступілі лепшыя школьнікі, якім споўнілася чатырнаццаць год...**

**Камсамол быў, ёсць і будзе актыўным памочнікам партыі, яе верным і надзейным рэзервам. Калі разгарнулася ўсенароднае спаборніцтва ў гонар знамянальнай падзеі — XX з'езду КПСС, камсамольцы дружна сталі на працоўную вахту.**

**І вось юныя патрыёты горада і вёскі ўжо рапартуюць Радзіме аб сваіх першых працоўных поспехах. Яшчэ напярэдадні святкавання гадавіны Вялікага Кастрычніка маладыя будаўнікі трэста № 17 у Мінску выканалі гадавы план будаўнічых работ. Датэрмінова перавыканалі сваю пяцігодку многія маладыя перадавікі прадпрыемстваў Віцебска, Гомеля, Магілёва. Усё шырэй разгортваецца на фабрыках і заводах рух рацыяналізатараў і вынаходцаў, паборнікаў высокай культуры і ўзорнага парадку на вытворчасці.**

**Новых прыкметных поспехаў дасягнула вёска. На неабсяжных калгасных палях вырашчаны добры ўраджай. Такія маладыя майстры, як Люба Бельская з Палесся, Тацяна Нялепка з Гродзеншчыны, Уладзімір Прахіра з Міншчыны, сваім прыкладам даказалі, што і на беларускіх землях можа расці адменная кукуруза.**

**Нядаўна ЦК ЛКСМБ падвёў вынікі спаборніцтва камсамольцаў і моладзі за павелічэнне вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі. Пераможцамі сярод раённых камсамольскіх арганізацый прызнаны камсамольцы Мінскага і Слуцкага раёнаў, сярод пярвічных камсамольскіх арганізацый — камсамольцы калгасаў імя БВА Любанскага раёна, імя Гастэлы Мінскага раёна і «Рассвет» Кіраўскага раёна.**

**Радасныя поспехі, велічныя перспектывы! Але камсамольцы памятаюць дэвіз партыі — не спыняцца на дасягнутым, заўсёды імкнуцца ўперад, дамагацца новых перамог. І таму з трыбуны свайго з'езду пасланцы камсамола рэспублікі ў адзін голас заявяць:**

**— Не пашкадуем сіл, сваёй маладой энергіі для працы на карысць сваёй любімай Радзімы, у імя светлай будучыні — комунізма.**

На здымках:

**1. Удзельнік Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі, звеннявы калгаса «Савецкая Беларусь» Мінскага раёна камсамолец Уладзімір Прахіра.**

**2. Брыгадзір лепшай будаўнічай брыгады трэста № 2 горада Мінска камсамолец Васіль Непачаловіч і член яго брыгады Яўгенія Барodка на будоўлі.**

**3. Выдатніца вучобы вучаніца IX «А» класа 30-ай школы горада Мінска камсамолка Валянціна Сулім.**

Фото С. Чырэшкіна.







Ідуць апошнія дні 1955 года. Многае зроблена за гэты год, вялікіх поспехаў дабіліся рабочыя, калгаснікі, механізатары соцыялістычных палёў. Па праву ганарацца сваімі поспехамі і маладыя свінаркі калгаса імя Сталіна Гомельскага раёна Марыя Корахава, Вера Бабкова і Кацярына Баранава. У гэтым годзе кожная з іх выпрацавала больш чым па тысячы працадзён. Многа грошай, хлеба, бульбы атрымалі яны на працадні.
На здымку (злева направа): М. Корахава, В. Бабкова і К. Баранава.

Фото С. Чырэшкіна.

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання III.

№ 12 (33).

Снежань.

1955.

# ЗА СІНІМ







Зверху ўніз: Пражскія масты; нацыянальныя танцы на Карлавым мосце; Карлавы Вары.

## НА ЧЭХАСЛАВАКІІ

**В. ФЕДАРЫНЧЫК**

**Дарожныя нататкі**

Раніцай мы прыбылі на станцыю Чоп, і праз некалькі гадзін цягнік прыпыніўся на першай чэхаславацкай станцыі Чыерна, гарадка чыгуначнікаў, які раскінуўся ў даліне ракі Тысы.

Мы пераводзім гадзіннікі на дзве гадзіны назад. У кіёску нам прапануюць свежыя нумары «Правды», «Известий». Першы раз бярэм у рукі чэшскія — «Рудэ права», «Млада фронта». Загаварваем з чыгуначнікамі і пераконваемся, што валодаючы беларускай мовай, размова з імі не ўяўляе якіх-небудзь цяжкасцей. У нашых мовах — чэшскай і беларускай — шмат агульнага.

Раніцай наступнага дня цягнік прыходзіць у Прагу.

Злата Прага...

Гэта адзін з прыгажэйшых гарадоў свету. Вузкія вулачкі Старога Мяста (старой Прагі) з своеасаблівай архітэктурай старажытных будынкаў, як ручаі, упадаюць у шырокія, светлыя і ажыўленыя праспекты новага горада. Побач з Градчанамі — гэтай скарбніцай помнікаў старажытнасці — госці Прагі бачаць высокія адміністратыўныя і жылыя памяшканні са шкла і бетону.

Блакітным поясам дзеліць Прагу папалам прыгажуня — Влтава. Вечарамі ў ёй адбіваюцца тысячы агнёў.

На Карлавым мосце з намі па-руску прывіталіся два хлопчыкі. Разгаварыліся. Мілан Якубек і Міхаіл Поспешыл — піонеры, вучні VII класа, выдатнікі. Яны нам расказалі, што іх піонерскі атрад перапісваецца з піонерамі Кіева.

— А як нашаму 214 атраду завязаць перапіску з піонерамі Мінска? — спытаў Мілан.

Мы ахвотна далі патрэбныя адрасы.

Чатыры дні мы прабылі ў сталіцы Чэхаславакіі. І гэтыя дні незабыўных сардэчных сустрэч з жыхарамі Прагі назаўсёды застануцца ў памяці. Мы наведалі маўзалей Клімента Готвальда і музей В. І. Леніна, Градчаны і Слапскую ГЭС, прысутнічалі на пастаноўцы оперы Здэнэка Фібіха «Месінская нявеста» ў Нацыянальным тэатры.

Неяк, вяртаючыся ў гасцініцу «Прага», мы сустрэлі каля пад'езда дзяўчыну. Яна прыехала з кветкамі з Готвальдава, пачуўшы па радыё, што ў Празе знаходзяцца совецкія турысты. Міласлава Адлажылава — піонерважатая — прыехала ў Прагу спецыяльна, каб сустрэцца з намі, паціснуць рукі совецкім турыстам.

— У нас, у Славакіі, у піонерлагеры «Сітна», — расказвала дзяўчына, — некалькі месяцаў таму назад адпачываў мінскі піонер Валерык Собалеў. Зараз я атрымоўваю ад яго лісты.

Але бадай самай цікавай была сустрэча ў Празе нашай турысткі комсамолкі Аляксандры Кузняцовай — супрацоўніцы Мінскай канторы дзяржбанка — з чэхам Мілашам Чэрвеным, эканамістам чэхаславацкага Дзяржаўнага банка. Саша і Мілаш разам вучыліся ў Саратаўскім інстытуце, а сустрэўшыся выпадкова на вуліцы Прагі, пазналі адзін аднаго. Пытанням не было канца. Мілаш з захапленнем успамінаў Саратаў, вучобу ў Совецкім Саюзе.

Надоўга запомнілі мы вечар у Барандове. Пасля агляду замка «Канапішча» і сельскагаспадарчай выстаўкі мы, змораныя, заехалі павячэраць у мясцовы рэстаран. Калі аркестранты даведаліся, што мы — совецкія турысты, у зале разлілася мелодыя песні «Широка страна моя родная». Мы падхапілі. Нам падцягнулі і чэхі, якія знаходзіліся ў зале.

Широка страна моя родная,
Много в ней лесов, полей и
рек, —

лунала песня па зале. У яе ўпляталіся ўсё новыя і новыя галасы.

Я другой такой страны не знаю,
Где так вольно дышит
человек...

Пры апошніх словах песні да мяне нахіліўся чэх, член чэхаславацкага Союза моладзі Іржык Котынек і, засмяяўшыся, сказаў:

— З песні слова не выкінеш... Здаецца, так гавораць у вас. Але цяпер на свеце ўжо многа такіх краін, дзе чалавек вольна дыхае...

Песня яшчэ гучала ў зале, як раптам расчыніліся дзверы і ў рэстаран зайшла група апладыруючых людзей. Не ведаючы яшчэ, хто яны, мы ўсталі і адказалі такімі-ж воплескамі. Потым мы даведаліся, што гэта турысты з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Пачаліся абдымкі, пацалункі. Даспявалі песню ўжо разам — совецкія турысты, чэхі і немцы. І хоць кожны спяваў на сваёй мове, нас усіх нібы радніла ў гэтыя хвіліны велічная і ўрачыстая мелодыя песні аб нашай Радзіме.

Такіх сустрэч за час нашага падарожжа было нямала. У Высокіх Татрах мы пазнаёміліся з кітайскімі дэлегатамі, з карэспандэнтам італьянскай газеты «Уніта», у Татранскай Ломніцы пасябравалі з венгерскімі турыстамі.

Дзе мы ні былі, усюды бачылі сапраўдны росквіт эканомікі і культуры народнай Чэхаславакіі. Усю рэспубліку мы праехалі на выдатных чэхаславацкіх аўтобусах «Шкода». Легкавыя аўтамабілі па праву лічацца гордасцю айчыннага аўтамабілебудаўніцтва. Чэхаславакія мае высокаразвітую цяжкую індустрыю, будуе дзесяткі новых прадпрыемстваў і гарадоў. Камбінат «Світ» раней быў уласнасцю буйнейшага капіталіста Баці. Зараз

Беларускія турысты ў Татрах.



# ДУНАЕМ, ЗА ВЛТАВАЙ...

гэтае прадпрыемства, якое стала народным, вырабляе лепшы ў свеце абутак. Тут адкрыты спецыяльныя школы для падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў рабочых. Нядаўна пушчаная ў строй Слапская ГЭС дала прамысловы ток прадпрыемствам Прагі. Хутка яна будзе даваць электраэнергію ўсёй Чэхаславакіі.

У Празе мы пабывалі на выстаўцы «10 год з дня вызвалення Прагі Савецкай Арміяй», у Готвальдаве слухалі канцэрт мастацкай самадзейнасці рабочых прадпрыемства «Світ», у Карлавых Варах бачылі новыя здраўніцы для працоўных, у Браціславе наведалі Нацыянальны музей Славакіі. Побач з хвалюючымі расказамі аб сённяшняй Чэхаславакіі нам давялося пачуць ад сяброў-чэхаў шмат легенд і паданняў аб далёкай мінуўшчыне.

На Слапскай ГЭС мы сустрэліся з Антонам Вайцэховічам Швеўка. Комуніст з 1921 года, ён доўгі час жыў і працаваў у Совецкім Саюзе. Зараз, паказваючы совецкім сябрам айчынную электрастанцыю, ён усхвалявана гаворыць:

— Будаваць па-новаму і жыць свабодна мы навучыліся ў вас. Шчырае дзякуй Совецкаму Саюзу, усім совецкім людзям за мудрую навуку, за дапамогу.

«З Совецкім Саюзам на вечныя часы!»

Гэтыя словы мы чулі не раз, чыталі на лозунгах, у газетах і часопісах. І мы верым: яны ідуць ад самага сэрца!..

## У НАРОДНАЙ ВЕНГРЫІ

**Юры АРУЦЮНЯН**

**З блакнота турыста**

«Добро пожаловать, дорогие друзья!..» З гэтым традыцыйным прывітаннем звярнуўся на правільнай рускай мове малады лейтэнант, адзін з тых першых жыхароў Венгрыі, што сустракалі нас на пагранічнай станцыі Захань. Гасціннасцю, сардэчнасцю, увагай мы былі акружаны ўвесь час нашага кароткага падарожжа па Венгрыі.

Сярод совецкіх турыстаў былі людзі самых разнастайных прафесій: пісьменнікі і журналісты, рэжысёры і акцёры, архітэктары, работнікі спартыўных таварыстваў, супрацоўнікі навукова-даследчых інстытутаў, будаўнікі, рабочыя. Кожны хацеў пазнаёміцца з работай устаноў, блізкіх яго спецыяльнасці, з творчасцю нашых венгерскіх сяброў у галіне літаратуры і мастацтва.

Я з групай совецкіх журналістаў наведаў рэдакцыю газеты «Неп спорт» («Новы спорт»). Вялікім было наша здзіўленне, калі на стале аднаго з супрацоўнікаў, загадчыка аддзела спартыўных гульняў тав. Ласка Ніскача, мы ўбачылі свежы нумар «Советскага спорту». Аказваецца, газеты з Совецкага Саюза прыходзяць у Будапешт на наступны дзень пасля выхаду. У магазіне «Гарызонт», насупраць гасцініцы, можна знайсці і «Праўду» і іншыя газеты, часопісы і кнігі на рускай мове.

Ласка Ніскач, даведаўшыся аб нашым жаданні пазнаёміцца з сістэмай практычных заняткаў па фізічнаму выхаванню ў школах, з прыемнасцю ўзяўся быць нашым правадніком.

Першая школа, дзе мы прысутнічалі на ўроках, была мужчынская гімназія імя Шандара Петэфі.

— Добра, што вы прышлі сёння, — ветліва сустрэў нас дырэктар школы Боткаш Лайоншэ. — Сёння заняткі праводзіць адзін з практыкантаў, студэнт IV курса вышэйшай спартыўнай школы Іштван Холаш. Гэта — яго першы ўрок.

У вялікай спартыўнай зале шмат святла. Дваццаць восем юнакоў выконваюць комплекс гімнастычных практыкаванняў. Нават без ведання венгерскай мовы няцяжка заўважыць, што малады педагог ведае сваю справу.

У жаночай гімназіі імя Сілады Ержэбет нам паказалі добра абсталяваныя кабінеты хіміі, фізікі, біялогіі. З асаблівай павагай і гонарам гавораць вучні і выкладчыкі аб сваёй школьнай бібліятэцы. У ёй, побач з творамі класікаў венгерскай паэзіі — Шандарам Петэфі, Міхаем Верэшмарты, Юноша Аранем, майстрамі прозы — Кальманам Міксатам і Жыгмандам Морыцам, вы бачыце творы класікаў рускай і сусветнай літаратуры: Пушкіна, Некрасава і Гогаля, творы совецкіх празаікаў і паэтаў.

— Усе гэтыя кнігі маюць вялікі попыт, — тлумачыць нам выкладчык рускай мовы т. Кафлановіч.

Наступны дзень прысвечаны знаёмству з горадам. У Будапешце шмат цікавага, прыгожага, велічнага, славутага. Вось вядомая гара Гелерт. Адсюль, з вышыні 235 метраў, бачым планіроўку горада, размяшчэнне яго кварталаў, архітэктурных ансамбляў. Тут-жа, побач з каменнымі сценамі старажытнай крэпасці, помнік совецкім воінам, якія вызвалялі народ Венгрыі ад гітлерызма.

Павольна нясе свае воды сіні Дунай. Аб прыгажосці гэтай велічнай ракі складзена ў народзе амаль столькі-ж песень, колькі аб нашай прыгажуні-Волзе. Камфартабельныя цеплаходы, грузавыя і спартыўныя судны штодзённа баразняць водныя прасторы Дуная. Асабліва ажыўлена на рацэ ў нядзелю — сотні аматараў воднага спорту запаўняюць раку шматлікімі лодкамі.

Самае любімае месца адпачынку гаражан — востраў Маргіт, дзе сканцэнтравана амаль уся спартыўная база венгерскай сталіцы: футбольнае поле, тэнісныя корты з трыбунамі на 4000 гледачоў, шмат розных спартыўных пляцовак. Тут-жа шмат закрытых і адкрытых плавальных басейнаў, у якіх, дзякуючы шматлікім серным крыніцам, тэмпература вады дасягае 26—30° Цэльсія. Венгерскія спартсмены маюць цудоўную базу для круглагадовай трэніроўкі, і не выпадкова сярод лепшых плаўцоў свету часта сустракаюцца прозвішчы венграў.

Тэрыторыя Будапешта багатая лекавымі крыніцамі, тэмпература вады ў якіх вагаецца ад 24 да 72° Цэльсія, а дзённы расход дасягае 68 мільёнаў літраў. Дзесяткі добра абсталяваных здраўніц абслугоўваюць працоўных новай Венгрыі.

— Мы падымемся сюды, на гару, яшчэ раз, увечары, — гаворыць наш перакладчык, заўважыўшы, што многія з нас вельмі неахвотна пакідаюць гэты зручны для назірання пункт. — Увечары, — працягвае ён, — вы пабачыце Будапешт расквечаным шматлікімі гірляндамі агнёў і рэклам. І хоць я, на вялікі жаль, ніколі не бачыў начную Маскву з вышыні новага будынка вашага цудоўнейшага універсітэта, я перакананы — начны Будапешт спадабаецца вам не менш.

І ён меў рацыю.

Венгры — таленавіты і да таго-ж вясёлы народ. Мы пераканаліся ў гэтым, калі прысутнічалі на цудоўным канцэрце, дадзеным у гонар нашай турысцкай групы Таварыствам венгера-совецкай дружбы. Асаблівае захапленне выклікаў скрыпічны ансамбль моладзі. І задушэўныя венгерскія народныя мелодыі, і класічныя рапсодыі свайго славутага кампазітара Ліста юныя аркестранты выканалі з сапраўдным прафесіянальным майстэрствам.

Пакідаючы Венгрыю, прыходзіць на думку адна італьянская прыказка — «Хто мае сябра, той валодае скарбам». Вось такім скарбам, — самай шчырай дружбай з працоўнымі і інтэлігенцыяй новай Венгрыі, было адзначана і замацавана назаўсёды наша кароткае прабыванне ў гэтай невялікай краіне, якая дала свету палымянага барацьбіта за свабоду Кошута, паэта Шандара Петэфі, кампазітараў Ферэнца Ліста і Ферэнца Эркеля.





Зверху ўніз: **Совецкія турысты ў Будапешце; будынак парламента.**

**Турысты дораць кветкі капітану венгерскай футбольнай каманды.**



СПРАВЫ НАШЫ, КОМСАМОЛЬСКІЯ!

# Як вы адпачываеце?

Зіма... Не чуваць на полі дзявочай песні, не звініць аж да раніцы на вясковых вуліцах гармонік. Але маладосць застаецца маладосцю і летам, і зімою. Яна нястрымная ў сваім імкненні да весялосці, да песень, да танцаў, як нястрымны абуджаны сонцам вясновы паток.

Пройдземце вечарам па вуліцы вёскі Ляхавічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Няхай злуецца снежная віхура, няхай збівае з ног калючы вецер, няхай ляжыць на зямлі слізкая наледзь, але калі ў клубе сёння кіно або выступленне калектыву мастацкай самадзейнасці, то ён будзе паўнюткі. І, безумоўна, больш за ўсіх прыдзе моладзі...

Людна і ў вясковай бібліятэцы. Да позняй ночы свецяцца яе вокны. Моцна дружыць з кнігай калгасная моладзь.

Комсамольцы і моладзь калгаса «Сталінскі шлях» самі паклапаціліся аб сваім адпачынку. Колькі вам не давядзецца пажыць у Ляхавічах, — тыдзень, два, месяц, — вам не будзе сумна. Вы здолееце паглядзець новы кінофільм, папрысутнічаць на спектаклі драматычнага гуртка, паслухаць выступленне хору, прыняць удзел у абмеркаванні кнігі таго або іншага пісьменніка, адпачыць вечарам пасля працоўнага дня.

Многа на Беларусі вёсак, пасёлкаў, дзе культурнае жыццё б'е поўнаводнай крыніцай, дзе ўзровень яго не ніжэй, чым у горадзе.

Весела загараюцца агні ў вокнах трох клубаў і сямі бібліятэк сяла Дашкаўкі Магілёўскага раёна. Культурна, весела, цікава праводзіць тут свой адпачынак моладзь. Кожны вечар у сяле праводзіцца якое-небудзь мерапрыемства: лекцыя, прагляд новага кінофільма, дыспут па прачытанай кнізе.

Па снежнай дарозе імкліва нясецца санная запрэжка. На санках — убраныя па-святочнаму дзяўчаты з мноствам рознакаляровых істужак у валасах, хлопцы ў вышываных кашулях. Залівіста грае гармонік, яму ўторыць басавіты бубен. Што гэта? Прыезджы чалавек, які ўпершыню ў гэтых месцах, вырашыць, канешне, што ён сустрэў вяселле.

Але гэта не вяселле. На санках агітбрыгада Хараўскага дома культуры Пружанскага раёна. Мастацкі калектыў, створаны з комсамольцаў і моладзі, дае канцэрты не толькі ў сваім доме культуры, а выязджае і ў навакольныя вёскі. Яго выступленні карыстаюцца нязменным поспехам у калгаснікаў.

Многалікая армія комсамольцаў адказала справай на заклік талачынскіх калгаснікаў аб добраўпарадкаванні культурна-асветных устаноў. Радасныя весткі аб адрамантаваных клубах, бібліятэках, хатах-чытальнях прыходзяць з розных куткоў рэспублікі.

Міёрскі раён. Урбанава. У мінулым гэта быў самы сапраўдны мядзведжы куток. Паглядзім, што робіць гэтым зімовым вечарам вясковая моладзь. Сёння пры хаце-чытальні якраз рэпетыцыя харавога гуртка. Звіняць пад акампанемент баяна родныя песні. А ўчора збіраліся драмгурткоўцы. Ёсць яшчэ і літаратурны гурток. Адным словам, не сумна ў Урбанаве ў гэтыя зімовыя вечары. Вясёлы, культурны адпачынак стварылі для сябе комсамольцы самі.

Нажаль, не ўсюды так весела, як ва Урбанаве. Не ўсе комсамольцы могуць пахваліцца сёння культурным, вясёлым адпачынкам. Ёсць у нас хаты-чытальні, клубы, у якіх холадна, няўтульна, якія часцей за ўсё на замку. Вось, да прыкладу, клуб калгаса імя Чкалава Горацкага раёна. Цёмна па вечарах у гэтым клубе. Даўно ўжо звінелі на яго сцэне песні. Клуб не топяць, у ім няўтульна, сюды проста не хочацца ісці.

Сям-там памяшканні клубаў заняты пад гаспадарчыя патрэбы, а хаты-чытальні, бібліятэкі размешчаны ў цесных, няўтульных памяшканнях.

Можа ўзнікнуць пытанне: а ці залежыць усё ад моладзі, комсамольцаў у наладжванні культурнага адпачынку? Так, залежыць. Залежыць нават у выпадках, якія былі толькі што прыведзены. Трэба больш настойліва ставіць пытанне аб культурным адпачынку моладзі перад праўленнямі калгасаў, перад адміністрацыяй, перад партыйнымі арганізацыямі. Мастацкую самадзейнасць, даклады, лекцыі, дыспуты, кіносеансы можна арганізаваць усюды. Варта падумаць і аб арганізацыі чырвоных куткоў на жывёлагадоўчых фермах, аб рэгулярнай дастаўцы кінофільмаў у самыя аддаленыя вёскі.

За работу, таварышы комсамольцы!




Буксірны параход «Партызан Бумажкоў» на рэйдзе.

# Поўны наперад!

Міхась ДАНІЛЕНКА, Уладзімір ЛАЗЬКО

Іван Кухнавец стаяў на тэрасе дэбаркадэра і, абапёршыся на поручні, задуменна глядзеў на раку. Ярка свяціла сонца. Яго прамені адлюстроўваліся на рачной паверхні. Гадзіну назад Іван быў у дыспетчарскай парта, і там яму сказалі, што параход «Партызан Бумажкоў» вось-вось павінен прыбыць на рэйд.

... Хвалюючыся, пераступіў Кухнавец борт парахода. Прывітаўся з вахценным матросам, што спрытнымі рухамі замацоўваў трап, і накіраваўся да капітанскай каюты.

— Дзе можна бачыць капітана?—запытаўся Кухнавец. На яго запытанне адказаў пажылы чалавек у форменным кіцелі.

— Я капітан. Чым маю гонар служыць?..

Капітан пачаў пільна ўглядацца ў Кухнаўца.

— Пачакай-пачакай, мілчалавек. Ды ці не Кухнавец да нас, як кажуць, уласнай персонай?— загаварыў ён, і яго шэрыя вочы радасна заблішчэлі пад кусцістымі пасівелымі брывямі.

У капітана Аляксандра Міхайлавіча Шпадарука Кухнавец некалі праходзіў практыку плавання.

— Як я рады, Аляксандр Міхайлавіч, што да вас трапіў,— радасна гаварыў Іван.

— Ну што-ж, штурман, разам працаваць будзем!

Гэтыя, як здалося Івану, абыякава сказаныя словы крыху пакрыўдзілі хлопца.

Капітан забраў іванава прызначэнне і паклаў яго ў свой столік. Потым весела ўсміхнуўся:

— Ну, міл-чалавек, пойдзем аглядаць нашу пасудзіну.

Хвілін праз пяць капітан і малады штурман ужо заглядвалі ў штурвальную рубку, на капітанскі масцік, у кубрыкі і трумы.

Каюта, якую адвялі Івану, была невялікая, аднак светлая і ўтульная. Столік, тумбачка, шафа, канапа. «Цудоўна!— радаваўся Іван.— Толькі працуй». Яшчэ заставаўся час, і Кухнавец, спусціўшыся на бераг, купіў вялікі букет пахучых руж. Ён паставіў іх у шкляны слоік і папырскаў вадой. Кропелькі паблісквалі на далікатных пялёстках. Юнаку не верылася, што ён ужо — не студэнт, а спецыяліст, поўнапраўны член суднавога калектыву.

У дзверы пастукалі. Увайшоў Аляксандр Міхайлавіч і працягнуў Івану план-загад.

— На Кіеў ісці загадана. Пяць барж забуксіруем.

Аляксандр Міхайлавіч убачыў на стале кветкі. «Малайчына! Бач ты, які спрытны. Адразу каюта іншы выгляд набыла», — падумаў ён, але ўголас сваіх думак не выказаў, толькі паглядзеў пацяплеўшымі вачыма на штурмана.

— Садзіцеся, Аляксандр Міхайлавіч, — паказваючы на канапу, запрасіў Кухнавец капітана і адчуў, як запунсавелі яго шчокі.

— З прыемнасцю прысеў-бы, ды трэба адчальваць.

Капітан выйшаў з каюты, і неўзабаве пачуўся зычны гудок.

Па палубе загрукалі, працуючы, матросы. Данеслася каманда: «Забраць канцы!» Па вадзе ўдарылі лопасці, зашыпела пара.

Іван Кухнавец падняўся на палубу. Параход выходзіў на рэйд. Штурман любаваўся, як смела Аляксандр Міхайлавіч вёў судна. А той упэўнена аддаваў распараджэнні рулявому і вахценнаму механіку. «От-бы мне так навучыцца,— думаў Іван.— Абавязкова буду ў вольны час да капітана на масцік заглядваць».

Кухнавец азірнуўся назад. За кармой парахода ззяў Гомель тысячамі вячэрніх агнёў. Пагойдваючыся на хвалях, блішчэлі бакены, і здавалася, што ў вадзе трапечацца казачная жар-птушка...

Назаўтра раніцай Іван заступіў на вахту. Першым, каго ён убачыў на масціку, быў першы памочнік капітана Уладзімір Баркоўскі. Ветліва кіўнуўшы Кухнаўцу, Уладзімір дастаў з рубкі вахценны журнал. Адбілі склянкі, і першы памочнік у графе «вахту здаў» распісаўся.

— Ну, хлопча,— звярнуўся ён да Івана,— прымай вахту.

Гэта была значная падзея ў іванавым жыцці: упершыню паставіў ён у вахценным журнале свой подпіс. Трывожна стукала сэрца. «Хаця-б усё добра было!..»

Баркоўскі разумеў, што штурману хочацца самастойнасці.

— Мне можна ісці?— спытаў Баркоўскі.

Кухнавец кіўнуў галавой.

На верхняй палубе Іван застаўся разам з рулявым Мікалаем Кавалёвым. Штурман пахаджваў з масціка на масцік і час-ад-часу паглядваў назад. Баржы ішлі роўна. Гэта Івана радавала, і ён супакоіўся. Але вось наперадзе паказаўся караван суднаў.

— От чорт! — вылаяўся Іван. — І трэба-ж абавязкова тут сустрэцца...

Буксір ішоў па так званым Шарпілаўскім рачным перакаце. Рэчышча тут вузкае і, дэталёва не вывучыўшы яго, размінуцца вельмі цяжка.

А тут яшчэ, як на тое ліха, вецер. Па паверхні ракі скакалі, пеніліся баранчыкі. Кухнавец разгубіўся. Што рабіць? Можа паклікаць капітана? Але ўявіў сабе, як Аляксандр Міхайлавіч скажа: «Хо! Міл-чалавек! Ці не схібіў ты?» Ды і каманда... Засмяюць, калі даведаюцца, які ў іх штурман стаіць на масціку.

Параход з пяццю баржамі на буксіры падыходзіў усё бліжэй і бліжэй. Па правілах плавання судну, якое ішло зверху, належаў выбар шляху. Такім суднам якраз быў «Партызан Бумажкоў». Штурман паспяшаў скарыстаць гэтае правіла. Ён даў гудок і адмашкай паказаў сустрэчнаму судну дарогу.

Параходы сыходзіліся. Вось яны параўняліся. Іван аддаў каманду рулявому павярнуць штурвал крыху направа і, затаіўшы дыханне, сачыў, як выраўніваліся баржы, выстройваючыся адна за другой у роўную лінію. Юнак змахнуў з ілба пот і ціхенька ўсміхнуўся: «Нялёгка ўсё-такі быць штурманам». Але, мусіць, правільна, што ён не паклікаў капітана... Іван расставіў ногі, як сапраўдны марак, крыху пастаяў, а потым прайшоўся па палубе, як гэта звычайна рабіў Аляксандр Міхайлавіч.

Трэба было здаваць вахту. Штурман, задаволены сваімі паводзінамі ў час вахты, распісаўся ў вахценным журнале. «Пачатак, здаецца, нішто сабе,—думаў ён.— Ну, пахваляваўся крыху, дык з кім гэта не здараецца?..»

Цэлы дзень Іван хадзіў узбуджаны і радасны.

— Ведаеш,— гаварыў ён Уладзіміру Баркоўскаму,— караван проста ўпрыцірачку прапусціў.

— Так ужо і ўпрыцірачку?— жмурыў Баркоўскі зеленаватыя вочы.

Але аказалася, што хваліцца яму было яшчэ зарана.

...Раніца выдалася цёплая, сонечная. За кармой пенілася вада. Белакрылыя чайкі лёталі над ракою, а ля пясчанай касы прагульваўся цыбаты кулік.

Зрабіўшы фіззарадку, Іван пабег пад халодны душ. Вахценны матрос адбіў склянкі, і Іван рухава падняўся на верхнюю палубу. Зноў яго вахта. Штурман сачыў за ходам каравана і разважаў: «От-бы так і плысці, насустрач сонцу. Толькі каб усё добра было». Ён глянуў на хадавыя бакены і падаў каманду рулявому:

— Лева руля!

Рулявы павярнуў штурвал улева, але штурману здалося, што ў хлопца насмешліва звузіліся вочы... Раптам ззаду нешта затрашчала, буксірны трос напяўся, як струна, і параход зашлёпаў пліцамі па вадзе ўхаластую: баржы селі на мель...

— Ох, і бяда,— разгубіўся Кухнавец. — І трэба-ж было мне зблытаць гэтыя хадавыя бакены і слупы...

Прыбег капітан, аддаў каманду рулявому і, павярнуўшыся да Кухнаўца, сказаў:

— Спакайней, міл-чалавек. У такіх выпадках нельга спяшацца.

Штурман стаяў поруч з Аляксандрам Міхайлавічам на масціку. Капітан, нахмурыўшы пасівелыя бровы, са злосцю глядзеў на засеўшыя баржы.

А Іван стаяў і ў думках дакараў сябе: «Хлапчук! А яшчэ ўпрыцірачку караван правёў»...

Кухнавец не ведаў, куды ад сораму дзець вочы. Яму здавалася, што цяпер капітан не даверыць яму парахода, не пакіне аднаго на вахце.




**Іван Кухнавец на вахце.**
Фото А. Шаевіча.

Пакуль знялі баржы з мелі, страцілі чатыры хадавыя гадзіны.

Іван спускаўся ў кубрык і міжвольна прыслухоўваўся, як грукалі, быццам камяні, яго боты. Хацелася хутчэй схавацца ад позіркаў матросаў, пабыць аднаму.

Раптам расчыніліся дзверы. У каюту ўвайшоў капітан. Іван усхапіўся з канапы і пачаў разгублена перастаўляць букет на століку.

— Што-ж не запрашаеш садзіцца? — запытаўся Аляксандр Міхайлавіч. — У першы раз, помніцца, ты быў больш гасцінны.

Кухнавец збянтэжана нешта прамармытаў. Капітан сеў і шчыра ўсміхнуўся штурману.

— Прызнайся, напалохаўся, міл-чалавек, калі буксірны трос, як струна, зазвінеў?.. А цяпер ляжыш тут на канапе і думаеш, што ўсе ад цябе на параходзе адвярнуліся. Як-жа, штурман прашляпіў... Прызнайся, распусціў нюні?

— Было такое, — неахвотна згадзіўся юнак.

Аляксандр Міхайлавіч неяк памаладому засмяяўся.

— Гора мне з вамі, малада-зелена... Вышэй галаву, Іван. У мяне, браце, на першых кроках не такое здаралася. Ты вось паслухай...

Кухнавец слухаў капітана і адчуваў, як паступова звальваўся з плячэй нейкі цяжар, як рабілася проста і добра каля такога чалавека, як Аляксандр Міхайлавіч.

І вось Іван Кухнавец на судне некалькі дзён. «Не, нешта не так жыве каманда, — разважае ён. — Нічога-ж цікавага, надта-ж усё будзённа праходзіць». У вольны час не было чым заняцца, і Іван бачыў, што многія матросы, рулявыя і качагары сланяліся без справы і сумавалі.

— Ведаеце, сумна ў нас, — сказаў неяк штурману рулявы Іван Будзько. — Няма да чаго ў

**Капітан парахода А. М. Шпадарук** (злева) **гутарыць са штурманам парахода Іванам Кухнаўцом.**



вольную хвіліну рукі прылажыць. Думаю на берег спісацца.

— Што вы! — здзівіўся Кухнавец.

— Пажывеце — убачыце, — сказаў Будзько.

Штурман бачыў, што каманда працуе дружна і зладжана. І ўсё-ж чагосьці не хапае ў іхнім жыцці. «Трэба з капітанам параіцца», — вырашыў ён.

Размова паміж штурманам і капітанам неўзабаве адбылася.

— Разумееш, гады ўжо ў мяне не тыя, ды і клопатаў розных хапае, — гаварыў капітан. — А жыццё на судне неяк ажывіць трэба. Надта-ж соннае яно ў нас. Вазьміся ты за гэта, а я дапамагаць табе буду.

З таго дня клопатаў у штурмана прыбавілася. Ён з усёй душой і маладым запалам узяўся за наладжванне культурнага жыцця каманды. Разам з сакратаром камсамольскай арганізацыі Уладзімірам Баркоўскім стварылі суднавы актыў. На першым-жа пасяджэнні актыву вырашылі правесці вечар каманды на тэму: «Ці любіш ты сваю прафесію?»

— А хто зробіць даклад? — запытаўся Уладзімір.

— Сапраўды, хто зробіць даклад?

Усе маўчалі, абдумвалі. Тады падняўся Іван Кухнавец.

— А што, калі Аляксандра Міхайлавіча папрасіць? Стары суднавадзіцель, лепшы капітан флоту.

— Гэта ты правільна сказаў, — падтрымаў яго трэці механік Мікалай Ядранцоў.

— Няхай Аляксандр Міхайлавіч раскажа пра свой жыццёвы шлях. Хіба не цікава паслухаць, як ён вучыўся вадзіць судны? — гаварыў качагар Васіль Брыль.

Капітан згадзіўся з рашэннем актыву і з гэтага часу стаў актыўна ўдзельнічаць ва ўсіх масавых мерапрыемствах, якія праводзіліся на параходзе.

Ідзе поўным ходам караван. Ззаду засталіся Лоеў, Радуль. Паказалася вусце Прыпяці. Адплываюць назад маляўнічыя берагі ціхай палескай ракі. Іван стаіць на палубе і з радасцю ўспамінае словы Аляксандра Міхайлавіча:

— Неблагі з цябе капітан выйдзе. Толькі не гарачыся.

«Што-ж, ёсць не гарачыцца, малада-зелена», — у думках адказвае яму Кухнавец.

Удалечыні, агінаючы пясчаную касу, губляюцца грабёнкі плытоў. На вадзе гуляюць сонечныя зайчыкі. Збоку адплыла землечарпалка, стралой нацэліўшыся ў ваду. А вунь раскінуліся штабялі бярозавых дроў. Каля іх, прыгнуўшыся ўперад, стаіць юнак амаль адных год з Кухнаўцом і, утаропіўшыся на паплавок, не спускае з яго вачэй. А буксір шыбуе і шыбуе далей, насустрач сонцу і зацягнутаму далёкай дымкай далягляду. «Усё-такі рамантычная прафесія штурмана! Можа таму і рамантычная, што цяжкая», — думае Кухнавец.

**Борт парахода**
**«Партызан Бумажкоў».**

# РАЦЫЯНАЛІЗАТАР ПРЫШОЎ У ПАРТКОМ

**Г. ШЧАРБАТАЎ**

**Нарыс**

## 1

Вечарам над заводам успыхваюць тысячы электрычных агнёў. У іх яркім ззянні відны велізарныя карпусы цэхаў. Аляксандр Андрэевіч Селязнёў углядаецца ў акно з трэцяга паверху заводаўпраўлення і задуменна барабаніць пальцамі па падаконніку. Яму, былому старшаму майстру, цяпер сакратару партарганізацыі завода, на прасторным заводскім двары знаёма кожная драбніца. І ўсё-ж ён не прамінае выпадку, каб у вячэрні час не палюбавацца агністым зіхценнем цэхаў.

Селязнёў рыхтаваўся да сходу партыйна-гаспадарчага актыву завода. Ён пазнаёміўся з мерапрыемствамі, выпрацаванымі ў цэхах па тэхнічнаму прагрэсу, і быў задаволены, бо бачыў, з якой вялікай актыўнасцю прынялі ўдзел камуністы і камсамольцы ў абмеркаванні рашэнняў ліпеньскага Пленума ЦК КПСС. «Гэта добра, — думаў Аляксандр Андрэевіч, — што людзі творча паставіліся да справы. Завод наш малады, многа чаго трэба ўдасканальваць, паляпшаць».

У дзверы пастукалі. У пакой увайшоў сярэдняга росту юнак, на выгляд каржакаваты, але вельмі рухавы. Сакратар ведаў яго. Гэта быў майстар механа-зборачнага цэха камсамолец Іван Кірылаў. Селязнёў не аднойчы чуў яго гарачыя і слушныя прамовы на вытворчых нарадах, на камсамольскіх сходах і звярнуў на яго асаблівую ўвагу. Аляксандр Андрэевіч даведаўся, што Кірылаў нядаўна скончыў Магілёўскі машынабудаўнічы тэхнікум і прышоў на завод з даволі шырокімі тэарэтычнымі ведамі ў справе машынабудавання. Даведаўся сакратар і пра тое, што моладзь неяк адразу пацягнулася да гэтага хлопца, камсамольцы цэха ў першы-ж год яго работы выбралі Кірылава членам заводскага камітэта камсамола і даручылі яму арганізацыю фізкультурна-масавай работы. І не памыліліся. За нейкі год на заводзе былі створаны хакейная і валейбольная каманды, каманды лыжнікаў і футбалістаў. З'явіўся спартыўны інвентар, пачалі праводзіцца розныя спартыўныя спаборніцтвы. Пра Кірылава пачалі гаварыць, як пра ўмелага арганізатара і энтузіяста фізкультурнай работы.

«Мабыць і цяпер хоча аб спартыўных справах пагаварыць», — вырашыў Селязнёў і запытаў:

— Што скажаш, Кірылаў?

Збіваючыся, хвалюючыся, малады майстар загаварыў:

— Таварыш сакратар, мы... гэта значыць, камсамольцы цэха, вельмі пакрыўджаны на наша бюро рацыяналізацыі. Партыя патрабуе чаго? Далейшага тэхнічнага прагрэсу. А ў нас што робіцца? Падалі рацыяналізатарскую прапанову, а яна ляжыць без руху. Кажуць, там няма каму займацца гэтай самай рацыяналізацыяй.

«А сапраўды, аб рацыяналізацыі і вынаходніцтве на цэхавых партыйных сходах ніхто не гаварыў, — падумаў Селязнёў. — Як-жа гэта мы выпускаем такую важную справу?»

Ён яшчэ доўга гутарыў з майстрам. Высветлілася, што многія камсамольцы механа-зборачнага цэха падалі цікавыя рацыяналізатарскія прапановы, але не ведаюць аб іх лёсе. Селязнёў запісаў у настольны каляндар прозвішчы маладых токараў Мілера, Даманіна і некаторых іншых і паабяцаў Кірылаву ўсё высветліць.

Закончыўшы справы ў парткоме, Аляксандр Андрэевіч зайшоў у тэхнічную бібліятэку. Тут было многа людзей і асабліва моладзі. Юнакі і дзяўчаты — токары, сле-

**У парткоме.** (Справа налева): **Рацыяналізатар Іван Кірылаў, парторг завода А. А. Селязнёў, канструктар А. А. Рынкевіч і токар В. В. Даманін абмяркоўваюць рацыяналізатарскую прапанову.**



сары, наладчыкі, — нешта выпісвалі з тэхнічных часопісаў, нешта чарцілі на паперы. У адным з куткоў Селязнёў заўважыў чарнявага юнака ў акулярах, з вельмі засяроджаным тварам. Сакратар пазнаў у рабочым токара Мацвея Мілера і, падумаўшы: «Цікава, чым ён займаецца», падыйшоў да яго. Бліснуўшы акулярамі, юнак павольна ўзняў галаву і, прывітаўшыся, сказаў:

— Вывучаю разцы, Аляксандр Андрэевіч. Цікавая прапанова куйбышэўскага тэхніка Рыжкова аб вібрагасіцелі.

І малады рацыяналізатар расказаў сакратару партыйнай арганізацыі, што ён даўно шукае шляхоў павышэння хуткасці работы разцоў, што ён прыдумаў некалькі новых спосабаў гашэння вібрацыі разца, але ні адзін з іх не задавальняе яго.

«Добрыя кадры рабочых растуць, — думаў Селязнёў, ідучы дадому, — смелыя, адукаваныя. Яны шукаюць новага ў вытворчасці, імкнуцца ўдасканальваць яе. Трэба ім у гэтым дапамагчы».

## 2

Раніцаю Аляксандр Андрэевіч выклікаў сакратара бюро рацыяналізацыі і вынаходніцтва. Прыйшоў малады інжынер з тоўстым бухгалтарскім журналам у руках. Сакратар расказаў яму аб скаргах моладзі.

— Аляксандр Андрэевіч, дарагі, пры чым-жа тут я? — сыпаў словамі інжынер. — Я-ж тут выпадковы чалавек. Сумя-шча-ю! — падкрэсліў ён.

Селязнёў з цікавасцю разглядаў журнал. Тут, праўда, была акуратна занесена кожная прапанова рацыяналізатара, коратка зроблены выкладкі, што дасць яе ўкараненне, прыкладзены чарцяжы. Прапаноў было многа. Перагортваючы старонкі, сакратар разоў з дзесяць заўважыў прозвішча Кірылава. Ён уважліва прачытаў усе яго прапановы. Яны былі галоўным чынам канструктарскага характару, і ўкараненне іх у адным выпадку змяншала вагу машыны і эканоміла метал, у другім — эканоміла электраэнергію і зніжала працаёмкасць асобных працэсаў, у трэцім — павышала прадукцыйнасць працы... «А мне ні слова не сказаў аб сваіх прапановах, — зазначыў сам сабе Селязнёў. — Якая сціпласць!»

Увагу сакратара прыцягнула некалькі сур'ёзных рацыяналізатарскіх прапаноў Мацвея Мілера і Валерыя Даманіна. Малады токар М. Мілер дакладна распрацаваў, як паскорыць апрацоўку вала, як змяніць тэхналагічную апрацоўку стрыжняў. Камсамолец Валеры Даманін прапанаваў чарцяжы спецыяльнага прыстасавання для тармажэння планшайбы аднаго з станкоў. Было яшчэ шмат каштоўных прапаноў, аднак толькі адзінкі з іх былі разгледжаны і ўкаранены ў вытворчасць.

Аляксандр Андрэевіч узняў вочы на інжынера і з дакорам спытаў:

— Вы ведаеце, якую вы каштоўнасць трымаеце ў сябе пад сукном? — і, крыху памаўчаўшы, адказаў: — Народную ініцыятыву. А гэта — вялікае злачынства.

— Аляксандр Андрэевіч... Ды нарэшце адказвае за ўсё Балакін, — выпаліў раптам інжынер-сумяшчальнік.

— А вам справы няма да таго, што людзі бяссоннымі начамі шукаюць нечага новага, перадавога. Сорамна!

Селязнёў захапіў з сабой журнал і пайшоў да галоўнага інжынера завода Аляксея Васільевіча Балакіна, які і сапраўды ўзначальваў бюро рацыяналізацыі і вынаходніцтва.

Галоўны інжынер цалкам згадзіўся, што рацыяналізацыя на заводзе — закінуты ўчастак. Трэба было падабраць на пасаду сакратара бюро чалавека, які любіў-бы гэтую справу, сам займаўся-б рацыяналізацыяй. Успомнілі энергічную і настойлівую ў працы дзяўчыну з канструктарскага бюро Анну Шапавал.

— Трэба ёй і даручыць гэтую справу.

З таго часу бюро рацыяналізацыі актывізавала сваю работу. На заводзе хутка стала вядома, што бюро прыняло да ўкаранення пяць рацыяналізатарскіх прапаноў Івана Кірылава, тры прапановы Мацвея Мілера, прапанову Валерыя Даманіна. У цэхах ажывілася творчая думка. Прыклад камсамольцаў натхніў дзесяткі рабочых на творчыя пошукі, на далейшае ўдасканаленне тэхналогіі, на вышукванне новых рэзерваў вытворчасці. Прапановы сыпаліся адна за другой.

Неяк Селязнёў зайшоў у бюро рацыяналізацыі і зноў папрасіў журнал па ўліку прапаноў. Цяпер ён быў вельмі задаволены работай бюро. Па журналу ён высветліў, што за апошні час паступіла 92 рацыяналізатарскія прапановы, з іх 63 — прыняты ў вытворчасць. Многія з іх былі ўжо ўкаранены, і гэта дало заводу 130 тысяч рублёў эканоміі. «Эканомія яшчэ не вялікая, — падумаў сакратар, — але важна развярушыць думку рабочых».

Аднойчы, праходзячы па механа-зборачнаму цэху, Селязнёў сустрэў Мілера.

— Ну, як разцы? — запытаў ён токара.

На твары юнака адбілася ўсхваляванасць.

— Аляксандр Андрэевіч, я і хацеў з вамі аб гэтым пагаварыць.

Яны адыйшлі крыху ўбок ад канвеера, у больш ціхае месца, і тут Мілер расказаў, што ён зрабіў разлікі новых узораў разцоў, якія, на яго думку, будуць працаваць з найменшай вібрацыяй. Гэта дазволіць павялічваць хуткасць апрацоўкі дэталей.

— Вельмі добра. У чым-жа справа? — пацікавіўся Селязнёў.

— Разцы адобрыў наш начальнік цэха, але... Адным словам, ніхто не хоча іх рабіць.

— Як гэта?

— Заказалі рамонтна-механічнаму цэху, а начальнік кажа: «У мяне сваёй работы хапае».

«Вось і развівай рацыяналізацыю, калі на шляху наватараў стаяць свае-ж руцінёры», — падумаў Селязнёў. Ён прайшоўся па шырокаму і светламу цэху і з задавальненнем адзначыў зладжанасць работы. Ішла зборка велізарных машын для шыфернай вытворчасці. У канцы цэха ён убачыў Кірылава, які нешта тлумачыў маладому рабочаму, і падышоў да майстра. Сакратар партыйнай арганізацыі ведаў, што ў сацыялістычным спаборніцтве ў чэсць XX з'езду партыі механа-зборачны цэх трымае першынство на заводзе, і таму з жартам спытаў:

— Як, камсамолія, не здаеце сваіх пазіцый?

Кірылаў акінуў вокам даўжэзны цэх, дзе руплiва завіхалася каля машын больш 60 камсамольцаў, і гэтак-жа жартам адказаў:

— З такімі арламі нельга адставаць. Думаем, Аляксандр Андрэевіч, не здадзім першынства.

Селязнёў зайшоў у рамонтна-механічны цэх і дамовіўся з начальнікам аб вырабе разцоў для Мілера.

## 3

Яшчэ летам, пасля рашэнняў ліпеньскага Пленума ЦК КПСС, на Магілёўскі завод «Строммашына» прышла тэлеграма. У ёй Міністэрства будаўнічага і дарожнага машынабудавання прасіла паведаміць, як дырэкцыя мяркуе развіваць работу па далейшаму тэхнічнаму прагрэсу на заводзе. Тады на заводзе нарадзіўся дакумент пад загалоўкам: «Прапановы па палепшанню работы магілёўскага і другіх заводаў Міністэрства будаўнічага і дарожнага машынабудавання». Падпісаны дырэктарам завода В. Серабровым і сакратаром парткома А. Селязнёвым, ён быў накіраваны ў Маскву. «Прапановы» гэтыя, нажаль, былі вельмі агульнага характару. Тут было сказана аб многіх мерапрыемствах агульнасаюзнага характару і мала аб тым, што-ж канкрэтна будзе рабіцца на заводзе.

Нядаўна дырэктар атрымаў новую тэлеграму з міністэрства: яго і сакратара парткома выклікалі на нараду ў Маскву. І тут кіраўнікі зразумелі, што на нарадзе агульнымі словамі не абыйдзешся. Сабраўшыся ў кабінеце дырэктара, яны павялі размову аб канкрэтных справах вытворчасці. Цяпер Аляксандр Андрэевіч Селязнёў з удзячнасцю ўспомніў Кірылава і іншых камсамольцаў з іх рацыяналізатарскімі справамі. Нарадзіўся «План дадатковых мерапрыемстваў» па разгортванню тэхналагічнай работы на заводзе. У яго ўвайшлі многія рацыяналізатарскія прапановы камсамольцаў. Асаблівая ўвага была ўдзелена гарачай штампоўцы на многіх працэсах, за якую ваявалі многія рацыяналізатары. Былі ўнесены прапановы аб значным павелічэнні прымянення гарачай штампоўкі, аб пераводзе фрэзероўкі пазоў у кольцах сетчатых цыліндраў на штампоўку, аб укараненні ў вытворчасць фотапірометра і многае іншае.

Аляксандр Андрэевіч радаваўся, што з яго дапамогай рацыяналізацыя і вынаходніцтва на заводзе сталі нарэшце важнейшай справай. «Трэба, каб яны набылі найшырэйшы размах, — думаў ён. — Але для гэтага што трэба?» І, падумаўшы, прапанаваў:

— Трэба арганізаваць на заводзе тэхнічную інфармацыю і перадачу перадавога вопыту.

— Правільна! — падтрымалі рацыяналізатары.

...На справаздачным камсамольскім сходзе ў камітэт камсамола сярод іншых быў вылучаны і Іван Кірылаў. Сакратар парткома бачыў, з якім адзінадушшам падтрымалі ўсе гэтую кандыдатуру. «Любіць яго моладзь», — выразшыў Селязнёў і на першым пасяджэнні камітэта прапанаваў выбраць сакратаром камсамольскай арганізацыі завода Кірылава. Члены камітэта згадзіліся.

— Віншую! — сказаў Селязнёў і дадаў: — Будзем працаваць разам.

Малады майстар шчыра паціснуў руку і ўсхваляваны сказаў:

— Як заўсёды, разам з партыяй.

***г. Магілёў.***



**Іван Кірылаў расказвае пра сваю рацыяналізатарскую прапанову інжынеру па рацыяналізацыі і вынаходніцтву А. Г. Шапавал і галоўнаму тэхнолагу завода П. С. Чыстасердаву.**

Фота Ч. Мезіна.

## Галасы маладых



Малады беларускі паэт Ніл Гілевіч нарадзіўся ў 1931 годзе ў сялянскай сям'і на Лагойшчыне. У 1951 годзе ён скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча, а цяпер займаецца на V курсе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.

У 1951 годзе вершы Гілевіча з'явіліся ў рэспубліканскім друку. Нядаўна малады паэт прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў БССР.

Ніжэй мы друкуем новыя вершы Н. Гілевіча.

### Наша дружба

Вятры заміраюць у долах глыбокіх,
Абвалы спыняюць патокі ў гарах.
Хто спыніць вясновае раніцы крокі?
Хто дружбе заслоніць пракладзены шлях?

Куды не даходзіць ні сонца, ні вецер —
Скрозь дружба рассее праменні свае.
Ад шчырага сэрца да шчырага сэрца
Бясконцая ў свеце дарога яе.

Яна па-прыяцельску кліча у госці,
Руку пацiскае, дарункі дае,
І з песнямі міру, вясны, маладосці
Абходзіць прасторы планеты ўсяе.

Яна сваім гневам гарматы і танкі
Тапіла ў марсельскім парту на зары,
Каб маці ў Карэі маглі калыханкі
Спакойна спяваць перад сном дзетвары.

Яна загадала і белым і чорным
Пабрацца за рукі, стаць шчыльнай сцяной,
Каб Робсана голас гучэў непакорны
На страх людаедам, што трызняць вайной.

Хто чэсны і мужны, хто мару людскую
Здзяйсняе ў змаганні — нам сябра навек.
І хто на зямлі мае дружбу такую —
На верным і светлым шляху чалавек.

* * *

Можна страціць руку,
Хлеб адною рабіць —
Для сябе, для дзяцей, для бацькоў, для
Радзімы;
Можна з слыхам расстацца,
Не чуць, як бурліць,
Як гамоніць наўкол свет вясёлы і дзіўны;

Пра багацце няварта бадай і казаць:
Можна страціць усё, што нажыць давялося,
Можна ўсё да апошняй драбніцы аддаць
І яшчэ усміхнуцца гарэзнаму лёсу.

Аднаго у жыцці нельга страціць — сяброў,
Нельга страціць ніколі — іх рук, іх апоры,
Іхніх сэрцаў адкрытых,
Надзейных іх слоў,
Тых сяброў, што з табою і ў шчасці і ў горы...

Я і дня жыць сабою адным не хачу,
Не хачу быць няшчасным!
А быць такім — значыць:
Вушы чуткія мець, ды сябе толькі чуць,
Вочы зоркія мець, ды сябе толькі бачыць.

### Твой ліст павінен прыйсці

Спачатку я выходзіла за браму,
Калі пасёлкам крочыў паштальён:
Што ўручыць: ліст? ці, можа, тэлеграму?
Ды кожны раз праходзіў міма ён.

Цяпер сама штодзень надрэчнай сцежкай
Бягу на пошту...
Сёння позірк мой
Начальнік стрэў нядобраю усмешкай
І пакруціў адмоўна галавой.

Хоць і балюча мне і страшна стала —
Ізноў вярнуцца без тваіго пісьма —
Я ледзь стрымалася і не сказала,
Каб ён не думаў дрэннага дарма!

Хіба-ж ён ведае, які ты слаўны,
Які ты добры! мілы, залаты!
Што ты ў ад'ездзе доўгім быў нядаўна
І заўтра — зразу прыдуць два лісты!

А што, калі... О, не! Вядома, прыдуць!..
Яны павінны да мяне прыйсці,
Пакуль у сэрцы маім гневу, крыўды
Яшчэ і цяню нават не знайсці.

### Перад восенню

Хоць сведчаць грымоты,
Што жнівень
У сіле яшчэ і красе,
Ды ўжо нашай вуліцай лівень
Лісты да рачулкі нясе.

Шчаслівую ўчуўшы трывогу,
Майструе хлапец-выпускнік
Сабе чамадан у дарогу
Для рэчаў студэнцкіх і кніг.

І дзеці адчулі ўжо восень:
Падлікі вядуць на двары —
Ці многа дзяньков засталося
Да радаснай школьнай пары.

Хапіла ім летніх уцехаў,
Другі авалодаў настрой,
Хоць не дазбіралі арэхаў
І не дапалілі кастроў.

Не вабіць рыбалка на Гайне,
Не клічуць сініцы ў бары...
А маці бяруць у кнігарні
Шчаслівым малым буквары.

### Першы снег

Раптам нейк, без залётных сняжын-вестуноў,
Паваліў, нібы хтось яго кідаў ахапкі;
Не ўтрымаўся і выпаў з абдымкаў кляноў,
Пераняў на праспекце студэнта без шапкі...

Першы снег! Першы снег!..
Быццам школьнік, бягу
Падзяліцца з табой гэтай радасцю светлай,
Бо я з ёю адзін саўладаць не магу,
Бо такая ўжо звычка прышла непрыкметна.

Вось і дом на рагу.
У знаёмым акне
Калыхнулася крылле карункавых штораў.
А мо' гэта здалося, шчасліваму, мне?
Мо' мільгнулі сняжынкі дзівосных узораў?

Ля высокага ганку — ні следу няма.
Значыць, зноў ты адна не рашылася выйсці.
Ці вясна надыходзіць у нас, ці зіма, —
Мы з табой, як раней, у маленстве калісьці...

Першы снег! Першы снег!..
Дык хадзем-жа хутчэй
З гэтых надта утульных сягоння пакояў —
На прастор для душы,
На святло для вачэй!
Любаваннем з акна не заменіш такое.

# КАЛЯ ТЭЛЕВІЗАРА...

Тэлевізары шырока ўвайшлі ў быт масквічоў, ленінградцаў, кіяўлян, харкаўчан, рыжан. Хутка атрымаюць магчымасць карыстацца імі жыхары Мінска, Таліна, Баку, Куйбышэва, Тбілісі, Ташкента, Сталіна і іншых гарадоў, дзе завяршаецца збудаванне тэлевізійных цэнтраў.

Кожны вечар у пэўны час на экранах тэлевізараў паяўляюцца знаёмыя твары дыктараў тэлецэнтра, што аб'яўляюць праграму чарговай перадачы. Перад гледачамі праходзяць кадры кінокарцін, дзеі п'ес, выступаюць спевакі, музыканты...

Як-жа адбываецца перадача?

Шлях ад студыі тэлецэнтра да экранаў прыёмнікаў, устаноўленых у розных пунктах вялізнага горада і за яго межамі, складаны. У цэнтры так званай малой студыі, дзе размешчана розная апаратура, ёсць невялікая пляцоўка, адкуль выступаюць дыктары. Яна ярка асвятляецца некалькімі пражэктарамі. На пляцоўку нацэлены дзве тэлевізійныя камеры, у якіх схаваны перадаючыя трубкі. На іх звышадчувальным экране атрымліваецца велізарная колькасць электрычных сігналаў, якія па асобнаму кабелю накіроўваюцца ў апаратную тэлецэнтра.

У апаратнай атрыманыя сігналы прыводзяцца ў належны парадак, і гледачы бачаць на сваіх экранах ужо яркія і выразныя аптычныя малюнкі. Для перадачы спектакляў, масавых канцэртаў, выступленняў аркестраў служыць так званая «вялікая студыя».

Вядучай фігурай тэлеперадачы з'яўляецца рэжысёр, які знаходзіцца ў апаратнай. У яго распараджэнні — сувязь і аўтаматыка. Кіраванне імі сканцэнтравана на спецыяльным пульце. Карыстаючыся сувяззю і аўтаматыкай, рэжысёр назірае за ходам дзеяння і аддае патрэбныя распараджэнні артыстам і тэхнічнаму персаналу. У апаратнай знаходзіцца таксама пульт гукааператара, які забяспечвае чысціню гукаў, суправаджаючых перадачу, і пульт для кіравання яркасцю адлюстравання на экране.

Совецкія радыёспецыялісты цяпер знайшлі магчымасць транслiраваць перадачы не толькі са студыі тэлецэнтра, але і непасрэдна з тэатраў і клубаў, з арэны цырка, з футбольнага поля і г. д.

Для пазастудыйных перадач створана перадаючая тэлевізійная трубка, якая мае адчувальнасць у некалькі разоў большую, чым звычайная. Неабходна гэта таму, што ў тэатрах, клубах, на стадыёнах увечары, меншая асветленасць, чым у студыі. Дзве пераносныя камеры з такімі звышадчувальнымі трубкамі дастаўляюцца да месца перадачы ў аўтобусе, абсталяваным адпаведнай апаратурай.

Якім чынам перасоўная тэлестанцыя звязваецца са сваім цэнтрам?

Ад пераносных камер да апаратуры, што ўстаноўлена ў аўтобусе, пракладзены кабель. У аўтобусе знаходзіцца перадатчык, які працуе на сантыметровых хвалях і выкарыстоўваецца выключна для сувязі з тэлецэнтрам. Каб перадатчык і прыёмнік «бачылі» адзін другога (гэта абавязковая ўмова сувязі на такіх хвалях), на самай высокай кропцы тэатра ці стадыёна ўстанаўліваецца перадатачная антэна, якая «бачыць» антэну тэлецэнтра. Сігналы, якія нясуць адлюстраванне, пасля іх узмацнення ў перасоўнай апаратуры аўтобуса, выпраменьваюцца і ўлаўліваюцца антэнай, якая знаходзіцца на вежы тэлецэнтра. Далей яны дасягаюць экрана тэлевізара тым-жа шляхам, што і пры студыйнай перадачы.

Вялікім дасягненнем нашых спецыялістаў з'яўляецца стварэнне трансляцыйных тэлевізійных вузлоў. Зараз у Маскве ў некалькіх вялікіх дамах ужо створаны вузлы для трансляцыі. Іх апаратура дзейнічае аўтаматычна. З устаноўкай трансляцыйных вузлоў не трэба для кожнай кватэры набываць тэлевізар і устанаўліваць індывідуальную антэну. Тэлевізары замяняюцца танным прыёмнікам, а шматлікія індывідуальныя антэны — адной антэнай для аўтаматычнага тэлевізара. Па памеру экран абанентнай тэлеўстаноўкі, якая прымае адлюстраванне і гук па правадах, такія-ж, як і ў звычайных тэлевізарах. Уладальніку такой устаноўкі не трэба займацца складаным настройваннем — гэта поўнасцю робіцца на вузле, ён рэгулюе толькі гучнасць і яркасць перадачы.

Трансляцыйны вузел разлічаны на адначасовае падключэнне да яго ад 200 да 600 абанентных тэлевізійных кропак, размешчаных на адлегласці да 400 метраў ад вузла. Такім чынам, адзін вузел можа абслугоўваць шматпавярховы жылы дом.

Для перадач на больш вялікія адлегласці будуюцца спецыяльныя рэтрансляцыйныя станцыі. Першая з іх — Калінінская — ужо ўступіла ў строй. З шырокім укараненнем радыёрэлейных ліній сувязі ў бліжэйшым будучым стане магчымым весці абмен тэлевізійнымі перадачамі паміж гарадамі.

Вялікія работы праводзяцца ў галіне каляровага тэлебачання. Ужо хутка год, як у Маскве працуе станцыя каляровага тэлебачання. Спецыялісты дамагаюцца таго, каб звычайныя тэлевізары прымалі каляровыя перадачы. Многае ў гэтым напрамку ўжо дасягнута.

Г. Масква.

Д. МІХАЙЛАЎ.



# Новы сакратар

Апавяданне

**А. АСІПЕНКА**

Мал. Г. Паплаўскага

Старую трохтонку, абсталяваную пад крыты фургон, нарэшце перастала трэсці на ўхабінах; колы загрукаталі па бруку, абшыўка жаласліва зарыпела. «Здаецца, прыехалі», — уздыхнуў Андрэй Шаліма. У яго кружылася галава, а перад вачыма плавалі жоўтыя кругі. Трымаючыся абедзвюма рукамі за абшыўку, каб не паваліцца, ён дабраўся да невялічкай дзверкі, прыадчыніў яе. Ад халоднага, вільготнага паветра заняло дыханне. Андрэй зажмурыў вочы, а калі расплюшчыў іх, убачыў абапал брукаванай вуліцы драўляныя хаты, новыя платы перад імі, а на панадворках — пачарнелы ад дажджу бульбоўнік і высокія бадылі сланечніку. Пераехаўшы невялікі драўляны мост са звернутай на бок балясінай, машына трасанула на развітанне, потым крута павярнула ў завулак і спынілася перад вялікім, але занядбаным домам. Над яго расчыненымі дзвярыма вісела фанерная шыльда «Каргапольскі РК ЛКСМ Беларусі». Андрэй развітаўся з шафёрам, зухавата ўзбег па гнілых прыступках, а адтуль памалу ўжо, вытрымліваючы саліднасць увайшоў у памяшканне райкома. Адчыніў адны, другія дзверы — пакоі пуставалі. Шаліма ўжо збіраўся выйсці, як аднекуль з-за печы выйшла белавалосая, пухленькая дзяўчына.

— Вам каго, таварыш?

— Мне начальства.

— Івана Леанідавіча няма, абедаць пайшоў. Пагуляйце, ён хутка меўся прыйсці.

— Дзякую, нагуляўся. Больш трох гадзін падарожнічаў.

Дзяўчына войкнула, замітусілася.

— Праходзьце ў кабінет таварыша Тарашчука.

— Лепш да вас зайду. Аднаму непрыемна сядзець у чужым кабінеце. Вы загадчык сектара ўчоту Рэпкіна?

— Ага, Рэпкіна. Праходзьце.

Пакойчык быў маленькі. На стале ляжалі стусы папер, нейкіх журналаў. Тут-жа стаяла партатыўная машынка. Дзве вялікія шафы і сейф загароджвалі сцены і палову акна. У пакойчыку было цесна і цёмна.

— Мяне Іван Леанідавіч і таварыш Караба папярэджвалі. Вы інструктар?

Андрэй збянтэжыўся, не ведаючы, што адказаць на такое пытанне. З поўмесяца назад яго паклікалі ў абком камсамола. Спачатку ён запоўніў анкету, напісаў аўтабіяграфію, потым з ім грунтоўна гаварылі інструктары розных аддзелаў, намеснікі загадчыкаў і самі загадчыкі. Усё гэта было ахутана нейкай таямнічасцю, якая развеялася толькі пасля таго, як ён быў прыняты першым сакратаром абкома камсамола. Нізенькі з пачырванелымі ад бяссонніцы павекамі, першы сакратар ні хвіліны не сядзеў на месцы. То ён заклапочана бегаў між сталом і этажэркай, то садзіўся на ўскрай тэлефоннага століка ці на падлакотнік старога чорнага крэсла, а то лажыўся грудзьмі на шырокі стол і, спяшаючыся, нібы баючыся, што Шаліма не вытрымае і пойдзе, сыпаў пытанні. Андрэй ледзь паспяваў адказваць.

— Моладзь любіш?..

— Я...

— Зразумела. У камсамоле хочаш працаваць?

— Я-ж працую...

— Вылучаць цябе думаем. Згодзен?

— Не ведаю, што вы...

— Табе яшчэ не гаварылі? Добра. Паедзеш сакратаром Каргапольскага райкома, — сакратар падбег да карты, тыцнуў рукой некуды ў поўднёва-ўсходні кутох. — Але пра гэта пакуль нікому. Зразумеў? Мы толькі рэкамендуем. Канферэнцыя—усяму гаспадар. Першага сакратара мы здымаем. Другі — Лапшоў — застанецца. Зразумела! Раён добры... Далёка, глухамань. Дзічыны многа: зайцоў, лісіц, ваўкі таксама ёсць. Будзеш паляваць. Згодзен? Адмаўляцца, брат, не думай, нельга. Заўтра ў абкоме партыі з табой пагутараць. З абкома камсамола там будзе Караба, наш інструктар. Справу ён ведае. Ну, бывай, жадаю поспеху.

Так Андрэй Шаліма неспадзявана для сябе апынуўся ў Каргаполлі.

Памятаючы цвёрды наказ сакратара, Шаліма схлусіў Рэпкінай:

— Так, інструктар.

— А я вось даклад перадрукоўваю. Таварыш Караба ўвесь час бракуе. Некаторыя старонкі ўжо сёмы раз друкую.

Рэпкіна спрытна выняла аддрукаваны аркуш, уставіла новы, і яе пальцы заскакалі над клавішамі.

Увайшоў Караба, усцешна здзівіўся.

— Прыехаў? Цудоўна! Я тут адзін зусім закапаўся. Дзень і ноч шурую. Што яны тут рабілі, не разумею. Даклад не гатовы, кандыдатуры не падабраны, чорт ногі зломіць, а канферэнцыя на носе. Пойдзем, трэба пагаварыць.

*Зайшоўшы ў сакратарскі кабінет*, на дзвярах якога вісела акуратная шыльда з надпісам: «1-шы сакратар РК ЛКСМБ т. Тарашчук». Караба рассеўся ў крэсле, закурыў:

— Справы дрэнь. Цябе могуць пракаціць. У мяне нюх бездакорны, за сто кіламетраў чую.

— Але-ж камсамольцы яшчэ мяне не ведаюць.

— Ха, камсамольцы! Тарашчук блок арганізаваў, паглядзіш. — Заўважыўшы, што Шаліма разгублена пазірае, ляпнуў па плячы. — Вышэй нос! Караба не з такіх пераплётаў выкручваўся. Рэвізор не выдасць, пракурор не з'есць.

Для Андрэя гэта была егіпецкая грамата. Навошта Тарашчуку скалочваць блокі? Навошта трэба прадаўжаць гульню ў хованкі?

— Можа ў канферэнцыі будуць другія меркаванні? — нясмела запытаўся Андрэй.

— Ха, меркаванні. Ты зусім яшчэ блазнюк. Нічога, абламаешся. Абедаў?

— Не.

— Ідзі ў чайную. Рэпкіна? — Караба моцна грукнуў у сцяну кулаком. — Зараз Рэпкіна цябе ў чайную адвядзе і ў гасцініцу ўладзіць.

Увайшла Рэпкіна.

— Клікалі?

— Аформіш таварыша з жыллём, з кватэрай. Няхай да мяне ў пакой паселяць.

— Добра, толькі апрануся.

Не паспела Рэпкіна выйсці, як у кабінет зайшоў здаравенны дзяцюк, нястрыжаны і даўно няголены.

— Дзе ты прапаў, — накінуўся на яго Караба. Шаліма зразумеў, што гэта і ёсць першы сакратар райкома камсамола Тарашчук. — Канферэнцыя на носе, а ён спакойны. Дзе Лапшоў?

— Я яму не нянька, — Тарашчук распрануўся, патупаў на месцы, не адважыўся, відаць, папрасіць Карабу з свайго крэсла, сеў на мяккую канапу. — Шанцуе людзям. Наш цырульнік дзесяць тысяч выйграў.

— Ха, каму што, а ён пра выйгрыш. Даклад дзе, я цябе пытаю?..—Караба ўскіпеў і тут-жа астыў. — Дзесяць тысяч, кажаш? А вось я за год поўсотні не выйграў.

— Я таксама. А наконт канферэнцыі не хвалюйся, правядзем.

— Кандыдатур у склад райкома няма. Колькі ў цябе маладых звеннявых?

— Дваццаць... Не, пачакай, здаецца, трыццаць. Рэпкіна!? — грымнуў ён у сцяну кулаком.

Ізноў у дзвярах з'явілася Рэпкіна.

— Колькі ў нас звеннявых?

— Дзевятнаццаць.

— Толькі? А маладых даярак?

— Трыццаць чатыры.

— Ну, дык гэта я звеннявых з даяркамі зблытаў, — спакойна заўважыў Тарашчук.

Караба пагардліва скрывіў рот.

— Сак-ра-тар! Што-б ты рабіў, каб не Рэпкіна?

— Не было-б Рэпкінай, была-б Бурачкова ці Цыбулькіна. Ды што вы да мяне прычапіліся? Прыехалі здымаць — калі ласка. Я даўно ў вас прасіўся.

— Загаласіў. Трэба будзе, здымем.

Шаліма, каб не слухаць спрэчку, выйшаў. Услед за ім выйшла і Рэпкіна.

— Я зараз.

— Дзякую, не варта турбавацца.

— Яшчэ заблудзіцеся, — Рэпкіна ўсміхнулася, — адказваць прыдзецца.

Шаліма паглядзеў на яе стаптаныя чаравікі, падумаў: «Гэтай дастаецца». А ўголас запытаў:

— Вам, мусіць, цяжка працаваць, часта прыходзіцца выязджаць.

Рэпкіна паглядзела на яго, здзіўленая такім пытаннем, і адказала:

— Я зусім не выязджаю. Сяджу ўвесь час у райкоме.

— І на вечарынках не бываеце?

— А вам навошта гэта ведаць? Іван Леанідавіч гаворыць, што вечарынкі — адна распуста.

— Вы і танцаваць не ўмееце?

— Не, я хаджу на вечарынкі ў «Зару». Там у нас няма пярвічнай арганізацыі, дык Іван Леанідавіч нічога не ведае. Я люблю патанцаваць.

— І правільна. Вось пачакайце, хутка не трэба вам будзе крадком на вечарынкі хадзіць.

— Ці не вы дазволіце? — Рэпкіна, хітравата прыжмурыўшы вочы, паглядзела на Шаліму. — Вось, каб Тарашчук ведаў, ён-бы нам усыпаў. «Не салідна», — сказаў-бы.

Шаліме хацелася адказаць на шчырасць шчырасцю. Сказаў:

— А я да вас сакратаром прысланы. Ці выберуць толькі?

— Выберуць, — рашуча заявіла Рэпкіна.

Андрэй спахапіўся: навошта ён раскрыў таямніцу нейкай дзяўчыне? Папрасіў:

— Толькі вы нікому не кажыце.

Надзя Рэпкіна аказалася кемлівай дзяўчынай, жартаўніцай і весялухай. Яна безупынку расказвала Андрэю розныя смешныя гісторыі, смяялася, а часам нават і кпіла з Андрэя.

Напярэдадні канферэнцыі яна падкалола яго:

— Заўтра выберуць сакратаром, тады да вас і не падыйдзеш. Скажаце так, як Тарашчук: «Цяпер ты са мной трымай сябе салідна». Ну, а пакуль вы не сакратар, запрашаю сёння ў «Зару» на вечарынку. Толькі ўмова: ніхто не павінен гэтага ведаць.

З вечарынкі Андрэй прышоў позна, ледзь разбудзіў дзяжурную па гасцініцы. У свой пакой зайшоў на дыбачках, каб не патрывожыць Карабу. Але той прачнуўся, падняў з падушкі ўскудлачаную галаву, паглядзеў на гадзіннік.

— Позна. Да дзяўчат бегаў?

— Не, да хлопцаў, — агрызнуўся Шаліма.

— Глядзі, прыпаяюць маральна-бытавое разлажэнне, тады будзеш ведаць.

Шаліма хацеў аблаяць Карабу за пошлыя здагадкі, але той зноў унурыўся галавой у падушку і адразу-ж захроп.

Канферэнцыя прайшла вяла, без усялякіх інцыдэнтаў, якія прарочыў Караба. Дэлегаты выступалі па загадзя напісаных шпаргалках, ніхто не збіраўся ствараць нейкія там блокі.

Толькі калі пачалі вылучаць кандыдатуры ў склад райкома і сярод іх было названа прозвішча Шалімы, дэлегаты ажывіліся. Пачуліся рэплікі.

— Гэта новы сакратар?

— Лабасты...

— Хоць-бы не такі, як Тарашчук.

— З Лапшовым ніхто не паладзіць.

Шаліма спалохаўся, думаў, праваляць. Але яго выбралі адзінагалосна.

Назаўтра, прымаючы справы, Андрэй выявіў недахоп у касе. Паклікаў Рэпкіну.

— Дзе грошы?

— У Тарашчука.

— Чаму не вярнуў?

— Лапшоў сказаў, што не варта турбаваць, аддасць.

— Пакліч Лапшова.

Рэпкіна нібы між іншым заўважыла:

— Не звязвайцеся вы з ім. Лапшоў заўсёды на Тарашчука бегаў скардзіцца, а вось цяпер падружыліся. Убачыў, што яму ўсёроўна першым не быць. — І яна хутка выйшла.

Лапшоў зайшоў, усміхаючыся. Шаліме з першага знаёмства не падабалася гэтая лісіная ўсмешка; сказаў раздражнёна:

— Хто вам даў права выдаваць пазыкі?

— Гэта вы наконт Тарашчука? Яму Рэпкіна выдавала... У іх нібы раман быў... Плюнь на ўсё.

— Запомніце, таварыш Лапшоў, так, як было ў вас, больш не будзе. Калі мяне вылучылі на сакратара, дык падпарадкоўвайцеся.

Твар Лапшова стаў шэрым, ён буркнуў нешта, накшталт: «усё ў нашых руках», і выйшаў.

Шаліма пацiснуў плячыма: «Ну і тып...»

З гэтага дня і пачаліся ў Шалімы нелады з Лапшовым, а тут яшчэ падоўгу не было пісем ад Клары.

Год таму назад да Андрэя ў заводскі камітэт камсамола, дзе ён працаваў сакратаром, прышла загадчык аддзела рабочай моладзі гаркома камсамола. Нізенькая, худзенькая, з шырокім кірпатым носам, русымі кучаравымі валасамі, Клара не была прыгажуняй. Андрэй пры выпадку нават падсмейваўся над няўдала скроенай дзяўчынай. Ён ніяк не мог зразумець аднаго, чаму да Клары так ліпнуць хлопцы, што іх вабіць у ёй. Ва ўсякім выпадку, ён сам быў цвёрда ўпэўнены, што ўстаіць супраць любых яе чар.

Клара пацягнула яго па цэхах завода. Яна ўваходзіла ў кожную дробязь, спрачалася, здзіўлялася, уздымала столькі шуму, колькі не здолеў-бы стварыць дзесятак рэвізораў.



Разгневаных начальнікаў цэхаў яна ўціхамірвала адным поглядам сваіх шэрых вялікіх вачэй: зірне неяк з-пад ілба, усміхнецца, зморшчыць нос і ўжо, глядзіш, растаяў начальнік, абяцае, стараецца хоць чым-небудзь дагадзіць вяртлявай сакатусе.

Андрэй суправаджаў яе моўчкі, зрэдку ўстаўляючы адно-два словы. Затое яму даставалася больш за ўсіх. Клара дапякала Андрэю, чым магла.

— Табе, таварыш Шаліма, вельмі падыйшла-б работа ў доме для перастарэлых. Вельмі ўжо ты спакойны,—і тут-жа абвяргала сваю прапанову. — Не, таксама не падыходзіш. Бабулі цябе затуркалі-б.

Праз колькі хвілін яна зноў здзеквалася з яго. Шаліма затрымаўся перад уваходам у заводскую лабараторыю, дзе працавалі адны дзяўчаты. Клара адразу-ж выкарыстала гэта, каб яшчэ раз дапячы Андрэю.

— А мусіць праўда, што ваш сакратар баіцца дзяўчат. Заходзьце, таварыш Шаліма, тут дзяўчаты спакойныя.

Прышоўшы ў камітэт, Клара сцішылася і вельмі талкова расказала яму пра недахопы ў рабоце, параіла, што і як трэба рабіць. Андрэй загледзеўся на яе вуха, якое какетліва выглядала з-пад русых валасоў. Было яно маленькае, ружовае, з радзімкай; так і хацелася пакратаць яго. Скончыўшы размову, яна ўстала, усміхнулася і зноў зрабілася той гарэзай, якой увесь час была.

— Можа праводзіце мяне, таварыш сакратар? Ужо цёмна, а я баязлівая.

— Калі ласка.

— Глядзіце, які лыцар! Шчырае дзякуй, уважыў. Я думала, адмовіш у сваёй ласцы.

— Ведаеш, Клара, мне агоркла тваё блазенства.

— І ўсё-ж прыдзецца яго яшчэ крыху пацярпець.

Яна ўзяла Андрэя пад руку, павяла да выхаду. Каб скараціць шлях да аўтобуснага прыпынку, яны пайшлі наўпрост, праз парк. У парку было зусім цёмна. Апаўшае лісце глуха шуршэла пад нагамі. Клара нагіналася, падбірала іх, нейк умудраючыся падымаць толькі кляновыя.

— Засохнеш зусім з вамі. Сумныя вы ўсе такія і непаваротлівыя, як цюлені. Вось табе не хочацца калі-небудзь кінуць гэтую гульню ў дарослых і проста пабегаць па лузе, палавіць матылькоў або пагуляць у класы: ведаеш, на адной назе скачуць па намаляваных клетках. Ты, мусіць, Андрэй, ужо і нарадзіўся камсамольскім бюракратам.

Андрэй зусім разгубіўся. Ён лічыў сябе знаўцам людзей, а першая дзяўчына аказалася складанай задачай. Некалькі крокаў яны ішлі моўчкі. Скрозь прагаліны між дрэў блiснуў ліхтар ля аўтобуснага прыпынку. Андрэй з палёгкай уздыхнуў: нарэшце канец гэтай пакуце. Але радавацца яму было рана. Раптам наляцеў вецер, і ў голлі зашумеў дождж, спачатку рэдкі, а потым густы і спорны. Клара схавалася пад старую ліпу, але парадзелае лісце амаль не затрымлівала кроплі. Андрэй скінуў плашч.

— Вазьмі, яшчэ прастудзішся.

— Давай разам акрыемся. Ды не саромся ты, як тая красная дзявіца, — яна прытуліла яго да сябе, засмяялася.

Яны былі зусім побач, накрытыя адным плашчом. Андрэй адчуваў цяпло яе цела, чуў пах яе валасоў. Калі Клара варушылася, валасы казыталі яго твар. «А што, калі я вазьму і пацалую яе», — прамільгнула думка і адразу перад вачыма ўзнік яе твар, пацешна наморшчаны нос і маленькае, з чорнай радзімкай вуха: варта толькі нахіліць галаву, і яно будзе на ўзроўні яго губ. Андрэя стрымліваў страх: Клара потым прадставіць гэта ў камічных танах і ён будзе пасмешышчам усяго гарадскога камсамола. Клара маўчыць, а дождж усё мацней і мацней сячэ па дрэвах.

— Трэба бегчы, — гаворыць яна, — мусіць, зарадзіў надоўга.

Андрэй спыняе яе за плечы і адчувае, што яна паварочваецца да яго тварам, нібы хочучы прачытаць па яго вачах, навошта ён узяў яе за плечы. Андрэй нахіляе галаву, яго губы кранаюцца шчакі, потым знаходзяць яе губы і прагна прыцiскаюцца да іх. Клара ўпіраецца рукамі ў яго грудзі, з сілай адштурхоўвае Андрэя, плашч падае на зямлю і іх абдае халодны дождж.

— Ну цябе... Падымай плашч, пайшлі.

Андрэй падымае плашч, спрабуе накрыць ім Клару, але яна рашуча адхіляе яго руку.

— Не трэба, зноў палезеш цалавацца. І што ў вас, хлопцаў, за дурны звычай. Не паспееце пазнаёміцца, а ўжо лезеце з пацалункамі. Што гэта, разменная манета? Ну вось ты, на якое ліха цалаваў мяне?

Андрэй цяпер і сам не ведаў, але на ўсякі выпадак сказаў:

— Пацалаваў і ўсё. Так сабе.

— А ты лепшы, чым я думала. Чэснае слова. Мне здалося, што ты скажаш, быццам закаханы ў мяне.

— А калі-б сказаў?

— Вядома, не паверыла-б, і ты для мяне прапаў-бы назаўсёды. Давай плашч, а то ў мяне па спіне ручайкі цякуць.

Андрэй накрыў яе плашчом. У яго грудзях стала цёпла-цёпла, і Клара здалася мілай і роднай. «Яна добрая і шчырая, — думаў Андрэй. — Вось за гэта яе і кахаюць». Андрэй успамінае кларыну ўсмешку, голас, пагляд шэрых вачэй і знаходзіць іх чароўнымі. На прыпынку яны стаяць, затуліўшыся ў плашч, пакуль не падыходзіць аўтобус. На развітанне Клара гаворыць:

— А мы табе ўсыплем на бюро за тэхвучобу.

Яму сапраўды «ўсыпалі». Пасля пасяджэння ён праводзіў Клару дамоў.

— Не крыўдзішся на мяне? — запыталася Клара.

— Вядома, не. Яшчэ мала ўсыпалі.

— Перастань бічаваннем займацца. Чуў, што артысты з Масквы прыязджаюць?

— Не. Пойдзеш?

— Хацела схадзіць.

— То я...

Клара перабіла.

— А мне прапануюць у абком комсамола пераходзіць. Вось і мая хата.

Яны спыніліся.

— Не разумею я цябе, Клара. Дзіўная ты.

Яна паглядзела на яго доўгім, пільным позіркам. Потым абняла за галаву, пацалавала гарачым, доўгім пацалункам.

Выстаяўшы вялізную чаргу, Андрэй дастаў два білеты на канцэрт маскоўскіх артыстаў. Цэлы дзень шукаў Клару, каб паведаміць пра гэта. Але яе нідзе не было. Набраўшыся храбрасці, схадзіў да яе на кватэру, папрасіў маці перадаць ёй запіску. За поўгадзіны ён ужо быў ля тэатра, чакаў Клару. Яна з'явілася пад руку з нейкім чубатым, доўгім хлопцам. Заўважыўшы Андрэя, яна прывіталася з ім кіўком галавы і прайшла міма, быццам гэта быў не Андрэй, а адзін з комсамольцаў іх завода. Андрэй выцягнуў білеты і парваў іх на шматкі.

Дзён пяць яны не сустракаліся, а калі Андрэй нечакана спаткаў Клару, яна, быццам нічога не здарылася, запыталася:

— Чаго ты не прыходзіў? Можна падумаць, што злуеш.

— Не хацеў перашкаджаць табе з тым чубатым мілавацца.

— Здурнеў ці што. Няўжо-ж я сама павінна была да цябе бегчы? Мог падыйсці. З-за цябе я вечар чорт ведае як дрэнна правяла.

Андрэй аказаўся ў дурнях. Так бывала часта. І чым больш задавала Клара яму вось такіх задач, тым больш ён не мог парваць з ёю. І вось цяпер ён быў далёка ад яе. З кім яна праводзіць час, ці, можа, ні з кім? Ён пазваніў аднойчы ёй па тэлефону. Размова была сухой, афіцыйнай. Андрэй, абураны да глыбіні душы, напісаў злосны ліст. Але і зноў ён застаўся вінаватым: Клара дакарала яго ў неасцярожнасці, у тым, што ён не разумее, як могуць успрыняць у абкоме іх асабістыя тэлефонныя размовы на дзяржаўны кошт. А вось цяпер яна не адказвала на трэці ліст Андрэя і было незразумела або яна чагосьці злуецца, або проста так сабе, выпрабоўвае яго цярпенне. За гэтымі думкамі Шаліму і застаў Лапшоў.

— Слухай, Андрэй, трэба адну дзяўчыну на работу ўстроіць. Яшчэ Тарашчук абяцаў.

— Што мы, біржа працы?

— Разумееш, тут справа гонару. Слова дадзена.

— Не трэба неабдуманыя словы даваць. Лепш вось давай падумаем, як рост палепшыць. Зноў званілі з абкома.

— У абкоме толькі і робяць, што званяць. Плюнь на ўсё — беражы здароўе. Усеадно падзякі не дачакаешся. А наконт дзяўчыны дарэмна. Гэта пракурорава дачка. Добрая дзеўка, вельмі харошы загадчык сектара ўчоту будзе.

— А Рэпкіна?

— Яна не спраўляецца. «Мёртвыя душы» ёсць, узносы збірае дрэнна.

— А ты далёка наперад глядзіш, — Шаліма прыплюшчыў вочы.

— Турмы ды сумы не цурайся.

— Вось як! Ну, добра. Паставім на бюро тваю прапанову.

— З табой нельга па-таварыску пагутарыць. Але выносіць пытанне на бюро не захацеў.

Лапшоў усяляк хацеў дапячы Андрэю: сачыў за кожным яго промахам і потым стараўся расказаць усім, які першы сакратар недацёпа, намякаў на нейкія цёмныя плямы ў біяграфіі Шалімы. Андрэй стараўся не звяртаць на гэта ўвагі. Але аднойчы не вытрымаў. Неяк яны пасля нарады ішлі дамоў разам. Лапшоў між іншым заўважыў:

— Рэпкіна закахана ў цябе.

— Перастань гаварыць пошласці.

— Гэта-ж чыстая праўда. У мяне вока напрактыкаванае. Ды і ў цябе губа не дурная. Дзяўчына яна здобная, толькі круцёлка, — і ён адпусціў па яе адрасу самае бруднае слова.

Андрэй спыніўся, сказаў прыглушаным, злосным голасам:

— Калі яшчэ раз я пачую такія агіднасці, ведай, дам у морду, а потым яшчэ ў абком напішу.

— А ну цябе к чорту. Прыкідваешся няма ведама кім. З табой і пагаварыць шчыра не можна.

Лежачы ў пасцелі, Андрэй прыпомніў сённяшнюю нараду, закаханы позірк Рэпкінай, які яна не спускала з яго. «Чаго яна вытрэшчваецца на мяне. Толькі дае падставу для розных размоў. — І ўжо засынаючы, падумаў: — Заўтра-ж пагавару з ёй».

Але гаварыць на такую тэму ён не адважыўся, хоць некалькі разоў заходзіў у пакойчык да Рэпкінай.



Аднойчы ён запытаўся ў Надзі:

— А вы і цяпер ходзіце на вечарынкі?

— Можа ўжо нельга?

— Наадварот. Трэба хутчэй стварыць комсамольскую арганізацыю ў «Зары». У наступную суботу пойдзеце?

— Можа і вы хочаце схадзіць?

— Вечарынка будзе?

— Не, вяселле.

— З танцамі?

— Абавязкова.

— Пайду.

Увайшоў Лапшоў.

— А-а-а, канфідэнцыяльная размова, прабачце. — Але ён не выйшаў, а сеў. — Куды вы збіраецеся?

— Ёсць адна справа...

Лапшоў падміргнуў. Рэпкіна ўбачыла гэта, пачырванела, выбегла за дзверы. Андрэй акрысіўся:

— Я ўжо цябе папярэджваў, што трэба адносіцца да Рэпкінай прыстойна, а ты сваё.

Лапшоў пагардліва скрывіў рот:

— Ці не прыспала яна цябе?

Шаліма грукнуў па стале кулаком, аж з прыбора выплеснулася чарніла.

— Колькі разоў буду паўтараць адно і тое-ж. На наступным пасяджэнні бюро я далажу пра твае ўчынкі.

Лапшоў падабраўся, сціснуўся ў кулачок.

— Жартую я, Андрэй Антонавіч. Надзя прыстойная дзяўчына. Не трэба на бюро выносіць. Мы і так можам разабрацца.

«Ліха з ім, не трэба, можа паразумнее», — вырашыў Шаліма.

У суботу Шаліма з Рэпкінай пайшлі ў «Зару». Вяселле ішло ў двух хатах адразу: у адной танцавала моладзь, у другой частаваліся госці. Дзяўчаты абступілі Рэпкіну, зашчабяталі. Надзя нешта сказала ім. Высокая чарнявая дзяўчына падбегла да Шалімы, прапанавала распранудца. Па яе знаку з лаўкі падняліся адразу дзве дзяўчыны, прапануючы месца. Шаліма сеў. Ён увесь час думаў, як яму завязаць знаёмства, як пачаць размову. Самае лепшае запытацца пра што-небудзь. Але пра што... Нарэшце ён адважыўся, звярнуўся да суседкі справа, гарэзлівай дзяўчыны:

— Часта ў вас бываюць вяселлі?

У яе вачах заскакалі вясёлыя чорцікі:

— Раз у год на святыя нігды. Хлопцаў у калгасе па пальцах пералічыш і тыя насы задраўшы ходзяць, ламаюцца, як капеечныя абаранкі.

— Навошта-ж вы іх адпускаеце з калгаса?

— Іх, чарцей, утрымаеш! Да прызыву яшчэ за калгас трымаюцца, а пасля арміі ўсе ў горад падаюцца. Мы ўжо хацелі Жукаву пісаць, каб парадкі навёў, спецыяльны загад выдаў: дэмабілізаваны можа жыць, дзе хоча, а жаніцца абавязкова на сваёй калгаснай дзяўчыне павінен.

Іх размову нечакана спынілі: прышоў жаніх, высокі, падстрыжаны пад бокс дзяцюк, з белай ружай на лацкане пінжака.

— Прабачце, таварыш сакратар, так сказаць, за стол да нас просім.

Шаліма апешыў. Ісці за стол азначала піць гарэлку. А ці добра гэта сакратару райкома комсамола? Ды і Лапшоў можа скарыстаць. Мала што пайшоў на вечарынку, дык яшчэ выпіваў на ёй. Ён ліхаманкава думаў, якую знайсці прычыну для адгаворкі.

— Дзякую... я тут, з моладдзю.

— Не, пойдзем, — цягнуў той Шаліму за рукаў. На дапамогу прышоў бацька жаніха.

— Не пагрэбуйце, таварыш сакратар, нашым, калгасным. Прысмакаў у нас асаблівых няма, прабачце. Чым багаты, тым і рады.

Жаніх тым часам падбег да Надзі.

— Кідай, Надзя, танцы, пайшлі вып'ем. Дуська загадала без цябе не прыходзіць.

— Пойдзем, Надзя, трэба жаніха ўважыць.

У сенцах Рэпкіна шапнула Андрэю:

— Андрэй Антонавіч, а вяселле з вянцом.

Андрэй разгублена спыніўся, потым рашуча зайшоў у хату: адступаць не было куды.

Шаліму пасадзілі побач з жаніхом. Бацька ўзяў абедзвюма рукамі вялізную чорную бутлю, наліў поўную шклянку бялясай вадкасці, крутнуў рыжы, фельдфебельскі вус.

— Выпі, таварыш, за шчасце маладых.

— Што вы, столькі я не магу.

Госці наперабой загаварылі.

— Выпіце...

— За маладых трэба выпіць...

Андрэй бачыў, што адмаўляцца нельга, чокнуўся з жаніхом, нявестай, адпіў палову, паставіў шклянку на стол.

— Ты, таварыш, злосці нашым дзецям не зыч, — умяшалася маці нявесты. — Першую да дна трэба піць. У Крэмлі, вунь, таксама на прыёмах выпіваюць.

Вакол загаманілі.

— Да дна-а-а...

— Гэта ўжо непавага...

Андрэй падняў шклянку, перакуліў яе, зухавата кракtануў.

— Вось і на здароўе.

Шаліма бачыў, што гэткім-жа чынам прымусілі выпіць і Рэпкіну, толькі ў яе была чарка і налітая не зусім поўна. Пакуль Андрэй закусваў, Надзя пачала спрэчку. Шаліма не чуў, аб чым яна спрачаецца, але бачыў, што радня маладой адчувае сябе няёмка, ды і жаніх неяк круціцца на месцы.

— Ты, таварыш сакратар, не звяртай увагі, што мы па дурасці ў царкву паехалі. Прычапілася яе старая... Я першы раз у царкве быў і Дуська таксама. Смешна.

— Смешна і крыўдна, што такі хлопец паддаўся старой жанчыне, — зазначыў Андрэй.

— Цяпер вянчанне — тая-ж забаўка, — умяшаўся бацька. — Жывучае, ліха на яго, старое. Я сам не прызнаю.

— Гэта яшчэ горш: не прызнаеце, а сын вянчаецца.

— І што там дрэннага ў вянчанні, — падхапілася жаніхова цёшча. — Укусілі іх там?

— Спыніцеся, — не вытрымала маладая.

— Вып'ем яшчэ, — каб замяць непрыемную размову, прапанаваў бацька жаніха.

Калі госці вылезлі з-за стала, бацька абняў сына і Шаліму за плечы.

— Ты, таварыш сакратар, малайчына, правільна гаварыў. Мой сын шляпа. Ім цёшча ўжо цяпер як захоча круціць. Ладна, каб на добрае кіравала. Ты, Дуся, не крывіся, я праўду кажу. Супраць цябе нічога не маю. Ты дзеўка што трэба. Але матка ў цябе... Ну, ды не век вам з ёю жыць. Старых, сын, трэба слухаць, але і свой розум не губляць. Так я кажу, сакратар, ці не? Падабаешся ты мне. Давай вып'ем.

Шаліма адмовіўся. Падбегла Надзя, пацягнула на вечарынку.

— З дзяўчатамі я гаварыла. Кажуць, што пададуць заяву ў комсамол, толькі каб хлопцы першымі ўступілі.

— Добра, Надзя. Я пагутару. Не відаць, што п'яны?

— Дык гэта-ж вяселле.

Пакрысе выпраўлялася становішча ў пярвічных арганізацыях: ажывала работа гурткоў, часцей праводзіліся сходы, ды і карысць ад іх была прыкметная. Андрэй Шаліма сам рэдка калі бываў у райкоме комсамола і работнікам не даваў падоўгу заседжвацца ў раёне. Там, на месцы, у калгасных брыгадах, на ферме, ля малатарні, у трактарнай брыгадзе ён гутарыў з моладдзю, дапамагаў ёй наладжваць комсамольскую работу. Гэта былі невялікія, малапрыкметныя справы, але карысць ад іх была вялікая. Дасюль ніхто толкам не ведаў, што і як павінна рабіць комсамольская група на ферме. Цэлы тыдзень Андрэй разам са свінаркамі і даяркамі падымаўся ў пяць гадзін раніцы, ішоў на фермы, вывучаў умовы працы маладых жывёлаводаў. І вось пры ферме былі абсталяваны два пакоі. У адным — пакой адпачынку, у другім — чырвоны куток. У чырвоным кутку з'явіліся гульні, кнігі, а калі даяркі прынеслі сюды гітару і балалайку, у чырвоны куток фермы пацягнулася калгасная моладзь. Цяпер жывёлаводы не лічылі сябе адарванымі ад культурнага жыцця, як гэта яны гаварылі раней.

А самым галоўным дасягненнем Андрэй Шаліма лічыў рост пярвічных арганізацый. Цяпер на кожным бюро прыходзілася разглядаць па дваццаць-трыццаць заяў маладых калгаснікаў. Нарэшце, была створана комсамольская арганізацыя і ў калгасе «Зара». На першым сходзе прысутнічалі Андрэй Шаліма і Надзя Рэпкіна. Комсамольцы яшчэ саромеліся выступаць, хаваліся за плечы адзін другога, але па рэпліках, якія яны кідалі з месца, Шаліма адчуваў: тут будзе баявая арганізацыя. Хоць комсамольцы і слаба выступалі на сходзе, затое назаўтра ўсе выйшлі на нядзельнік.

У панядзелак Шаліма, радасны і ўзбуджаны, вярнуўся ў райком комсамола. Адчыніў дзверы ў свой пакой і спыніўся ад нечаканасці. На яго месцы ў крэсле сядзеў Караба, а на канапе поўляжаў і дрыгаў нагой Лапшоў.

— Вярнуўся? Чаму ў вас у райкоме нікога няма?

— Лапшоў тут заставаўся, — Андрэй паспяшыў падзяліцца радаснай навіной. — А мы, разумееш, у «Зары» арганізацыю стварылі. Пяць год, як яна там развалілася. Баявыя хлопцы, я табе скажу, ды і дзяўчаты не ўступяць.

— Ха, баявыя. Куды больш: адной рукой за папа, другой за сакратара райкома трымаюцца.

У адказ Карабе Шаліма махнуў рукой, заўважыў:

— Ты наконт таго вяселля? Самі мы вінаватыя. Была-б там арганізацыя, вянчання не было-б. Яны-ж абодва цудоўныя, а вось маеш... Гэта табе Лапшоў расказаў?

— Абкому ўсё вядома і без Лапшова. Не чакалі мы ад цябе, таварыш Шаліма, такіх выбрыкаў. Абком вось мяне на дапамогу паслаў. Калі так і далей будзе прадаўжацца — не сядзець табе на гэтым крэсле.

Шаліма распрануўся, падышоў да Карабы, злосна прыжмурыў вочы.

— А пакуль ты злазь. Ну, ну, хутчэй, мне працаваць трэба.

Караба збялеў, падняўся з крэсла, афіцыйным тонам папрасіў даць яму звесткі аб росце пярвічных арганізацый за два гады ў разрэзе месяцаў, аб колькасці маладых даярак, свінарак, звеннявых, брыгадзіраў, аб колькасці палітгурткоў, аб ураджайнасці кукурузы і бульбы, аб колькасці цялят і парасят, якіх выгадавалі за мінулы год комсамольцы-жывёлаводы, і яшчэ з дзесятак розных звестак. Андрэй цярпліва запісваў адно пытанне за другім, потым не вытрымаў:

— А колькі старыя бабулькі расказалі казак сваім унукам, табе трэба ведаць?

Караба, не разабраўшыся спачатку, ляпнуў:

— Калі яны ў вас ёсць. — Потым спахапіўся: — Я вас не разумею, таварыш Шаліма...

— Навошта вам большасць з гэтых звестак?

— Вы дрэнна павышаеце свой ідэйны ўзровень. Яшчэ Карл Маркс вучыў, што соцыялізм — ёсць улік.

Шаліма зарагатаў.

— Ну, калі Маркс так вучыў, то нічога не зробіш, — і нечакана для Карабы заявіў: — Паедзем да моладзі ў калгасы.

Караба адмовіўся, спаслаўшыся на неадкладныя справы ў райцэнтры.

— Тады звесткі падрыхтуюць Рэпкіна і таварыш Лапшоў, а я еду у Залескі сельсовет.

На восьмы дзень прабывання ў Залессі, у час калгаснага вечара, да Шалімы прыбегла дзяжурная па сельсовету, перадала паперку з кароткай тэлефанаграмай: «Заўтра быць у абкоме, а дванаццатай гадзіне дня».

— Хто званіў?

— З райкома партыі.

Шаліма паказаў ліст старшыні калгаса, той прачытаў, паціснуў плячыма.

— У чым справа? Нібы вайна пачалася. Плюнь на ўсё, таварыш Шаліма.

— Мусіць, нешта важнае. Скрозь ноч мяне адшукалі. Трэба ехаць. Вось толькі як да райцэнтра дабрацца.

— Гэта я табе арганізую. А толькі папомні маё слова: з-за нейкай дробязі выклікаюць.

У Каргаполле Шаліма прыехаў на досвітку. Забег у райком партыі, разбудзіў дзяжурную. Тая нічога не ведала. Учора ўвечары ёй пазванілі з вобласці, загадалі адшукаць сакратара райкома комсамола і перадаць тэлефанаграму. Яна ўсё выканала, як ёй казалі. Шаліма пабег на кватэру да Рэпкінай. Надзя наогул нічога не ведала.

— Караба тут?

— Не, заўчора паехаў, — і ўжо зусім пасакрэту дадала: — Ён тут усіх замучыў: па восем гадзін падрад з кожным гутарыў.

— Пра што пытаўся?

— Ці не капаюць яны чаго на вас...

Паснедаўшы на скорую руку, Шаліма пайшоў на бальшак «галасаваць» спадарожную машыну. Іх, як на злосць, доўга не было. Падабрала яго гадзін у дванаццаць леспрамгасаўская машына, гружаная лесам. Так ён і дабраўся да абласнога цэнтра, седзячы высока на бярвенні.

У прыёмнай першага сакратара абкома комсамола сядзела, апрача вастраносай сакратаршы, чалавекі чатыры, «персанальнікі», як вызначыў Шаліма па іх посных тварах. Значыць, бюро падыходзіла к канцу, бо асабістыя справы звычайна разбіраліся ў канцы пасяджэння.

Убачыўшы Шаліму, сакратарша знікла за дзвярыма кабінета, потым выпырхнула адтуль, строга запыталася:

— Чаму вы спазніліся?



— Бо не меў крылляў.

— Цяпер вас у самым канцы будуць слухаць.

— Па якому пытанню?

— Тады даведаецеся.

— Гэта, прыблізна, праз колькі хвілін?

— Думаю, не раней, чым праз гадзіну.

Андрэй узрадаваўся такому выпадку: ён пабачыцца з Кларай і пра ўсё распытае. Цяпер, перад сустрэчай, Андрэй асабліва адчуў, як вырасла яго прыхільнасць да Клары. Тады, калі яны былі заўсёды непадалёк адзін ад другога, гэтага не адчувалася. Цяпер, на адлегласці, Клара ўяўлялася самым дарагім і блізкім чалавекам. Андрэй яскрава бачыць, як вось зараз ён адчыніць дзверы, Клара кінецца да яго і абдыме, як гэта яна рабіла, вяртаючыся з камандзіроўкі. Андрэй перапаўняўся пачуццем замілавання да каханай ім дзяўчыны. Ён так расчуліўся, што, калі адчыніў дзверы, дык у першую хвіліну не заўважыў, што Клара не адна: побач з ёю за сталом сядзеў незнаёмы хлопец. Андрэй бачыў толькі Клару, яе прыгожыя завіткамі валасы, мілы твар і вялікія вочы, і, не маючы сілы схаваць сваю радасць, усміхнуўся на ўвесь рот.

— Прыехаў, — паморшчыла нос Клара. — Ужо быў на бюро?

— Не. А ты не ведаеш, у чым справа?

Клара глянула на яго нязвыклым позіркам шэрых вачэй і адразу-ж прыкрыла іх доўгімі вейкамі.

— Ну, ад цябе не чакала...

— Што здарылася, Клара?

— Глупства... ды сам даведаешся. Не перашкаджай... Ты мяне прабач... На бюро праект забракавалі. На чым мы спыніліся? — спыталася яна ў чарнявага.

Андрэй, збіты спанталыку, пастаяў з хвіліну і, адчуўшы, што ён перашкаджае, выйшаў.

Насустрач яму бегла ўжо вастраносая сакратарша.

— Дзе вы ходзіце? Зніклі і нічога не сказалі. Члены бюро чакаюць.

Шаліма не спяшаючыся пайшоў за ёй.

— Дзе вы прападаеце? — накінуўся на яго першы сакратар. Ён ускочыў, прабегся, потым сеў на падлакотнік крэсла. — У раёне вас не знайсці, тут таксама. Расказвайце пра свае пахаджэнні.

Рыгор НЯХАЙ

## Суседзі

Пакошаны лугі, пажата жыта,
Адно тырчаць высокія стагі.
На Сожы вецер гойдае сярдзіта
У марыве асеннім берагі.

Як падарожнік, параход кідае
Прыветлівы з Украіны гудок.
Ён кланяецца гомельскаму гаю,
Вышэй каля прычала уздымае
Абветраны прасторамі сцяжок.

— Прывет табе, таварыш з Украіны!
Хоць я з табой зусім і не знаём,
Але ты тут, дзе адцвіла каліна,
Прытулак знойдзеш і свой родны дом.

Злучыліся вятры і подых стэпаў
З палескай нашай ціхай баравой,
Нямала мой сусед зямель праехаў,
Ды трапіў-такі зноўку ў горад свой.

— Нагружаныя палубы гавораць,
Што дыні урадзіліся у вас.
У нас-жа бульба, паглядзіш, як мора,
Цвіце і зелянее ў добры час.

— Што і казаць, да дыняў кожны ласы,
А ты спрабуй мундзіркі.
Ну, брат, смак!
Калі яшчэ грыбоў падсмажыць часам —
Не паясі і ў рэстаране так!

Ідзе між намі дружная бяседа,
А Сож гайдае ціха берагі.
Выходзіць: хваліць ўсё сусед суседа.
Хвалю я стэп, ну, а ён — лугі.

— І сена, кажаш, многа накасілі?
Напэўна, малака двайны удой?
А ў нас пшанічкі, ты паверыш, сіла,
Засыпалі засекі ўсе з гарой.

Мы дзелімся дарамі нашых земляў,
Здабыткам нашых працавітых рук.
Калі-б быў час, сядзелі-б мы да пеўняў,
Забыліся-б на познюю пару.

Блакітны дах адзін ляжыць над намі...
А хата не раздзелена нічым,
І золатам напісана на браме:
«Тут два браты. Ім добра абаім».

Шаліма нібы аслупянеў. У галаве мільганула: «Што яны маюць на ўвазе?»

— Не прыкідвайся, нам усё вядома.

Гэта нібы апякло Шаліму. Ён скрозь ноч па марозу імчаў да райцэнтра трыццаць пяць кіламетраў, семдзесят кіламетраў мёрз на бярвеннях, не еў, не спаў, думаў пачуць нешта важнае, а тут выдумляюць якіясьці недарэчнасці. Раззлавана адказаў:

— Калі вядома, няма чаго і расказваць.

Тады загаманілі наперабой. З бязладных рэплік Андрэй зразумеў, што яго абвінавачваюць у п'янстве, у патуранні забабонам, у маральным разлажэнні і зацісканні крытыкі і ініцыятывы, у непавазе прадстаўнікоў вышэйстаячых комсамольскіх органаў.

Шаліма спрабаваў апраўдвацца, але яго-ж уласная рэпліка, сказаная ў пачатку пасяджэння, так наэлектрызавала некаторых членаў бюро, што цяпер кожнае слова яго выклікала толькі яшчэ большую крытыку.

— Зазнаўся.

— Дзеяч, глядзіце на яго.

— Бюро нават на паважае.

— Разлажыўся. Пад уплыў Рэпкінай трапіў.

— Гнаць яго з комсамола.

Андрэй, зразумеўшы, што яго апраўданні толькі падліваюць масла ў агонь, зусім змоўк. Яго прапрацоўвалі яшчэ з гадзіну, і ён ужо прывычна, амаль безуважліва слухаў выступленні. А ў скронях стукала: сорам, сорам, сорам.

Як скрозь сон, ён помніў, што выступала другі сакратар абкома комсамола і абараняла яго. Яе падтрымалі яшчэ два члены бюро. Таму пры вынясенні спагнання галасы раздзяліліся, і ўсё-ж яму далі строгую вымову з папярэджаннем і з занясеннем у асабістую справу. Рэпкіну з работы здымалі.

На гэтым пасяджэнне закончылася. Члены бюро курылі, гаманілі, спяшаючыся дамоў. Андрэй стаяў у страшэннай разгубленасці. Да яго падыйшла другі сакратар.

— Што-ж вы, таварыш Шаліма, падводзіце? Мы на вас спадзяваліся. Не губляйцеся толькі, сумленная справа здыме з вас гэтую вымову.

Гэта было першае слова спачування, і Андрэй, каб не расплакацца, выбег у калідор. Яго зноў пацягнула да Клары. «Вось чаму яна так сустрэла мяне, — падумаў ён. — Няўжо Караба нахлусіў пра Рэпкіну?»

Клара была адна. Яны доўга маўчалі. Нарэшце, Клара пачала апранацца.

— Дзе ты спынішся?

— Пакуль нідзе.

— Дакацішся... далей няма куды.

— Клара!..

— Што, Клара?

— Няпраўда гэта ўсё.

Яе твар зрабіўся шэрым, злосным, раз-пораз перасмыкаліся павекі.

— Адзін ты праў. Два чалавекі пісалі пра тваё агіднасці, Караба правяраў...

— Клара, хлусня гэта, павер мне.

— Самую страшэнную праўду дарую, а хлусню — ніколі. А ты ўсім хлусіў.

— Што вы на самай справе ўсе на мяне.— У Андрэя спёрла ў грудзях, здрадніцкі горкі камяк падпёр пад горла. — Не верыце і не трэба.

Клара падыйшла ўшчыльную і, задыхаючыся, сказала:

— Мне трэба дзверы зачыняць...

Андрэй выйшаў на вуліцу, бязмэтна пайшоў па тратуары. Запах ежы напомніў, што сёння ён амаль не еў. Зайшоў у сталовую, сеў за першы стол. Падбегла маладзенькая афіцыянтка, паглядзела на яго, запытала:

— Сто пяцьдзесят, ці больш?

— Хопіць.

— На закуску ёсць шпроты.

— Мне і абед.

— Добра. Піва трэба? Не. Свежае, толькі з завода.

Пасля вячэры зайшоў у гасцініцу. На яго, мусіць, не пакінулі броні і месца не было. Зноў пайшоў у абком. Дзяжурны адчыніў адзін з пакояў, дзе была мяккая канапа, пайшоў спаць. Андрэй зноў застаўся адзін са сваімі думкамі. «Можа і сапраўды вінава-



ты, — думаў ён. — Навошта было ісці на вяселле. Хіба скажаш, што не п'янствуеш, калі піў на вяселлі пры ўсіх? Ды і па рабоце можна было зрабіць больш... А Надзя?.. Няўжо яна сапраўды такая? З ёй у яго таварыскія, чыстыя адносіны. Але-ж размовы... Пэўна, не дагледзеў. Не, Надзя не такая. — Успомніў Тарашчука. — Няўжо ён наплявузгаў? Лапшоў — зразумела: з ім спрачаліся, ён хацеў быць першым сакратаром. А Тарашчук?.. А Караба? Гэта проста чыноўнік, верхагляд».



Андрэй доўга не мог заснуць: спружыны балюча калолі пад бакі, галаву муляў цвёрды драўляны валік канапы, скурчаныя ногі мярцвелі, а галоўнае, мучала незаслужаная вымова. Заснуў толькі пад раніцу і ўвесь час сніў нейкія невыразныя сны. Прачнуўся ад лёгкага шораху, расплюшчыў вочы. У шэрай перадранішняй імгле чарнела постаць. Андрэй не мог успомніць, што з ім і дзе ён. Каб лепш разабраць, хто стаіць перад ім, крутануўся, каб легчы на бок. Тады постаць упала на яго, пачала душыць у абдымках.

— Андрэй, мілы!

— Клара!

Яна стаяла на каленях перад канапай, пацiскала яго галаву гарачымі далонямі. Шаліма ніяк не мог уцяміць, як трапіла сюды Клара, адкуль яна. Яму было сорамна ляжаць перад ёй, але ён доўга ніяк не мог падняцца і сесці, бо Клара не выпускала яго са сваіх абдымкаў. Нарэшце, ён сеў, падняў Клару з каленяў.

— Я ведаў, Клара, што ты прыдзеш, — цалуючы яе, шаптаў ён. — Ты не паверыла, так?

Яна адштурхнула яго, напэўна, успомніўшы, што было.

— Годзе, — спыніла яна Андрэя, калі ён хацеў яе абняць. — Я ледзь знайшла цябе. Думала, ты паехаў. Усю ноч заснуць не магла.

Яна ўсміхнулася. Андрэй узяў яе рукі ў свае.

— Клара, я так люблю цябе, Клара.

— Я ведаю гэта, Андрэй, і я цябе люблю... Я-ж усю ноч званіла да цябе ў раён. Усіх там на ногі падняла. Пачакай, прыедзеш у раён, яшчэ не тое будзе. Чаму ты, ад'язджаючы сюды, не зайшоў да сакратара райкома партыі. Ён-бы не дапусціў гэтага. Ён, ведаеш, як добра аб тваёй рабоце гаворыць.

Андрэй хацеў сказаць, што ён і сам не ведаў, чаму яго сюды выклікаюць, але зразумеў — нічога ўжо не патрэбна гаварыць. Было толькі крыўдна, што ён на бюро не абараняўся як належыць камсамольскаму важаку, трымаў сябе, як пакрыўджаны хлапчук.

Клара прадаўжала:

— А сакратар райкома ў вас, мусіць, разумны чалавек, га? Яны-ж і ў райком пра цябе пісалі. Там не паверылі, а тут Караба падвёў.

Андрэй прытуліў Клару да сябе.

— Цяпер мы ніколі не расстанемся.

— Пойдзем да нас, мама чакае, — і ўжо дарогай паведаміла абыякавым тонам. — Сакратар райкома званіў нашаму сакратару.

Андрэй хацеў запытацца, адкуль яна ведае, але і сам здагадаўся, што Клара, мусіць, гэтага дабілася.

Калі апоўдні ён прышоў у абком камсамола, яго першым сустрэў Караба.

— Ха, Шаліма, прывітанне. Ты не крыўдзішся?

Андрэй не ведаў, што адказаць, ён нават не думаў над тым, крыўдзіцца ён на Карабу ці не. Караба ўзяў яго пад руку, пацягнуў да акна.

— Хачу з табой па-таварыску пагаварыць. Дурань я, што пайшоў на гэтую работу. Сам ведаеш наша жыццё: камандзіроўкі, даклады. Адны непрыемнасці, памаўчаўшы, дадаў. — Можа будуць пра мяне пытаць, не капай яму. Сапсуюць асабістую справу, куды тады сунешся. Конь на чатырох і то спатыкаецца.

Андрэю стала ўсё зразумела, падумаў: «Без мяне разбяруцца».

— Добра, — паабяцаў ён Карабе. — Пакліч толькі сюды Клару.

Караба падміргнуў, куляй паляцеў на другі паверх. Прышла Клара.

— У Каргаполле камісія назначана. Другі сакратар узначальвае. Караба, бач, як вужака, круціцца, а Лапшова, мусіць, здымуць...

— А я вырашыў не паказвацца там, — паказаў ён наверх, — паеду дамоў.

— Пачакай, я цябе праваджу. — Клара хуценька збегала наверх, апранулася, і яны пайшлі на аўтобусную станцыю.

Яны стаялі на бруку і маўчалі. Нарэшце, шафёр даў працяжны гудок. Шаліма падаў руку, так і не адважваючыся пацалаваць Клару пры народзе. Яна ўзяла руку, моцна сціснула яе, замілавана паглядзела яму ў вочы.

— Таварышы, не затрымлівайце, — закрычала кандуктар. — Хто з вас едзе?

Андрэй ускочыў у аўтобус, дзверка з віскам зачынілася. Ён кінуўся да акна. Клара стаяла маўклівая і моцна сціскала ў руках сумачку.

---

Зіновій ВАГЕР

## У дарозе

Чаму ад самых ад народзін,
Нямала змераўшы пуці,
Я не сказаў ні разу — годзе,
А ўсё далей хачу ісці?

Калісьці з кнігамі, вясёлы —
Ці ў дождж асенні, ці зімой —
За пяць кілометраў у школу
Хадзіў я сцежкаю лясной.

Гады студэнцтва!.. І далёка
Дарога ў горад пралягла
Істужкай светлаю, шырокай
Ад майго роднага сяла.

Праз далячынь ісці, вядома,
Было нялёгка, але змог...
І вось з настаўніцкім дыпломам
Ступіў на школьны я парог.

Вось так дайшоў хадой упартай
Я да адной з жаданых мэт.
І тут, ля гэтых школьных партаў,
Мне адчыніўся новы свет.

Дзіцячых сэрцаў свет я зведаў,
Сваё сумленне, чэсць сваю,
Душы агонь і радасць ведаў
Маленькім шчыра аддаю...

А час міне: праз зімы, леты,
Як рушаць вучні ў дальні пуць —
Імя настаўніка за гэта
Яны з сабою панясуць.

Таму ад самых ад народзін,
Нямала змераўшы пуці,
Я ўсё лічу сябе ў дарозе,
І буду так далей ісці!

## На вяселлі

Іграе баян. Весяляцца дзяўчаты,
Спяваюць хлапцы. Стала цесна ім хата,
Прасторная хата Аўдоцці-даяркі,
Калгаснай даяркі, што з ордэнам яркім...
Сядзяць маладыя, нібыта на ўзгорку,
Бо бачым усе іх...
— Ой, горка! Як горка!
Устаў брыгадзір, просіць слова для тоста,
Ды не заглушыць яму слоў нашых простых:
— Няхай-жа іх твары цвітуць, нібы зоркі!
І тут дадаем мы: — Ой, горка, як горка!
...Даярцы няпрошаных слёз не стрымаці.
— Нашто-ж тыя слёзы, матулечка, маці?
Мы лепш маладых ад душы павітаем,
Жыцця найдружнейшага ім пажадаем.
Жылі каб шчасліва, не бачылі гора,
І дзетак каб мелі не менш, як шасцёра...
...Іграй-жа, баян, аж да ранішняй зоркі,
Жыццё іх хай будзе салодкім, не горкім!

Ніна Каржова і Сяргей Ліс развучваюць новы музыкальны дуэт.



# Вечарынка ў Залессі

С. КУХАРАЎ

— Умеюць у Залессі адпачынак арганізаваць, — сказалі нам у Смаргонскім райкоме комсамола. — Такія вечарынкі гуляюць, што аж з-пад Маладзечна хлопцы туды ходзяць.

Са словам вечарынка ў нас звязваецца паняцце звычайнай пагулянкі, дзе, апроч танцаў ды таўкатні, бадай нічога і не ўбачыш. Хто з нас, вяскоўцаў, не памятае, як некалі праходзілі вечарынкі! Пачыналіся яны позняй восенню, калі вёска ўпраўлялася з работамі, і ішлі аж да таго часу, пакуль дзяўчаты не садзіліся за кросны. І называліся яны проста гульбішчамі. Гулялі запар некалькі дзён, і хваля гульбішчаў кацілася па заснежаных вуліцах з адной вёскі ў другую. Як правіла, хлопцы ў складчыну наймалі гарманіста, а дзяўчаты гатавалі вячэру. І абавязкова ў многіх беларускіх вёсках з кашаю. За права разбіць аб стол гаршчок з кашай ішло гарачае змаганне: хто лепш «памасліць» кашу, той і авалодае гаршком. А вядома, якія грошы былі тады ў вясковых хлопцаў. Вось, бывала, на гэтай глебе і адбываліся ўсялякія непрыемнасці. У самы разгар, калі паміж якімі-небудзь вясковымі кавалерамі разгараўся торг — хто больш пакладзе грошай на стол, — раптам на лямпу ляцела чыя-небудзь шапка, і пачыналася сапраўдная баталія.



Генадзі Альхімовіч з Надзяй Ліс у кругу «Полькі».

І ў Залессі вечарынкі раней былі такімі-ж. Яны абавязкова канчаліся п'янкай, сваркамі і нават бойкамі паміж хлопцамі. Лічылася нават, што калі на вечарынцы ніхто не пабіўся, то і гульні не было сапраўднай. І гэта ўсё таму, што моладзі было сумна і ніхто не ведаў, як пазбыцца гэтага суму.

Якімі-ж цяпер выглядаюць залескія вечарынкі, калі ў Залессі бурліць новае жыццё, калі заходнебеларуская вёска стала жыць дружнай калгаснай сям'ёю?

Вечарэе. У залескім клубе запальваюцца агні. Пакуль яшчэ не сабралася моладзь, загадчык клуба Уладзімір Сурмач рыхтуе залу, ідзе да кіномеханікаў, якія ў другой палавіне пераглядаюць кіностужку, цікавіцца, як у іх справы.

Тым часам у чытальні кіпіць сваё жыццё. Аматары настольных гульняў заняліся сваёй справай, аматары чытання разгарнулі газеты і часопісы. Група хлопцаў і дзяўчат сабралася каля новага нумару насценгазеты «Малады калгаснік», абмяркоўваюць нейкую цікавую заметку. Бібліятэкар Ірына Дудко выдае чытачам кнігі.

— Вазьмі вось гэтую кнігу, Анатоль, — гаворыць яна дробнатвараму хлопцу і падае яму раман Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах».

— Мне яшчэ што-небудзь пра жывёлагадоўлю, — абзываецца хлопец, — бо на ферме я цяпер працаваць буду.

Хлопец бярэ тую кнігу, што падала яму Іра, а заадно запісвае ў свой абанемент і часопіс «Колхозное животноводство».

Іра спяшаецца хутчэй выдаць кнігі, бо вось-вось падыйдуць дзяўчаты з Аленца і пачнецца рэпетыцыя хору. Апрача работы ў бібліятэцы, Іра кіруе хорам. Прыгожыя, чыстыя галасы Ніны Каржовай, Анны Майсак, Веры Алешка, Ніны Апанасёнак і многіх іншых спявачак прынеслі добрую славу залескаму хору. Не аднойчы мастацкі калектыў Залесся выступаў у суседніх вёсках, на святах песні.

... Не паспелі яшчэ Ніна Каржова і Сяргей Ліс прарэпетыраваць свой новы дуэт, як у клуб прышлі аленецкія харысты. У кругу дзяўчат быў свой баяніст. Прасторная, шырокая зала напоўнілася вірлівымі пераборамі баяна. Адна з дзяўчат, здаецца, Анна Майсак, завяла:

Ой, ляцелі гусі з броду,  
Замуцілі чысту воду.



Бібліятэкар Іра Дудко выдае кнігу маладому калгасніку Анатолю Ястрэмскаму.

Падхопленая дружнымі дзявочымі галасамі, песня расла, шырылася:

Пакуль вада чыста стала,
Я з Раманам пастаяла...

Можа гэта ўжо і ёсць тая залеская вечарынка, што прыносіць столькі радасці і задавальнення моладзі? Не, гэта толькі пачатак яе, спеўкі хору. Дзяўчаты, заняўшы месцы на сцэне, развучваюць новыя песні, каб потым на наступны раз выступіць перад сваімі сябрамі.

У клуб збіраецца ўсё больш людзей. У зале не толькі моладзь. Прышлі і старыя залесцы — калгаснікі, рабочыя-чыгуначнікі, па-святочнаму апранутыя. Відаць, нешта цікавае будзе і сёння ў клубе.

— Звычайная вечарынка, — гаворыць Уладзімір Сурмач і жмурыць свае цёмныя, з хітрынкай вочы. — У нас яны кожную нядзелю бываюць.

Памаўчаўшы, нібы ацэньваючы, якое ўражанне на нас зрабілі гэтыя словы, Сурмач дадае:

— Уласна, так мы па-простаму называем нашы маладзёжныя вечары. Усёроўна, як назавеш, абы моладзі весела было!..

Добрае гэта імкненне — каб моладзі весела было! Пэўна, не так ужо і сумна тут, калі вось і на гэты раз: спеўкі, гутарка пра вялікага пераўтваральніка прыроды І. В. Мічурына, кінокарціна, а потым — музыка. А пагуляць, паспаборнічаць у шумлівым крузе танца любяць залескія хлопцы і дзяўчаты. А як прыемна і добра яны спяваюць! Той, хто хоць раз паслухае, як спяваюць у Залессі, надоўга захавае ўспамін аб гэтых простых, шчырых песнях, узятых з жывой крыніцы народнай творчасці.

Відаць, не дрэнна выступаюць і мясцовыя лектары і дакладчыкі, бо і сёння ўсе ўважліва слухалі гутарку настаўніка — аматара садоўніцтва Н. А. Арцюховіча, а потым засталіся глядзець кінофільм. Доўга былі яшчэ пажылыя з моладдзю і пасля таго, як пачаліся танцы.

На сцэне занялі свае месца музыкі — акардыяніст Мікола Баран і гарманіст Іван Навумчык. Мікола — штатны гарманіст у клубе, а комсамолец Іван Навумчык нядаўна навучыўся іграць і цяпер дапамагае акардыяністу.

Як ты не прыдзеш у клуб, калі хлопцы расцягнуць квяцістыя мяхі сваіх гармонікаў! Здаецца, лепшай музыкі і не чуў. Гукі то пяшчотныя, ціхія, то бурныя, звонкія вылятаюць з-пад гнуткіх пальцаў музыкаў, зліваючыся ў адзін кранаючы сэрца матыў. Паспрабуй, уседзь на месцы!..

Паглядзелі-б у гэты момант на саміх музыкаў. Яны нібы абыякавыя да ўсяго, але гэта толькі здаецца. Вось Іван Навумчык. Ён увесь у музыцы. Яго смуглявы, апалены сонцам твар, на якім свецяцца спакойныя шэрыя вочы, напоўнены нейкай велічна-спакойнай урачыстасцю. Іван нібы нікога і нічога перад сабою не бачыць, апроч свайго прыгажуна-баяна. А ў залу ўсё плывуць і плывуць чароўныя гукі. Зажмурыш вочы і, здаецца, чуеш, як плешчуцца вірлівыя амурскія хвалі... І толькі гучны, бадзёры выгук: «Вальс злева!» выводзіць цябе з гэтага задумення.

... Пара за параю плаўна і лёгка кружацца ў зале. Усімі колерамі вясёлкі пры яркім святле пераліваюцца сукенкі дзяўчат, зззяюць гальштукі і манішкі вышываных сарочак у хлопцаў. Усе добра, з густам апрануты, у дарагіх абновах. Не пазнаеш, дзе тут калгасніца, а дзе настаўнік, аграном. Звённявая Вера Алешка танцуе з настаўнікам Мікалаем Арцюховічам, трактарыст Пятро Ліс — з настаўніцай Нінай Каржовай.

Баявыя, вясёлыя дзяўчаты ў Залессі. Добра яны працуюць на полі, на ферме, але першынства ў гульні і спевах таксама не ўступяць. Не дарма ідуць у Залессе хлопцы не толькі з суседніх вёсак Аленец, Зарудзічы, Янічы, але і далёкіх, як Гуткавічы, Заскавічы і іншых. Ёсць падставы меркаваць, што хутка ў залескім калгасе згуляюць не адно вяселле.

Ужо не адзін танец занеслі на свой рахунак хлопцы і дзяўчаты, і музыкі добра спацелі, калі ў клуб увайшоў высокі, бялявы хлопец, спакваля скінуў салдацкі шынель, абвёў хуткім позіркам залу і з палёгкаю ўздыхнуў: у купцы дзяўчат стаяла тая, з якой не бачыўся з таго вераснёвага дня, калі ішоў на вайсковую службу. Яна і цяпер такая-ж чароўная гарэзніца, якой была ў той дзень ростані, толькі яшчэ больш папрыгажэла, пасталела. Як ёй да твару гэтае лёгкае цёмнае плацце, як зваблівa і цёпла яна ўсміхаецца. Толькі за гэтую адну ўсмешку Генадзі прышоў-бы нават не за тры, а за поўных трыццаць кілометраў...

Калі праўду казаць, дык і Генадзі — хлопец хоць куды! Высокі, плячысты. І рукі ў яго залатыя. Усе памятаюць, як Генадзі Альхімовіч працаваў раней прыцэпшчыкам на трактары, ніхто не крыўдзіўся на яго працу. У арміі ён набыў спецыяльнасць танкіста-вадзіцеля. У першы-ж дзень, калі Генадзі вярнуўся дамоў, да яго прышоў старшыня калгаса Валянцін Іванавіч Аляшкевіч, пацікавіўся, што хлопец думае рабіць. Вядома што — у родным калгасе будзе, трактарыстам!

Генадзі звыклым рухам рукі прайшоўся па поясе і выгукнуў:

— Хлопцы, урэшце нашу, залескую!..

— Правільна, старшы сержант! Давай!..

Ну, і спрытныя гэтыя залесцы! Як пайшоў, як пайшоў Генадзі са сваёй чараўніцай Надзейкай, дык адна любасць глядзець на іх. Здаецца, усё ходырам захадзіла. Толькі чуваць, як дробна, з прыстукам ляскаюць абцасы чаравікаў у такт бадзёрым, віхрыстым пераборам. Хлопцы-гарманісты і так не шкадуюць мяхоў, а з залы ўсё прыспешваюць:

— Весялей!..

Польку змяняюць «На рэчаньку», «Кракавяк». А потым зноў вальс. У самы разгар гуляння ў клуб заходзіць яшчэ група моладзі з баянам. Гэта са сваімі хлопцамі і дзяўчатамі прышоў у госці да суседзяў масавік дома адпачынку «Залессе» Уладзімір Мішын. Гулянне пайшло яшчэ весялей. Пачалося развучванне новых танцаў, песні...

Позна свяціліся вокны клуба. Адтуль усё плылі і плылі песні, музыка, абуджаючы прыціхшую асеннюю зорную ноч. Ішла звычайная вечарынка ў новым, калгасным Залессі.

**Смаргонскі раён**

**Маладзечанскай вобласці.**

Комсамольцы Сяргей Канапацкі і Аркадзь Рамановіч над цікавай шахматнай задачай. Гульнёй захапіўся і Леанід Гарэлік.

Фото А. Дзітлава.





Комсамольскае звяно Любы Бельскай з калгаса імя Молатава Брагінскага раёна Гомельскай вобласці другі год падрад атрымлівае рэкордны ўраджай кукурузы. Сёлета звяно вырасціла па 900 цэнтнераў зялёнай масы і 50 цэнтнераў зерня ў пачатках з кожнага гектара свайго ўчастка. На здымку: Люба Бельская.

Фото А. Дзітлава.



**Народны артыст І. І. Жыновіч са сваімі вучаніцамі студэнткамі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Леакадзіяй Бараноўскай і Тацянай Сцяпанавай.**

Фото С. Чырэшкіна.



Занятні па класу скрыпкі. Іграе студэнт Расціслаў Мядзведзеў, акампаніруе Любоў Ісаеўна Пекіліс. Ігру слухае выкладчык Мікалай Данілавіч Брацэнікаў.

# Тут вучацца музыканты



Камсамольцы Мікалай Шуліка і Станіслаў Мадорскі прысвяцілі сваё жыццё музыцы. Скончыўшы музычнае вучылішча, яны вучацца ў кансерваторыі па класу віяланчэлі ў прафесара А. П. Стагорскага. На здымку: Мікалай Шуліка (справа) і Станіслаў Мадорскі на занятках.

Фото С. Чырэшкіна.

Калі-б вы ні прайшлі міма гэтага чатырохпавярховага будынка на адной з плошчаў Мінска, адтуль заўсёды чуваць гукі музыкі. Тут размешчана вышэйшая музычная навучальная ўстанова — Беларуская дзяржаўная кансерваторыя.

Кансерваторыя — пакуль адзіная ў Беларусі музычная ВНУ. Сярод усіх астатніх вышэйшых навучальных устаноў мы не знойдзем ні адной, дзе рыхтавалася-б столькі розных спецыялістаў, як у кансерваторыі. Сапраўды, сярод 250 студэнтаў, што вучацца ў кансерваторыі, мы сустракаем прадстаўнікоў звыш 25 музычных спецыяльнасцей і профіляў. У ёй навучаюцца ігры на скрыпцы, флейце, кларнеце, віяланчэлі, раялі, цымбалах, альту, кантрабасе, баяне, ксілафоне, габоі, англійскім ражку, валторне і іншых інструментах, выхоўваюцца кампазітары, лектары-музыказнаўцы, тэарэтыкі, дырыжоры, хормайстры, акампаніятары, оперныя спевакі і г. д.

Шэсць факультэтаў і сем кафедраў кансерваторыі аб'ядноўваюць больш за пяцьдзесят педагогаў, у тым ліку 25 прафесараў і дацэнтаў, кандыдатаў мастацтвазнаўства. Сярод гэтых найбольш вядомых у Беларусі педагогаў-музыкаў мы сустракаем кампазітараў Н. Аладава і А. Багатырова, піяністаў М. Бергера і Г. Шаршэўскага, вакаліста Е. Віцінга, гісторыкаў-мастацтвазнаўцаў Н. Арлова, Г. Мухарынскую, духавікоў І. Бакуна і Я. Сцягеннага і іншых. Шэраг вядучых педагогаў кансерваторыі працуе ў ёй з першага дня яе стварэння ў 1932 годзе, а многія з іх, як, напрыклад, дырэктар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, лаурэат Сталінскай прэміі А. Багатыроў, народны артыст БССР І. Жыновіч, заслужаны артыст БССР В. Алоўнікаў, кампазітар П. Падкавыраў з'яўляюцца яе выхаванцамі.

У кансерваторыі вучыліся і майстры нашага мастацтва народныя артысты БССР Н. Ворвулеў, С. Друкер, М. Зюванаў, Н. Сярдобаў, заслужаная артыстка БССР, лаурэат міжнародных конкурсаў і салістка Вялікага тэатра Саюза ССР Н. Гусельнікава, заслужаныя артысткі БССР Р. Асіпенка, Т. Шымко, дырыжоры оперы і філармоніі Б. Афанасьеў і І. Абраміс, вядучыя артысты аркестраў і іншых мастацкіх калектываў Беларусі, музычных устаноў і г. д.

Майстэрства савецкага музыкі не можа заключацца толькі ў тэхнічнай дасканаласці ігры на інструменце або ўменні валодаць голасам, у веданні пэўных музычна-тэарэтычных палажэнняў. Вось чаму студэнты музычнай ВНУ праходзяць цэлы шэраг дысцыплін, якія пашыраюць іх ідэйны кругагляд, агульную культуру, робяць іх веды рознастайнымі: курс гісторыі партыі, дыялектычны і гістарычны матэрыялізм, марксісцка-ленінскую эстэтыку, гісторыю літаратуры, замежныя мовы, фізічнае выхаванне і многія іншыя дысцыпліны.

Складаны і захапляючы шлях выхавання савецкага музыкі. Жыццё прад'яўляе яму сур'ёзныя патрабаванні, але Радзіма і народ ствараюць усе ўмовы для пераадолення тых перашкод, якія ўзнікаюць на гэтым шляху развіцця лепшых музычных традыцый нашага самага перадавога ў свеце мастацтва.



Студэнтка Елена Бераснёва іграе на арфе.




**С. ШУШКЕВІЧ,**
**студэнт V курса фізіка-матэматычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна**

У школе шмат клопатаў прыносіць падача званкоў. Спецыяльны чалавек, які дзяжурыць з гадзіннікам, ходзіць са званком па калідоры, з аднаго памяшкання ў другое. Ён часам можа не дагледзець, пазваніць раней, чым трэба, або спазніцца.

Члены фізічнага гуртка школы могуць самі зрабіць прыбор, з дапамогай якога можна даваць аўтаматычныя званкі на ўрок і з урока, згодна раскладу заняткаў.

Прыбор складаецца з двух асноўных частак: кантактнага гадзінніка і селектара. Кантактны гадзіннік праз кожныя 5 мінут падае сігнал на селектар, які ўключае званок праз загадзя ўстаноўленыя прамежкі часу, кратныя пяці мінутам (5, 10, 20, 45 і г. д.).

Кантактным можна зрабіць любы гадзіннік, не падвяргаючы яго пры гэтым ніякім пераробкам. Лепш за ўсё выкарыстаць для гэтай мэты звычайныя ходзікі. Для гэтага робяць з бляхі кальцо шырынёй 15—20 мм, унутраны радыус якога на 3—4 мм больш даўжыні мінутнай стрэлкі гадзінніка (Мал. 1). Падзяліўшы кальцо на 12 частак і зрабіўшы ў ім выразкі, як паказана на малюнку 1, падпайваюць да ўнутраных выступаў яго кавалачкі меднай фальгі даўжынёй 5—6 мм. Выступы з напаянай на іх фальгой паварочваюць пласкагубцамі на 90 градусаў, і на ізалірующых падстаўках прымацоўваюць кальцо на цыферблаце гадзінніка так, каб яго цэнтр супаў з воссю стрэлак, а пялёсткі фальгі знаходзіліся ад цыферблата на адлегласці 1—2 мм і датыкаліся да мінутнай стрэлкі, пры праходжанні яе каля іх. Кальцо можна прыклеіць на цыферблаце клеем БФ-2 на драўляных або пластмасавых падкладках. Ад корпуса гадзінніка і замацаванага кальца робяць два адводы на селектар.




Мал. 1.

Селектар уяўляе сабой дыск з замацаванымі па акружнасці кантактамі, па якіх можа перамяшчацца слізгаючы кантакт, змацаваны з храпавіком. Слізгаючы кантакт і храпавік паварочваюцца вакол восі, якая праходзіць праз цэнтр дыска.

Да дыска селектара прымацавана рэле (Мал. 2), якар яго (1) змацаван з рычагом (2) і можа паварочвацца на восі (а), змацаванай з стрыжнем (4). Штурхальнік (3) прыціскаецца да храпавіка (8) спружынкай (5).

Пры праходжанні праз рэле току якар прыцягваецца да стрыжня і штурхальнік паварочвае храпавік на адзін зубец. Слізгаючы кантакт пры гэтым пераходзіць з аднаго кантакта на дыску селектара на суседні. Пасля выключэння току спружынка (6) вяртае рычаг і штурхальнік у першапачатковае становішча. Храпавік пры гэтым не паварочваецца назад, бо плоская спружына (7), прымацаваная да дыску селектара, дазваляе яму рухацца толькі ў адным кірунку. Заўважым, што паварот храпавіка не залежыць ад таго, як доўга будзе ўключана рэле, а залежыць толькі ад таго, колькі разоў яно ўключаецца.



Мал. 2.




Прынцыповая схема званка.

Выключацелем рэле селектара з'яўляецца кантактны гадзіннік. Пры кожным дакрананні мінутнай стрэлкі з пялёсткам меднай фальгі на гадзіннікавым кальцы да рэле падключаецца батарэя, і яна пераводзіць слізгаючы кантакт селектара ў наступнае становішча.

Лепш за ўсё выкарыстаць у аўтамаце храпавік на 144 зубцы, а адпаведна гэтаму зрабіць дыск селектара са 144-ма кантактамі. Тады слізгаючы кантакт селектара будзе рабіць адзін абарот за 12 гадзін.

Абазначаем адзін з кантактаў на дыску селектара часам, калі трэба ўключыць першы званок, напрыклад, 8 гадзін. Наступныя за ім кантакты абазначаем 8-05, 8-10, 8-15 і г. д.

Кантакты, у момант уключэння якіх трэба даваць званок, злучаем паміж сабой. Пры змене раскладу званкоў аб'ядноўваюць адпаведна гэтаму новыя кантакты.

Падвёўшы адзін провад да восі храпавіка, а другі да аб'яднаных кантактаў, мы атрымаем уключацель, які будзе ўключаць званкі па раскладу заняткаў, але працяглась званка роўна пяці мінутам. Каб пазбегнуць гэтага, вывады селектара злучаюцца, як паказана на прынцыповай схеме. Званок будзе ўключацца толькі пры ўключэнні току ў рэле 2, гэта значыць толькі той час, пакуль мінутная стрэлка кантактнага гадзінніка датыкаецца да чарговага пялёстка фальгі. Працяглась званка падбіраецца шляхам доследаў, змяняючы даўжыні гнуткіх кантактаў па гадзінніку.

Для таго, каб не парушыць электрычнай праводкі школьнага званка, паралельна яго выключацелю падключаюць электрычную разетку і замацоўваюць яе непасрэдна пад выключацелем. Аўтамат злучаецца са званком пры дапамозе штэпсельнай вілкі, якая ўключаецца ў гэту разетку. Калі храпавік мае 144 зубцы, то ўключаць аўтамат трэба толькі перад першым званком і выключаць пасля апошняга. Не выключаны аўтамат будзе ўключаць званкі і ноччу.

Калі немагчыма набыць або зрабіць 144-зубцовы храпавік, то можна выкарыстаць храпавік з старога сапсаванага гадзінніка (будзільніка, ходзікаў і г. д.) З шасцяронак таго-ж гадзінніка робіцца зубчатая перадача, злучаючая храпавік са слізгаючым кантактам. Перадатачны лік выбіраецца такім, каб слізгаючы кантакт рабіў адзін абарот за 10—12 гадзін.

Зразумела, што слізгаючы кантакт селектара такога прыбора давядзецца кожны дзень перад першым званком ставіць у зыходнае становішча. Кантакты селектара лепш за ўсё рабіць з кавалкаў меднага дроту таўшчынёй 0,8—1,2 мм, працягваючы яго праз прасвідраваныя ў дыску селектара адтуліны і закручваючы з другога боку пласкагубцамі.

Слізгаючы кантакт і спружынку (7) робяць з старой гадзіннікавай спружыны, спружынку (5) з першай струны гітары, або з тонкага стальнога дроту. Лепш за ўсё выкарыстаць у прыборы гатовыя заводскія рэле ці хаця-б асобныя іх часткі (стрыжань, якар).

Стрыжні рэле робяцца з трансфарматарнага жалеза, дрот медны ў эмалевай ізаляцыі.

Працуе прыбор ад звычайнай батарэйкі для кішанёвага ліхтарыка. Конструктыўна аўтамат лепш за ўсё размясціць у фанернай скрыньцы так, каб слізгаючы кантакт селектара быў на яе знешняй сценцы.

Даныя самаробных рэле:

| | Дыяметр стрыжня | Даўжыня стрыжня | Колькасць віткоў | Дыяметр дроту |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 6—8 мм | 40—60 мм | 2000 | 0,15—0,20 мм |
| 2 | 6—8 мм | 40—60 мм | 3000 | 0,20—0,25 мм |



Марыя Лучонак.
Фото С. Чырэшкіна.

## Адна з многіх

Сярод лепшых людзей друкарні імя Сталіна ў Мінску, чые партрэты змешчаны на Дошцы гонару,— комсамолка Марыя Лучонак. Працуючы швачкай у пераплётна-брашыровачным цэху, Марыя дасканала авалодала сваёй справай і кожны месяц перавыконвае вытворчыя заданні пры высокай якасці прадукцыі.

Комсамолка М. Лучонак адной з першых уключылася ў спаборніцтва па прафесіях у гонар XX з'езду КПСС. Яна абавязалася выконваць месячны вытворчы план на 120 працэнтаў, выпускаць прадукцыю толькі выдатнай якасці, ва ўзорным парадку трымаць тэхніку і выклікала на спаборніцтва сваю сяброўку Кацярыну Шчарбакову.

Калі падводзіліся вынікі сацыялістычнага спаборніцтва, у ліку перадавікоў-пераможцаў адзначана і швачка М. Лучонак, якая на сшыванні кніжнай прадукцыі вытворчае заданне выконвае на 130 працэнтаў.

Рабочыя цэха ведаюць комсамолку Лучонак як добрага грамадскага работніка. Яе можна часта бачыць у кругу моладзі з газетай, з цікавай кнігай. З'яўляючыся дэпутатам раённага Савета, яна праводзіць вялікую грамадскую работу сярод выбаршчыкаў.

Нядаўна лепшая комсамолка друкарні прынята кандыдатам у члены Комуністычнай партыі.

— Дзень уступлення ў партыю — самы шчаслівы дзень у маім жыцці,— сказала Марыя Лучонак, атрымліваючы ў райкоме кандыдацкую картку.— Апраўдаю высокае давер'е самаадданай працай на карысць любімай Радзімы.

**Н. ФІДЛЕР.**

# РУПЛІВЫ ГАСПАДАР

**Барыс СТРАЛЬЦОЎ**

Новы старшыня заўсёды пачынаў свой працоўны дзень не з паперак у канцылярыі, а з аб'езду паляводчых брыгад.

У Старынкі ён прыехаў якраз дарэчы. Паміж звеннявой ільнаводчага звяна Зояй Мяцельскай і брыгадзірам Іосіфам Акінчыцам разгарэлася ледзь не сварка.

— Я табе каторы раз кажу, — стаяў на сваім брыгадзір, — чатыры чалавекі са звяна пойдуць на сіласаванне кукурузы.

— От і не пойдуць, — адказала тая.

— Дык ты што, загаду брыгадзіра не падпарадкоўваешся?

— Я на ваш такі загад Віктару Аляксеевічу скардзіцца буду, — ледзь не плакала Зоя. — Дзе-ж гэта відана: лён пералежвае, збіраць яго трэба, а тут дзяўчат забіраюць. Не дам дзяўчат! — крычала ўжо ў гневе звеннявая.

— З астатнімі пойдзеш на сцелішча, — палагоднеўшы, ужо не загадваў, а нібы ўгаварваў звеннявую Акінчыц.

Неспадзявана да іх падыйшоў старшыня. Ён шмаргануў Акінчыца за рукаў і адвёў убок.

— Чаго ты разышоўся? Сам-жа бачыш, што яна праўду кажа,— ён зірнуў у бок Зоі.— Калі зараз не ўхапіць ільну, то колькі яго сапсуецца! Трэба-ж па-гаспадарску думаць.

Акінчыц вінавата замаргаў вачыма.

— Яно, канешне, так... Але і кукурузу сіласаваць трэба. Вы-ж самі загадалі, каб за пяць дзён усе пачаткі і зялёная маса ў ямах былі. А людзей у брыгадзе, самі ведаеце, не хапае.

— Як гэта людзей няма? — строга запытаў старшыня. — Сам-жа казаў, што ў брыгадзе гультаёў вунь колькі! Трэба даць ільнаводам дапамогу...

Лён. Колькі думак і планаў звязана ў новага старшыні з гэтай культурай. Як толькі Віктар Казлоў прыехаў у калгас, пачаў прыкідваць, як-бы хутчэй узняць грамадскую гаспадарку. Здаецца, само жыццё падказала — трэба сур'ёзна брацца за лён. Першыя дні ён усё абхадзіў, агледзеў і, што грахі таіць, — разгубіўся. Дзе ты на той лён паспадзяешся, калі ён увесь пустазеллем зарос! На Іосіфа Акінчыца тады накінуўся:

— Які з цябе гаспадар? Такое багацце марна гіне. Чаму ільну не прапалолі?

— Калі вы мяне ўжо і за гаспадара не лічыце, дык шукайце сабе другога брыгадзіра.

— А мне здаецца, што вы выцягнеце брыгаду, — адказаў Віктар. — Трэба толькі як мае быць за справу ўзяцца.

Віктар ведаў, што былы старшыня на кожным праўленні, на кожным сходзе лаяў на чым свет стаіць гэтага брыгадзіра, а таму вырашыў бліжэй прыгледзецца да яго, даведацца, што ён за чалавек. І прышоў да вываду, што Акінчыц чалавек добры, гаспадарлівы.

Чулымі, клапатлівымі адносінамі старшыня падбадзёрваў людзей.

Акінчыц горача ўзяўся за работу. І ў звеннявой Зоі Мяцельскай настрой змяніўся. Праз некаторы час Віктар прыехаў на зоін участак. Прыехаў і радасць яго ахапіла: лён стаяў густы, рослы, нідзе не відаць было ні каліва пустазелля.

Пры сустрэчы са старшынёй Зоя з гонарам гаварыла:

— Ці бачылі вы дзе-небудзь лепшы лён? Даю вам слова, што з участка возьмем не менш ста тысяч рублёў даходу.

Зоя не памылілася ў сваіх разліках. Яе звяно намалаціла па 9 цэнтнераў ільнонасення з гектара, столькі-ж прыблізна ўзяло ільноваланка. А па калгасу ураджай ільну перавысіў 6 цэнтнераў з гектара.

...Віктар вяртаўся з поля. Заехаўшы на цэнтральную сядзібу, заспяшаўся ў свіран паглядзець, як ідзе ачыстка збожжа. На парозе ён сустрэў электраманцёра комсамольца Уладзіміра Мяцельскага.

— Як працуе машына?— спытаў.

— Гудзе.

— А пад'ёмнік?

— Што той ліфт...

Ачышчальная машына прыводзіцца ў рух электраматорам. Гэта зроблена ў калгасе пры новым старшыні. Ачыстка збожжа механізавана, мяхі падаюцца на столь з дапамогай пад'ёмніка. Адзін чалавек упраўляецца з усёй гэтай работай.

...Віктар зноў у дарозе. Яму рупіць заехаць у шостую брыгаду, пагаварыць з нядаўна прызначаным брыгадзірам Якімам Кірылавічам Бенешам, з калгаснікамі, даведацца, ці прышоўся ім да спадобы новы кіраўнік. А потым на фермы, да сіласных ям. Спраў многа, а дня мала. Толькі пад вечар «Победа» пад'ехала да праўлення. Тут рабіць старшыні асабліва не было чаго. З папяровымі справамі добра спраўляецца намеснік Сцяпан Наумавіч Высоцкі. Ён іх і падпіша, і бухгалтараў падгоніць. Старшыня даварае свайму намесніку ва ўсім. Віктар прысеў на прызбе выцягнуў натомленыя за дзень ногі і зацягнуўся папяросай. Не заўважыў, як падышоў і прысеў побач дзед Даніла Галяс. Той моўчкі дастаў свой капшук і пачаў гарнуць цыгарку. Віктар прапанаваў старому:

— Можа маіх закурыце?

— Ат, не прывык я да гэтакіх лёгкіх цыгарак. Лепш няма за самасад. Самае мужчынскае курыва.

Гаворка неяк не клеілася. Толькі нарэшце дзед Галяс не вытрымаў:

— Не быў я, ведаеце, на сходзе, калі вас выбіралі старшынёй. І, па праўдзе кажучы, не ведаю, хто вы і адкуль. Відаць, вучоныя?

— Я, дзед, увесь час з комсамольцамі працаваў,— пачаў расказваць аб сабе Віктар.— Вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі, можа чулі, у Горках такая ёсць. Там сакратаром райкома быў. У Мінску ў ЦК комсамола Беларусі, потым у бабруйскім абкоме працаваў. А прыехаў сюды з Масквы — з ЦК комсамола.

— Ого, аж адтуль,— здзівіўся дзед.— Дык і не дзіва, што за моладзь бярэшся. Я-ж бачу, што ўсіх комсамольцаў з торфазавода ды з горада ў калгас вярнуў, да іх на сходы часта ходзіш.

— Я сюды, дзядуля, сам, па сваёй ахвоце прыехаў,— адказаў Віктар.

Развітаўшыся са старым, старшыня зайшоў у свой кабінет. Хутка прагледзеў паперкі і спыніўся на адной. Загадчык свінафермы Канстанцін Дудзінскі дакладваў, што час ужо знімаць з адкорму першую групу свіней. Аднначасова ён прасіў прэміраваць лепшую маладую свінарку Алену Бусел.

Прозвішча свінаркі старшыня адразу запісаў у блакнот. Яшчэ адна кандыдатура на прэміраванне. Усяго праўленне вызначыла 19 прэмій лепшым паляводам і жывёлаводам. Трэба заахвоціць сумленных працаўнікоў. Потым дастаў са скрынкі стала дробна спісаныя аркушыкі паперы, паклаў з правага боку лічыльнікі і пачаў пастукваць костачкамі. У такт рухам пальцаў вусны шапталі: «Лён... ферма буйнай рагатай жывёлы... свінаферма...»

Так, планы разлікі старшыні спраўджваюцца. Не менш за паўтара мільёна рублёў даходу будзе. А можа і два. У параўнанні з мінулагоднімі чатырыста тысячамі — гэта вялікі крок уперад. Не сорамна будзе глядзець у вочы сябрам — комсамольскім работнікам. Віктар на справе апраўдвае давер'е партыі, якая ў ліку трыццаці тысяч лепшых комуністаў паслала яго на работу ў вёску.

**Калгас «Гігант» Грэскага раёна.**

**В. А. Казлоў** (справа) **і сакратар Грэскага райкома КПБ па зоне Грэскай МТС Н. К. Цвірко.**
Фото Ф. Бачылы.





## У школе паравозных машыністаў

У Гомелі, на Прывакзальнай плошчы, узвышаюцца прыгожыя карпусы будынкаў. У адным з іх знаходзіцца трохгадовая школа паравозных машыністаў. За дзесяць пасляваенных год яна дала краіне вялікі атрад кваліфікаваных спецыялістаў — важакоў цяжкавагавых лакаматываў.

Цяпер тут навучаецца больш трохсот чалавек. Гэта моладзь, комсамольцы, якія папрацавалі ўжо на вытворчасці і выбралі сабе любімую спецыяльнасць.

У школе ёсць інтэрнат, сталовая, бібліятэка, вучэбна-вытворчыя майстэрні, кузня, шматлікія тэхнічныя кабінеты, забяспечаныя новай айчыннай тэхнікай, неабходным інструментам і абсталяваннем.

Будучыя камандзіры лакаматываў трымаюць цесную творчую сувязь з гомельскімі паравознікамі. У паравозным дэпо яны праходзяць практыку па слясарнай справе, рамонту паравозаў, аваладваюць правіламі тэхнічнай эксплуатацыі машын. Часта з расказамі аб сваім вытворчым вопыце перад вучнямі выступаюць лепшыя машыністы, перадавыя людзі чыгуначнага транспарту.

Поўнакроўным, творчым жыццём жыве дружны школьны калектыў. У вольны ад вучобы час моладзь займаецца спортам, музыкай, літаратурай, у розных мастацкіх гуртках пашырае кругагляд, развівае свае здольнасці.



На здымках:

Начальнік школы П. Т. Лысенка з групай вучняў на практычных занятках.

У тэхнічнай бібліятэцы школы. Злева направа: Л. Уладзіміраў, В. Казубоўскі, К. Алімбаеў рыхтуюцца да заняткаў.

Комсамольцы В. Пуставы, Л. Пыцко і П. Грышчанка ў тармазным кабінеце каля дзеючага стэнду.

Фота С. Чырэшкіна.



# Чаму так бывае?

Выхадны дзень. Па шырокаму праспекту горада няпэўнай, віхлястай паходкай ідзе малады чалавек. Вось ён затрымаў групу грамадзян, тыя нешта сказалі яму, і малады чалавек лезе да іх з кулакамі. Пры гэтым ён ва ўсё горла выкрыквае нецэнзурныя, абразлівыя словы. Гэта — Дзімітрый Рубін, рабочы мінскай фабрыкі імя Куйбышэва.

Да Рубіна некалькі разоў падыходзілі работнікі міліцыі, угаварвалі яго пайсці дамоў. Нарэшце, хулігана прышлося ўсё-ж затрымаць. Па дарозе ў аддзяленне міліцыі Рубін лаяўся, пагражаў міліцыянерам. Высветлілася, што і ў міліцыі, і ў вытразвіцелі Рубін стары знаёмы.

Перад гэтым Рубін учыніў скандал. Ён уварваўся ў памяшканне мінскай станцыі хуткай дапамогі, дзе якраз адбывалася канферэнцыя ўрачоў, абражаў медыцынскіх работнікаў, лез да іх біцца.

Работнікі міліцыі звярнуліся да дырэкцыі, да грамадскіх арганізацый фабрыкі імя Куйбышэва з просьбай уздзейнічаць на хулігана судом грамадскай думкі.

Грамадскасць фабрыкі імя Куйбышэва не прайшла міма сігналаў міліцыі. Паводзіны Рубіна абмяркоўваліся нават на агульным сходзе рабочых. Але абмеркаванне гэтае прайшло фармальна, дзеля напісання адпаведнага пратакола. Сам Рубін на сходзе не быў і даведаўся пра яго ад рабочых праз некалькі дзён. Не дзіўна, што ён не зрабіў для сябе ніякіх вывадаў.

Міліцыі прыходзіцца разбіраць вельмі шмат такіх спраў, якія можна было папярэдзіць, каб у іх своечасова ўмяшаліся грамадскія арганізацыі. Абураючым з'яўляецца тое, што хуліганскія ўчынкі нярэдкія сярод школьнай моладзі, і нават сярод комсамольцаў. Тут узнікае вельмі важнае пытанне аб адсутнасці трывалай сувязі паміж школай і бацькамі. Бывае, што школа зусім не цікавіцца тым, як трымаюць сябе яе выхаванцы дома, на вуліцы.

Нядаўна ў клубе Мінскага аэрапарта адбыўся абураючы выпадак. Вучань IX класа 46 сярэдняй школы Барыс Пахомчык запрасіў на танцы знаёмую дзяўчыну. У час танцаў ён пачаў гаварыць дзяўчыне непрыстойнасці, весці сябе нахабна. Дзяўчына адмовілася танцаваць з хуліганам. Тады Пахомчык ударыў дзяўчыну хірургічным скальпелем, сур'ёзна параніўшы яе.

Хто-ж такі Пахомчык, як ён дайшоў да такога ганебнага ўчынку? У дакументах крымінальнай справы, заведзенай на Пахомчыка, ёсць і яго школьная характарыстыка. Яна акуратна падмацавана дырэктарскай пячаткай і адпаведнымі подпісамі. Чытаючы характарыстыку, нельга не здзіўляцца. Згодна яе, Пахомчык надзелены ўсімі найлепшымі якасцямі. Ён адзін з лепшых вучняў класа, актыўны ўдзельнік грамадскай работы, добры спартсмен. Ні аб чым дрэнным у паводзінах Пахомчыка характарыстыка не гаворыць. Гэты дакумент вельмі яскрава сведчыць аб тым, што настаўнікі, вучнёўскія арганізацыі не ведалі Пахомчыка, не цікавіліся яго паводзінамі, жыццём па-за школай, у сям'і.

Вельмі часта бацькі не цікавяцца паводзінамі сваіх дзяцей, абыякава стаўяцца да сігналаў аб іх амаральных учынках. Такія бацькі звычайна перакладваюць віну за дрэннае выхаванне сваіх дзяцей на школу, на дрэнны ўплыў «вуліцы». Так паступілі, напрыклад, бацькі Эдуарда Чараповіча, вучня IX класа школы рабочай моладзі. Бацька гэтага вучня — артыст аркестра беларускага хору Канстанцін Міхайлавіч Чараповіч і маці Ніна Міхайлаўна Грыневіч усяляк імкнуліся прыкрыць брудныя справы свайго сына.

Сёлетняй зімой Эдуарда Чараповіча асудзілі за хуліганства на тры гады ўмоўна. Здавалася-б, сігнал дастаткова сур'ёзны, каб бацькі зацікавіліся паводзінамі свайго сына. Але так не здарылася. Сын вельмі часта прыходзіў дамоў п'яны. Бацькі не ведалі, з кім ён выпівае, дзе бярэ грошы на выпіўкі, і гэта іх не хвалявала. І ўчынкі перараслі ў злачынства. Не так даўно Эдуард сустрэў на вуліцы свайго таварыша па школе Марата Шаптурэнку і стаў вымагаць у яго 100 рублёў. У Марата аказалася толькі 12 рублёў. Тады хуліган прапанаваў праціць яго, маратаў, гадзіннік. Марат адмовіўся. Эдуард Чараповіч ударыў яго нажом. Бацькі і на гэты раз спрабавалі адвесці пакаранне ад свайго сынка. Маці Чараповіча не знайшла нічога лепшага, як адправіць Эдуарда ў Маскву. Але хулігана знайшлі і там.

А вось яшчэ прыклады, якія гавораць аб тым, да чаго прыводзяць абыякавыя адносіны бацькоў да выхавання сваіх дзяцей. Бацька вучня IX класа 32 мінскай сярэдняй школы Уладзіміра Жаркоўскага — Даніла Уладзіміравіч загадвае кафедрай хіміі ў Інстытуце народнай гаспадаркі. Не менш паважаныя бацькі і ў комсамольца Альфрэда Кульбацкага, вучня X класа 42 школы г. Мінска. Яго маці Кульбацкая Яўгенія Севанаўна працуе настаўніцай, бацька Л. І. Лыскавец — інспектарам Міністэрства культуры БССР. Мы не хочам сказаць, што яны дрэнна спраўляюцца са сваімі абавязкамі па месцу работы, хоць усе яны займаюцца выхаваннем нашай моладзі. Дрэнна тое, што яны не выхоўваюць сваіх уласных дзяцей, скрозь пальцы глядзяць

на папярэджанні міліцыі, на тое, што іх дзеці п'янствуюць, хуліганяць, збіваюць сваіх школьных таварышаў, вымагаючы ў іх грошы на выпіўкі, гандлююць білетамі ў кіно.

Названыя прыклады хуліганства, амаральных учынкаў сталі магчымымі таму, што вакол хуліганаў, вакол людзей, якія дазваляюць сабе ўсё, што ім уздумаецца, не створана пакуль яшчэ атмасфера нецярпімасці. Адной міліцыі справіцца з ўсімі праявамі хуліганства, п'янства, амаральных паводзін, безумоўна, цяжка.

Добры пачын праявілі многія грамадскія, комсамольскія арганізацыі, накіроўваючы сваіх членаў у брыгады садзейнасці міліцыі. Дастаткова сказаць, што за апошнія месяцы ў гэтыя брыгады ўступілі сотні новых людзей, і іх дапамога міліцыі стала вельмі адчувальнай. Членамі брыгад садзейнасці міліцыі папярэджаны многія парушэнні грамадскага парадку, многія амаральныя ўчынкі.

Не менш важную карысць у гэтай высакароднай справе аказалі і комсамольскія штабы садзейнасці ахове грамадскага парадку. Такія штабы былі арганізаваны пры ўсіх аддзяленнях міліцыі гор. Мінска. Першыя месяцы работы комсамольскіх штабаў паказалі, наколькі жыццёвая гэтая ініцыятыва. У комсамольскіх ініцыятыўных групах патрулiравання прынялі ўдзел многія тысячы комсамольцаў, яны папярэдзілі многа выпадкаў парушэння грамадскага парадку, прыцягнулі парушальнікаў да адказнасці.

Аднойчы ініцыятыўная комсамольская група, якую ўзначальваў рабочы комсамолец велазавода, была накіравана ў школу № 40, дзе ішоў маладзёжны вечар. Комсамольцы заўважылі, што былы вучань гэтай школы Каждан І. С., які прышоў на вечар, зняважыў аднаго з настаўнікаў. Каждана даставілі ў комсамольскі штаб, туды-ж быў запрошаны і яго бацька. Адбылася вельмі карысная размова і для парушальніка совецкай маралі і для яго бацькоў.

Добра папрацаваў комсамольскі штаб пры трэцім аддзяленні міліцыі гор. Мінска. Гэты штаб накіроўваў для патрулiравання па вуліцах горада многія групы комсамольцаў. Найбольшую актыўнасць у ахове грамадскага парадку праявілі комсамольскія арганізацыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Інстытута народнай гаспадаркі, картаграфічнай фабрыкі, фабрыкі-кухні. Шкада толькі, што аб гэтым прыходзіцца гаварыць, як аб справах мінулых. У апошні час комсамольскія штабы паслабілі сваю работу, а пры некаторых аддзяленнях наогул спынілі яе. Гэта датычыць у першую чаргу арганізацый трактарнага і аўтамабільнага заводаў. І не дзіўна, што ў пасёлках трактарнага і аўтамабільнага заводаў нярэдкія выпадкі хуліганства, амаральных паводзін моладзі, а часам і комсамольцаў.

Барацьба супраць праяў хуліганства, дрэнных паводзін, амаральных учынкаў патрабуе аб'яднаных намаганняў комсамольскіх і грамадскіх арганізацый, цеснай сувязі школы з бацькамі.

**В. ЛАГОЙСКІ,**
**следчы ўпраўлення міліцыі гор. Мінска.**

# Стършел

Па старонках балгарскай сатырычнай газеты «Шэршань».



— Дзядзька, трэба знайсці магчымасць павялічыць штат на адну машыністку.
— Дзеля чаго?
—Я жанюся.




Мы калісьці сустракаліся!



— Ну, добра, ты пастрыглася. А не баішся замерзнуць?
— Не! Хутка полюс будуць абаграваць атамнай энергіяй.



Галоўны герой радыёрэпартажаў.



Без слоў....



— Уставай! Няма гола.




Зрокавы падман.




## Падарунак акадэміка

Юныя рэзчыкі Чавускага дзіцячага дома Коля Палякоў і Пеця Харчоўка рашылі выразаць і паслаць вядомаму совецкаму акадэміку Уладзіміру Пятровічу Філатаву яго бюст. Працавалі з запалам, і хутка бюст быў гатовы.

Хлопчыкі папрасілі адвезці іх падарунак жыхара Чавус Васіля Тарасенку, які ехаў у клініку Філатава. Той ахвотна згадзіўся і ўручыў бюст акадэміку Філатаву. Вучоны быў узрадаваны падарункам беларускіх дзяцей.

— Залатыя рукі ў гэтых рабят, — сказаў ён, агледзеўшы работу.

Акадэмік прыслаў дзіцячаму дому сваю каляровую фотакартку з надпісам: «Дзецям Чавускага дзіцячага дома. Акадэмік Філатаў». А крыху пазней яны атрымалі яго кніжку з надпісам: «Ад Філатава» і невялічкае пісьмо, у якім ён дзякаваў дзецям за падарунак і заклікаў іх быць дысцыплінаванымі, добра вучыцца, каб вырасці сапраўднымі патрыётамі сваёй совецкай Радзімы.

Пісьмо Уладзіміра Пятровіча Філатава ўсхвалявала выхаванцаў дзіцячага дома. У сваім калектыўным адказе яны падзякавалі акадэміку за цёплае пісьмо і далі абяцанне выканаць яго наказ.

**П. РУНЕЦ.**

# Наш настаўнік

**Ф. ІЗМАЙЛАЎ**

Сорак год не быў Іосіф Дамінікавіч Карабец у сваіх родных мясцінах на Маладзечненшчыне. І таму, як толькі праваднік аб'явіў, што наступная станцыя — Гудагай, ён паспешліва замітусіўся каля сваіх рэчаў, а сэрца яго моцна забілася.

На пероне Іосіф Дамінікавіч агледзеўся. Ён пазнаваў і не пазнаваў знаёмыя мясціны. Здаецца, вунь пад тою таполяй сядзеў ён на сваім куфэрку, чакаючы цягніка, каб паехаць у далёкі Петраград здаваць экстэрнам экзамены на народнага настаўніка. З тых пор прайшоў не адзін дзесятак год, і толькі ў 1948 годзе ён змог прыехаць працаваць у родныя мясціны.

Не чакаючы падарожнай машыны, Іосіф Дамінікавіч накіраваўся пехатою ў Астравец, дзе цяпер яму належала жыць і працаваць, выводзіць на шырокую дарогу жыцця сялянскіх дзяцей.

На душы ў Іосіфа Дамінікавіча было светла і радасна. Гэтая радасць шукала сабе выйсця, і таму стары настаўнік першы загаварыў з сустрэчнай дзяўчынай:

— Добрай раніцы, дзеўчына! Ці далёка да Астраўца?

— Ды не так каб далёка.

— А ты куды-ж так рана сабралася?

Дзяўчына расказала, што ідзе паступаць на курсы трактарыстаў.

— Ну, шчаслівай дарогі! — пажадаў Іосіф Дамінікавіч і разы два азірнуўся ўслед дзяўчыне, зычліва ўсміхаючыся.

Але наступная сустрэча крыху збянтэжыла Іосіфа Дамінікавіча. Пажылая сялянка, з якою ён загаварыў, адказала заклапочана:

— Няшчасце ў мяне здарылася: унучка захварэла. Ці то сурочыў хто, ці што... Хадзіла я тут да адной, каб ёй бог здароўечка даў, вады свянцонай у яе выпрасіла. Казала, дапаможа... А можа-б вы, паночку, параілі добрага знахара?

Нечым далёкім, даўно забытым павеяла ад гэтых слоў. Сялянка сумна пазірала на інтэлігентнага старога, з надзеяй чакала адказу.

— У больніцу да доктара ісці трэба, — параіў ёй Іосіф Дамінікавіч.

Жанчына цяжка ўздыхнула:

— Што той доктар... От каб знахара...

Ужо каля самага Астраўца настаўніка спыніў немалады селянін у шэрай світцы. Папрасіў запалак. Павярнуўшыся спіной к ветру, каб прыкурыць цыгарку, ён даверліва загаварыў:

— У Ліпкі да кума іду. Параіцца трэба. Актывісты здорава націскаюць.

Іосіф Дамінікавіч, нічога не разумеючы, паглядзеў на селяніна.

— У калгас запрашаюць. Трэба, кажуць, абагуліць усё, жыць па-новаму. А ліха яго ведае, якое тое новае. Каня аддай, зямлю аддай, воз аддай... А потым як жыць, хто гаспадаром над тваім дабром будзе?

— Ты гэта дарэмна, таварыш, — горача запярэчыў Іосіф Дамінікавіч. — Калгас — справа добрая...

Не паспеў ён дагаварыць, як селянін заспяшаўся ў дарогу. «Упаўнаважаны! — буркнуў ён сам сабе. — Трэба-ж было нарвацца...»

Настаўнік усміхнуўся, а потым глыбока задумаўся: «Та-ак, прыдзецца папрацаваць з людзьмі. Старое неахвотна дае дарогу новаму». Ён адразу адчуў, якія адбываюцца тут справы, зразумеў, што на многія з хвалюючых пытанняў яму самому трэба будзе даваць вычарпальны адказ. І як-жа інакш!

Жыццё пайшло сваёй чаргою. Іосіф Дамінікавіч раніцай прыходзіў у школу, выводзіў на дошцы матэматычныя формулы, тлумачыў тэарэмы. На перапынках і пасля заняткаў гутарыў з вучнямі, цікавіўся ўмовамі іх быту. Знаёміўся з бацькамі, якія ставіліся да яго з павагай і гутарылі з ім вельмі ахвотна.

А ў вёсцы цвёрда ўсталёўваўся новы грамадскі ўклад. Заворваліся межы, абагульнялася жывёла. Са станцыі Гудагай ішлі ў калгас трактары, сеялкі, камбайны. Ва ўрачыстай абстаноўцы быў уручаны акт на вечнае карыстанне зямлёй. Вясковыя комсамольцы з музыкай і песнямі адкрылі клуб, хату-чытальню. Сяляне ішлі вучыцца ў школы, ліквідаваць сваю непісьменнасць. І кожная падзея, кожнае новае мерапрыемства выклікалі ў людзей шмат пытанняў. Трэба было растлумачыць ім сэнс таго, што адбываецца, умацаваць веру ў перамогу новага, развеяць сумненні, народжаныя якой-небудзь няўдачай або памылкай. У такіх выпадках слова настаўніка — сур'ёзнага, усімі паважанага чалавека — было як нельга больш дарэчы. Іосіф Дамінікавіч становіцца членам мясцовага таварыства па пашырэнню палітычных і навуковых ведаў. Яму даручаецца адказны ўчастак работы — прапаганда навуковага светапогляду сярод рэлігійна настроенай часткі насельніцтва.

І вось Іосіф Дамінікавіч сядзіць над лекцыяй, успамінае павучальныя выпадкі са свайго жыцця.

— Рэлігія — рэч тонкая. Раскажы анекдот, пасмейся над веруючым — і не будзе ў яго да цябе ні павагі, ні давер'я, — вучыць пры выпадку Іосіф Дамінікавіч нявопытнага агітатара. — Трэба ведаць самую сутнасць справы. Тады і гаварыць з людзьмі лягчэй і пераканаць іх можна хутчэй.

Даведаўся аднойчы Іосіф Дамінікавіч, што некаторыя з моладзі, у тым ліку нават і дзесяцікласнікі, удзельнічаюць у касцёльным хоры. «Значыць, самадзейнасць у нас дрэнна працуе, — зрабіў ён цвёрды вывад. — Моладзь спяваць любіць, вось яе і цягне туды, дзе спяваюць. Трэба нам харавыя і музычныя гурткі арганізаваць». І звярнуўся да дырэктара школы Станіслава Пятровіча Шмуглеўскага.

— Трэба моладзь з-пад ксяндзоўскага ўплыву вырваць. Асігнуйце сродкі на набыццё музычных інструментаў. Я-ж некалі нядрэнна ноты ведаў, на скрыпцы іграю. Арганізую струнны гурток пры школе.

Ахвотнікаў удзельнічаць у струнным гуртку знайшлося многа. Нават прышлося займацца ў дзве змены. Астравецкія школьныя музыкі ўсё часцей пачалі выступаць перад насельніцтвам з канцэртамі. Музыкай зацікавіліся многія. Іосіф Дамінікавіч вучыць іграць на скрыпцы і піонерку Тамару Хвастову, і важатую Ніну Андраловіч, і дырэктара школы Станіслава Пятровіча.

Год назад у жыцці Іосіфа Дамінікавіча адбылася самая памятная падзея: за шматгадовую педагагічную дзейнасць яго ўзнагародзілі ордэнам Леніна. Гэтую хвалюючую вестку прынеслі вучні. Бойкія, звонкагалосыя, яны абступілі любімага настаўніка і хорам віншавалі з вялікай узнагародай.

Доўга не мог заснуць Іосіф Дамінікавіч у тую ноч. Успомнілася ўсё жыццё і тыя, каму ён гэтае жыццё прысвяціў як настаўнік: і ленінградскі інжынер Васіль Емельянаў — сын селяніна з-пад Вялікіх Лук, і мясцовы хлопчык Адам Мальдзіс, цяпер студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, і бедная ўдава з вёскі Палуш, якую ён пераконваў, што калгаснае жыццё ёй прыдзецца да спадобы. Успомніў стары настаўнік і свайго адзінага сына Жэню. Было шкада, што не можа ён сёння раздзяліць з бацькам яго вялікую радасць лейтэнант Яўгені Карабец, камандзір батарэ на Балтыцы, загінуў смерцю храбрых у першыя месяцы вайны.

Многа аб чым перадумаў стары настаўнік. Высокая ўзнагарода была яркім пацверджаннем таго, што семдзесят год жыцця не прайшлі дарэмна: выхавана не адно пакаленне сумленных людзей, адданых патрыётаў Радзімы. Але ўзнагарода абавязвае не толькі аглядацца на зробленае, а і глядзець далёка наперад. А наперадзе ў Іосіфа Дамінікавіча — яшчэ нямала год такой-жа плённай працы. Нічога што сівізна пабяліла яго скроні і ў яго кішэні ляжыць пенсійная кніжка, не адступае перад старасцю гэты чалавек з жывымі, разумнымі вачыма, з сэрцам юнака — наш настаўнік.

**Астравецкі раён.**

## З нашай пошты

# ПАД РОДНЫМ НЕБАМ

Лёня нарадзіўся ў далёкай Бразіліі, у невялікім гарадку Санта-Роза. Але першыя словы, якія ён навучыўся вымаўляць, былі рускія і беларускія, бо хлопчык рос у беларускай сям'і, якая і тут, за многа тысяч кіламетраў, не забыла сваю радзіму, родныя звычаі, родную мову.

Бацька Лёні, Фёдар Велінец, бядняк з вёскі Камароўка былога Дамачоўскага павету, у пошуках працы вымушаны быў паехаць з сям'ёю аж за акіян, у Бразілію. Гэта было ў 1929 годзе, у той час, калі Заходняя Беларусь была пад прыгнётам польскіх паноў. Але не знайшоў беларускі селянін у чужой і далёкай краіне таго раю, які абяцаў вярбоўшчык. І тут у пошуках працы прыходзілася вандраваць з месца на месца. Нарэшце, сям'я спынілася ў невялікім гарадку Санта-Роза, і Фёдару пашанцавала знайсці больш-менш сталую працу. Працаваў ён многа, але дастатку ў сям'і не было.

Надышоў 1939 год. Заходняя Беларусь пазбавілася панскага ярма. З гэтага часу чужая зямля стала ўдвая нямілай для сям'і Велінцоў. Фёдар Велінец пачаў хадайнічаць аб звароце яго сям'і ў Беларусь.

Першым атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму Леанід Велінец. Яму ўжо было дзевятнаццаць год і ён закончыў гімназію. Амаль увесь свет аб'ехаў юнак, пакуль трапіў у свае родныя мясціны. 15 жніўня 1955 года Леанід Велінец атрымаў у Дамачове савецкі пашпарт.

Малады савецкі грамадзянін вырашыў паступіць у Беларускі політэхнічны інстытут імя Сталіна, каб стаць карысным спецыялістам. Яго прынялі на тарфяны факультэт. Юнаку стварылі ўсе ўмовы для паспяховай вучобы: ён жыве ў добраўпарадкаваным інтэрнаце, атрымоўвае стыпендыю.

У пісьмах да свайго сябра, які застаўся ў Бразіліі, Леанід расказвае аб сваёй вялікай радасці быць грамадзянінам СССР, савецкім студэнтам, будучым савецкім інжынерам.

**Я. САДОЎСКІ.**

Леанід Велінец (у цэнтры) са сваімі сябрамі Уладзімірам Чарвінскім і Фёдарам Азёмшай.

Фото С. Чырэшкіна.



# ПАСЛАНЕЦ БРАТНЯЙ УКРАІНЫ

У гады вострай барацьбы беларускага і ўкраінскага народаў супраць прыгнёту польскіх паноў і каталіцкіх папоў у Беларусі было разгорнута шырокае друкаванне кніг. У гэтай справе вялікую дапамогу беларускім брацтвам аказваў Спірыдон Собаль.

Спірыдон Собаль, кіеўскі друкар, у сябе на радзіме выконваў заказы беларускіх брацтваў на друкаванне кніг.

У 1630 годзе Спірыдон Собаль знаходзіўся ўжо ў Беларусі. У Оршы, у Куцеінскім манастыры, ён стварае друкарню і друкуе там шэраг кніг, як: «Брошно духовное» (1630 год), «Букварь сиречь начало учения Детям начинающим чтению извыкать, в Кутейне»... (1631 год), «Часослов» (1632 год) і многа іншых.

Адначасова Собаль навучае друкарскаму майстэрству і куцеінскіх манахаў. Пасля ад'езду Собаля ў Магілёў, куцеінскія друкары выпускаюць на працягу многіх год кнігу за кнігай. Першая кніга выпушчана ў Куцеіне «року 1637. Июля 22 дня». Куцеінская друкарня пасля была перавезена ў Расію, дзе працягвалася друкаванне кніг.

Тры гады, праведзеныя Собалем у Куцеіне, прайшлі ў напружанай працы, у клопатах, у хваляваннях і трывогах, якія прыносіла барацьба з каталіцкімі рэакцыянерамі, і ў першую чаргу з аршанскімі iезуітамі. Потым Спірыдон Собаль пераязджае ў Буйнічы (пад Магілёвам) і там паспяхова прадаўжае сваю слаўную справу.

У гэты час Магілёўскае брацтва, якое лічылася самым уплывовым ў Беларусі пасля Віленскага, атрымала дазвол на адкрыццё друкарні і чакала Собаля.

Нястомны друкар пераязджае ў Магілёў. Як член Магілёўскага брацтва, Собаль вядзе барацьбу з іезуітамі і іх саюзнікамі. Ён стварае друкарню. Адначасова вядзецца падрыхтоўка новых друкароў з ліку членаў Магілёўскага брацтва. Прайшло менш года, і ў свет выйшла добра надрукаваная кніга: «Букварь языка словенська Писании чтения учиться хотящим, в полезное руковожение. З Могилева, з Друкарни Спиридона Соболя. Лето от рождения Христа 1636».

Спірыдон Собаль выпусціў у свет шмат кніг не толькі рэлігійнага, але і свецкага зместу. Ён садзейнічаў актывізацыі выдавецкай справы на Магілёўшчыне і гэтым зрабіў выдатны ўклад у развіццё культуры Магілёўскага края. Навучыўшы друкарскай справе манахаў Куцеіны, жыхароў Магілёва, украінскі друкар паклаў моцныя асновы кнігадрукавання ў Беларускім Падняпроўі. Таму ён атрымаў права называцца і адным з самых дзейных перадавых друкароў Беларусі.

Паспяховая культурная дзейнасць сына ўкраінскага народа Спірыдона Собаля ў Беларусі — яркае сведчанне вечных і моцных гістарычных братніх сувязей народаў Русі, Украіны і Беларусі, яркае сведчанне творчага адзінства гэтых народаў у барацьбе за перадавую культуру, за перадавую літаратуру.

г. Крычаў.

**М. МЕЛЬНІКАЎ.**

# РЭСПУБЛІКАНСКАЕ ПЕРШЫНСТВА ШТАНГІСТАЎ

**Я. НОВІКАЎ,**
майстар спорту СССР

Тры дні на манежы ў горадзе Брэсце праходзіла напружаная барацьба за званне чэмпіёна Беларусі сярод каманд і асабістага залiку.

Пад гукі маршу выйшлі на парад каманды Мінска, Віцебска, Гомеля, Магілёва і іншых гарадоў рэспублікі. Каманда-чэмпіён мінулага года ўзнімае сцяг першынства.

...Барацьба пачалася. Як і трэба было чакаць, чэмпіёнам у найлягчэйшай вазе аказаўся майстар спорту Арнольд Хальфін (таварыства «Спартак»). Па класічнаму трохбор'ю ён набраў 305 кілаграмаў і ўстанавіў 2 рэкорды Беларусі — у рыўку двума рукамі — 94,5 кілограма і ў штуршку — 122,5 кілограма. Амерыканскі атлет Вінчы на першынстве свету штурхнуў 120 кілаграмаў.

На другі дзень спаборніцтваў, выступаючы па-за конкурсам, Хальфін з першага падыходу выжаў 92,5 кілограма, пабіўшы рэкорд 15-гадовай даўнасці, які належаў заслужанаму майстру спорту Лапідусу.

Новы рэкорд устаноўлены Хальфіным для атлетаў поўлёгкай вагі.

Цікава праходзіла барацьба за другое і трэцяе месца паміж прадстаўніком Савецкай Арміі Сокалавым і спартакаўцам Гарэлікам. Яны набралі аднолькавую вагу — 265 кілограмаў. Але другое месца прысуджана Сокалаву, бо ён мае на некалькі дзесяткаў грамаў меншую вагу, чым Гарэлік. Абодва ўдзельнікі выканалі нарматывы першага разраду.

Вельмі добра выступіў майстар спорту Шаўкуноў, які набраў у суме трохбор'я 352,5 кілограма. У гэтых спаборніцтвах ён устанавіў тры рэспубліканскія рэкорды і стаў чэмпіёнам БССР у лёгкай вазе.

Яшчэ нядаўна майстар спорту Гальдштэйн выступаў у лёгкай вазе і з'яўляўся чэмпіёнам і рэкардсменам. У гэтых спаборніцтвах Гальдштэйн выступаў у поўсярэдняй вазе і парадаваў усіх сваімі поспехамі. Не кожнаму шанцуе паказаць максімальны вынік пры ўсіх 9 падыходах і ні ў адным не сарвацца. А Гальдштэйну гэта ўдалося. Ён устанавіў чатыры рэспубліканскія рэкорды і атрымаў званне чэмпіёна БССР.

Дастойным супернікам Гальдштэйна на гэтых спаборніцтвах быў мінулагодні чэмпіён Кавалёў. Але ён, відаць, пераацаніў сваю сілу, пачаўшы штуршок адразу з цяжару 140 кілограмаў, і з трох спроб не змог зафіксіраваць гэтую вагу.

У сярэдняй вазе чэмпіёнам зноў стаў Іван Новік, устанавіўшы новы рэкорд у штуршку двума рукамі — 152,5 кілограма.

Адзін з мацнейшых штангістаў краіны ў поўцяжкай вазе Уладзімір Туркін выдатна стартаваў, але потым схібіў. Спачатку ў штуршку ён узняў 155 кілограмаў, а потым папрасіў павялічыць вагу — 162,5 кілограма, але не здолеў зафіксіраваць гэтую вагу. Так ён і закончыў сваё выступленне на спаборніцтвах з першым паказчыкам. У трохбор'і ён набраў 412,5 кілограма.

У цяжкай вазе з сумай 450 кілограмаў на першае месца выйшаў Аўтар гэтых радкоў.

Мінская каманда па-ранейшаму заняла на гэтых спаборніцтвах першае месца і ўстанавіла 14 новых рэкордаў.

# НАВАСЁЛЫ ЛЯСОЎ

Усе ў нас ведаюць такіх звяроў, як воўк, лісіца, вавёрка, барсук, заяц, выдра. Гэта, калі можна так сказаць, сталыя грамадзяне нашых лясоў, яны жывуць у нас з даўніх часоў, многія дзесяткі тысяч год.

Але ёсць у нас і такія звяры, якія зусім нядаўна зрабіліся жыхарамі нашай паласы. Вось, напрыклад, усурыйскі янот. Год 30 назад усурыйскі янот жыў толькі ў сябе на радзіме, ва Усурыйскім краі. З 1929 года гэтага звера пачалі перасяляць у новыя месцы: у еўрапейскую частку РСФСР, у Закаўказзе, на Украіну. Прывезлі яго і ў Беларусь. У 1936 годзе ў Парыцкім раёне Гомельскай вобласці было выпушчана 25 пар гэтага звера.

Прайшло менш 20 год. Цяпер усурыйскі янот жыве ўжо ва ўсіх абласцях нашай рэспублікі.

Усурыйскі янот — драпежнік, ён харчуецца рознымі жывёламі: млекакормячымі, птушкамі, земнаводнымі і нават рыбай. Па свайму знешняму выгляду, па размерах ён вельмі падобны да нашага звычайнага сабакі-дварнягі, толькі ногі ў яго карацей. Другая яго назва — янотавідны сабака. Да чалавека ён хутка прывыкае, як і сабака.

У першы час янотаў прыкармлівалі, прычым ежу прыносілі ў кошыках. Звяры так прывыклі да гэтага, што зрабіліся нахабнымі: не сароміліся забірацца ў кошыкі людзей, якія прыходзілі па грыбы або па ягады, і есці там усё, што прыходзілася ім да спадобы. Цяпер яноты ўжо «адзічэлі», але нярэдка і цяпер яны наведваюць вёскі ў пошуках лёгкай здабычы — кур.

Жыве янотавідны сабака ў лясах. Аб жыллі ён асабліва не турбуецца: яго дом можа быць пад карчом, у старой дуплістай калодзе, а то і проста пад кустом. Можа янот выжыць і барсука з яго ўласнай нары.

Другі навасёл нашых лясоў — андатра — вядзе зусім іншы спосаб жыцця. Андатра — жывёла поўводная. Яна плавае па вадзе, каля вады знаходзіць сабе ежу: трысцё, рагазу, чарот і г. д. Даволі часта спажывае андатра малюскаў. Калі вам прыдзецца ўбачыць дзе-небудзь на астраўку, ці на мелі кучку акуратна раскрытых ракавін бяззубкі, то так і ведайце, што тут папрацавала андатра.

Але асноўны харч андатры — расліны. У яе і зубы прыстасаваны адпаведным чынам: клыкоў няма, а разцы і карэнныя зубы развіты добра. Падобна андатра на вялізнага пацука, толькі цёмнакаштанавага колеру. І хвост у яе не круглы, як у пацука, а прыплюснуты з бакоў (прыстасаванне для перасоўвання па вадзе).

Жыллё андатры — нара на высокім беразе ракі або «хатка» ў балоце. І хатка і нара абавязкова маюць выхад у ваду.

Поўвека назад андатры не было ні ў нашай рэспубліцы, ні ў нашай краіне, ні, наогул, у Еўропе. Яе радзіма — Поўночная Амерыка. Толькі ў 1912 годзе 5 пар андатраў было прывезена ў Чэхаславакію. Пазней яе прывозілі і разводзілі і ў другіх краінах Еўропы, у прыватнасці ў Польшчы. Да нас у Беларусь андатра і трапіла ў працэсе натуральнага размнажэння па рэках Заходні Буг і Нёман. У першыню ў нас яе выявілі ў 1948 годзе на рацэ Лясная (прыток Заходняга Буга) у Брэсцкай вобласці, а цяпер яна водзіцца і ў рэках днепроўскага басейна.

Ёсць у нас яшчэ адзін «навасёл» — амерыканская норка. Праўда, гэта самы сапраўдны «навасёл», бо жыве ён у нашых лясах усяго два гады.

Амерыканская норка — драпежнік, які корміцца рознымі жывёламі. Жыве яна ў лясных раёнах, звычайна каля рэк. Колер яе поўсці буры, даўжыня цела за 40 см., ды яшчэ пушысты хвост да 20 см. даўжынёй.

Усе жывёлы, пра якіх тут ішла гутарка, маюць цёплыя, трывалыя і прыгожыя скуркі. Дзякуючы іх каштоўнасці, гэтыя звяры і прывезены да нас. Так за вельмі кароткі прамежак часу промыславая фауна нашай рэспублікі ўзбагацілася трыма новымі відамі. Розныя футравыя вырабы са скурак андатры, норкі і усурыйскага янота паступаюць ужо ў продаж.

**Ю. ПЯТРОЎСКІ.**



пад рэдакцыяй майстра спорту
**А. СУЭЦІНА**

## Год выдатных перамог

У 1955 годзе савецкія шахматысты атрымалі шмат новых выдатных перамог. Савецкія гросмайстры і майстры яшчэ раз прадэманстравалі перавагу савецкай шахматнай школы, даказалі, што яны па праву карыстаюцца рэпутацыяй мацнейшых у свеце.

Да гэтага года шахматысты Савецкага Саюза валодалі трыма сусветнымі званнямі з пяці магчымых (асабістае першынство свету сярод мужчын меў М. Батвіннік, асабістае першынство свету сярод жанчын — Е. Быкава і каманднае першынство свету сярод мужчын належала таксама Савецкаму Саюзу).

У гэтым годзе савецкія шахматысты заваявалі і апошнія два сусветныя званні. Увесну 1955 года каманда савецкіх студэнтаў у складзе гросмайстра М. Тайманава, майстроў Б. Спаскага, В. Антошына, А. Суэціна, Е. Васюкова і А. Нікіціна выйграла каманднае першынство свету сярод студэнтаў, якое праходзіла ў г. Ліёне (Францыя). Перамога была атрымана не лёгка: у нашай каманды былі моцныя канкурэнты — перш за ўсё каманды Югаславіі, Чэхаславакіі і Балгарыі. Але калектыву нашых шахматыстаў удалася значна апярэдзіць сваіх праціўнікаў і забяспечыць сабе першае месца задоўга да апошняга тура першынства.

Праз паўтара месяца пасля гэтай перамогі, улетку 1955 г., у Антвэрпене (Бельгія) праходзілі спаборніцтвы на першынство свету сярод юнакоў. Былі вызначаны вельмі жорсткія ўмовы ўдзелу ў гэтым спаборніцтве — кожная краіна мела права вылучыць толькі аднаго прадстаўніка! Гонар нашай краіны паехаў абараняць васемнаццацігадовы Барыс Спаскі. На турніры ў Спаскага было шмат сур'ёзных, вельмі моцных супернікаў. Але ачко за ачком упэўнена набліжаўся Спаскі да перамогі і скончыў з цудоўным вынікам 8 з 9 магчымых. Апошняе сусветнае званне чэмпіёна свету стала належаць Савецкаму Саюзу!

Улетку 1955 года ў адказ на наш візіт прыязджала ў Маскву каманда шахматыстаў ЗША. Камандзе ЗША, якая лічыцца адной з мацнейшых за рубяжом, не толькі не ўдалася ўзяць рэванш, але нават даць належны адпор у гэтых спаборніцтвах. Вынікі матча 25 : 7 гавораць самі за сябе!

Нарэшце, у верасні г. г. савецкія шахматысты выязджалі ў Гетэборг (Швецыя) для ўдзелу ў міжзанальным турніры. Дзевяць пераможцаў гэтага турніра атрымалі магчымасць аспрэчваць права на ўдзел у матчы «прэтэндэнтаў» на першынство свету, які павінен адбыцца ў наступным, 1956, годзе. Гонар нашай краіны ў гэтым спаборніцтве абаранялі гросмайстры Д. Бранштэйн, П. Керэс, Е. Гелер, Т. Петрасян і майстры Б. Спаскі і Г. Іліўіцкі. Першае месца з цудоўным вынікам 15 ачкоў з 20 магчымых заваяваў савецкі гросмайстар Д. Бранштэйн. Ён не прайграў ніводнай партыі. Апрача Бранштэйна, права прымаць удзел у турніры «прэтэндэнтаў» заваявала яшчэ чатыры прадстаўнікі СССР — Керэс, Петрасян, Гелер і Спаскі. Поспехі юнака Барыса Спаскага, якому вынікі гэтага турніру дазволілі прысвоіць вышэйшае шахматнае званне — міжнароднага гросмайстра, асабліва радасныя для нашай савецкай грамадскасці. Таленавіты васемнаццацігадовы шахматыст, студэнт зараз ужо II курса Ленінградскага універсітэта імя А. А. Жданава, на працягу аднаго года стаў і гросмайстрам і двойчы чэмпіёнам свету.

У чым-жа таямніца перамог нашых шахматыстаў над зарубежнымі? Нашы перамогі тлумачацца дасканаласцю і перавагай савецкай шахматнай школы.

Прывядзем цікавы прыклад.

На турніры ў Гетэборгу чатыром савецкім шахматыстам трэба было сустрэцца з чатырма прадстаўнікамі Аргенціны (сустрэчы вызначаліся па жэрабю). У трох з гэтых сустрэч, дзе нашы шахматысты ігралі белымі, склаўся надзвычайна востры праблемны варыянт сіцыліянскай абароны, які вывучаўся яшчэ задоўга да турніра як нашымі, так і аргенцінскімі ігракамі. Цікава, што ва ўсіх трох партыях першыя дванаццаць ходаў дакладна супадалі. Ігралі Гелер (СССР) — Пано (Аргенціна), Керэс (СССР) — Найдорф (Аргенціна) і Спаскі (СССР) — Пільнік (Аргенціна). Ва ўсіх гэтых партыях першыя дванаццаць ходаў былі: 1. е4 с5, 2. Kf3 d6, 3. d4 cd, 4. К: d4 Kf6, 5. Кс3 а6, 6. Cg5 е6, 7. f4 Се7, 8. Фf3 h6, 9. Ch4 g5?!, 10. fg Kfd7, 11. К: е6 fe, 12. Фh5+Kpf8.



Здаецца, што ў чорных зусім абароназдольная пазіцыя. Таму аргенцінцы ўскладалі вялікія надзеі на поспех, цалкам давяраючы свайму аналізу. Аднак, аналіз нашых гросмайстраў аказаўся больш дакладным і глыбокім. Ва ўсіх партыях савецкія шахматысты зрабілі трынаццаты ход, які зусім зблытаў разлікі іх супернікаў. Гэты ход быў — Cb5!!, пасля чаго ў чорных няма ніякай здавальняючай абароны. Далей партыі ішлі па рознаму, але вынік быў адзіны — перамаглі савецкія шахматысты.

Даем заканчэнне самай кароткай з гэтых партый, партыі Гелер — Пано, у якой далей былі зроблены наступныя ходы: 13. ... Ке5, 14. Cg3!! С: g5, 15. 0—0+Кре7, 16. С: е5 Фb6+, 17. Kph1 de, 18. Фf7+Kpd6, 19. Лad1+Фd4, 20. Л: d4+ed, 21. е5+! Крс5, 22. Фс7+Кс6, 23. С: с6, і чорныя здаліся.

Класічны разгром!

## ЧАМУ МЫ ТАК ГАВОРЫМ?

### «ПАСАЛІЎШЫ, ЕСЦІ МОЖНА»

**Вам здаралася, магчыма, набываць што-небудзь такое, чым вы не зусім задаволены. «Ну, як, — спытаецца хто-небудзь, — падабаецца?» «Ды нічога, — прыцярпеецца вы ў адказ, — пасаліўшы, з'есці можна». Часам гавораць гэта аб такіх рэчах, якія ніхто саліць не стане і тым больш не рызыкне з'есці.**

**Узнікла гэтая прымаўка, як гавораць у народзе, ад наступнага апавядання.**

**Ажаніўся адзіны сын у маці. Вось прышоў ён аднойчы з работы, а маці яму на стол абед падала. Папрабаваў сын боршч, зморшчыўся і пытаецца са злосцю:**

**«Хтоварыў? Вочы-б яму заліў!»**

**«Ды гэта-ж жонка твая варыла», — адказвае маці.**

**«А-а-а, — спакойна заўважае сын, — пасаліўшы, есці можна».**

### «ЖЭЎЖЫК»

**Аб жвавым, вёрткім чалавеку, асабліва аб гарэзлівым хлапчукушкольніку часта кажуць: «Вось жэўжыкам круціцца» або проста назавуць гарэзу ласкавай і дабрадушнай мянушкай «жэўжык». Часам так называюць сваіх маленькіх герояў Купала і Колас. Але ёсць у Коласа адзін верш аб вясне, дзе жэўжыкам называецца не хлопчык, а ручаёк: «Звоніць, скача, як дзіцятка, гэты жэўжыкручаёк». Здаецца, справа простая, тут слова ўжыта ў пераносным сэнсе. Але пры больш дэталёвым даследаванні аказваецца, што справа гэтая больш складаная, чым здаецца.**

**Слова «жэўжык» сваім паходжаннем ідзе ад далёкай мінуўшчыны, калі беларусы былі яшчэ язычнікамі і пакланяліся мноству багоў. Сярод іх быў і такі бог, які выконваў ролю апекуна ўсіх рэк, азёр і ручаёў. Гэта быў добры бог — ён заўсёды ратаваў людзей, дапамагаў суднам, суцішаў буры і вятры. Днём ён плаваў над вадою, а ноччу па вадзе ў «чаўне-недабачцы» і закрываўся ад людскіх вачэй доўгім жутлом — прутам з двума жалезнымі зубцамі на канцы. Ніхто з людзей не бачыў гэтага бога, але ўсё-ж узнікла паданне, што гэты бог — худзенькі дзядок невялікага росту, з рыжай барадой, доўгай шыяй і маленькай галоўкаю з доўгімі тонкімі нагамі і рукамі. І быццам-бы гэты бог — вельмі жвавы і спрытны, вельмі рухавы, як і яго стыхія — вада. І звалі гэтага бога Жэўжыкам.**

**Вось і атрымліваецца, што слова «жэўжык» мае больш даўнія дачыненні да ручайкоў, чым да дзяцей.**

**А. МАЖЭЙКА.**

## КРАСВОРД

Склалі: **В. Шырын і Е. Шчурок.**

**Па гарызанталі:** 4. Партовы горад на поўначы СССР. 8. Горад на Дунаі. 9. Бура. 10. Вапняковае нагор'е ў поўднёва-ўсходніх Альпах. 11. Горная парода — разнавіднасць вапняку. 12. Выдатны рускі географ. 14. Мінерал, сернакіслы барый. 15. Сталіца еўрапейскай краіны. 18. Пустыня. 19. Гарачая крыніца. 22. Рака ў Азіі. 23. Зборнік карт. 25. Порцыя праменнай энергіі. 27. Бясформенная рэчыва. 32. Пустазелле, прадстаўнік сямейства складанакветкавых. 33. Заціша на моры. 34. Краіна ў Азіі. 35. Краіна ў Поўднёвай Амерыцы. 36. Будаўнічы камень. 39. Патухшы вулкан у Турцыі. 42. Цяжкі газ. 44. Водная прастора Зямлі. 47. Частка круга. 49. Возера ў Сібіры. 51. Паласа лісцёвых дрэў уздоўж ракі. 52. Каштоўны камень. 53. Прадстаўнік малп. 54. Славуты рускі вучоны, падарожнік, даследчык Азіі.

**Па вертыкалі:** 1. Складчатыя горы ў Еўропе. 2. Ледавік. 3. Лінія, злучаючая пункты з аднолькавым атмасферным ціскам. 4. Шматгадовая трава з сямейства лілейных. 5. Выступ, утвораны пры апусканні па трэшчынах двух участкаў зямной кары. 6. Узяты напрамак. 7. Зярняты для пасеву. 11. Рака ў Закаўказзі. 13. Замёрзлая раса. 14. Плод трапічнай расліны. 16. Дэкаратыўная расліна ў субтрапічных раёнах. 17. Геніяльны рускі вучоны XVIII стагоддзя. 18. Мінерал з групы сярністых. 20. Адно з дзяленняў компаса. 21. Частка свету. 24. Нагор'е ў Цэнтральнай Азіі. 26. Рака, якая выцякае з Чудскага возера. 28. Драбнейшая частка матэрыі. 29. Сукупнасць відаў раслін. 30. Хімічны элемент, які прымяняецца ў сплавах. 31. Выступы дакембрыйскага фундамента, даўнейшыя часткі сушы. 37. Горад. 38. Планета. 40. Каралавы востраў. 41. Палярная вобласць Зямлі. 43. Выдатны савецкі географ і геолаг. 45. Хімічны элемент. 46. Сукупнасць галін дрэва. 48. Прадстаўнік прэснаводных рыб. 50. Прадстаўнік народнасці ў СССР.




Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).

«Молодость».
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара — 93-648, намесніка рэдактара — 93-592, адказн. сакратара — 93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі — 93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі — 93-985, аддз. ілюстрацый — 93-892, аддзел пісем — 93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Здадзена ў набор 13.XI.55 г. Падпісана да друку 30.XI.55 г.

Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб.

АТ 09807. Заказ 726.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



**Апошні рэйс.**
Фотаэцюд М. Ананьіна.

На першай старонцы вокладкі: **Пераможца другіх міжнародных спартыўных гульняў на фестывалі моладзі і студэнтаў у Варшаве, абсалютны чэмпіён БССР па штанзе, майстар спорту Яўгені Новікаў.**
На чацвёртай старонцы вокладкі: **Галоўны канвеер Мінскага аўтамабільнага завода.**
Фото А. Дзітлава.

